**ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ** Агенцтва друку Навіны, а таксама аўтар «Крыніцы», 53-гадовы **ЮРЫЙ СОМАЎ** — прыкметнае імя ў нашай спартыўнай фотажурналістыцы. Залатыя медалі на міжнародных выставах у Швецыі, Канадзе, Бразіліі, Чэхаславакіі, мноства дыпломаў і іншых узнагарод сведчаць аб ягоным высокім прафесіяналізме і майстэрстве.

За плячыма ў Юрыя Сомава 30 гадоў працы ў журналістыцы. Фатаграфіяй ён стаў займацца яшчэ ў школе і адразу выбраў спартыўную тэматыку, што лёгка растлумачыць:









Юрый быў добрым баскетбалістам, гуляў за юнацкую зборную Масквы. У 1958 годзе, адслужыўшы ў арміі, Сомаў прыйшоў у Савецкае інфармбюро (на яго базе ў 1961 годзе было створана Агенцтва друку Навіны).

З тае пары ён аб'ездзіў з камераю паўсвету. Неаднойчы мне даводзілася бачыць, як ён працуе. Сомаў, вядома, загадзя ўяўляе, што і як ён будзе здымаць, але не згадаю выпадку, каб планы гэтыя выконваліся са стопрацэнтнай няўхільнасцю: сітуацыя часта вымагала імправізацыі, імгненнага рашэння, і творчая натура фотамайстра нязменна падказвала яму адзіна дакладныя крокі.

У Юрыя шчаслівы характар. Яго любяць спартсмены, якіх яму даводзілася здымаць: сярод блізкіх сяброў Сомава — Валерый Брумель і Віктар Санееў, Валерый Барзоў і Аляксандр Мядзведзь, Леў Яшын і Галіна Празуменшчыкава. Ён па-ранейшаму адчувае сябе маладым, лёгка знаходзіць агульную мову з новымі спартыўнымі зоркамі, такімі, як героі сённяшняга дня Сяргей Бубка і Марына Лобач. Чэмпіёны цэняць у Юрыю Сомаве не толькі адмысловага фотамайстра, не толькі добрага, чулага чалавека, але і яго веданне спорту.

Наталля **ЛОМАВА**


*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

КРЫНІЦА

№ 9 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Рэдакцыйная калегія:
Генадзь БУРАЎКІН
Аляксей ДУДАРАЎ
Леанід ЕКЕЛЬ (намеснік галоўнага рэдактара)
Міхась КАЦЮШЭНКА (першы намеснік галоўнага рэдактара)
Уладзімір ЛАБУНОЎ
Міхась ПАДГАЙНЫ
Аляксей СКАКУН
Мікалай ЧАРГІНЕЦ
Павел ЯКУБОВІЧ

Мастацкі рэдактар
Сяргей ФІЛІПАЎ
Тэхнічны рэдактар
Марына МАЛЕЦ

Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы.
Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 14.07.89.
Падпісана да друку 17.08.89.
АТ 17676.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,2.
Тыраж 52 860 экз.
Зак. 301. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

1-я стар. вокладкі:
Плакат Дзмітрыя Сурскага



Фота Уладзіміра КАЦАПАВА

люстраная
зала

# не толькі пра каханне

*(два лісты на адну тэму)*

Такі ліст пішу ўпершыню. Спачатку колькі радкоў пра сябе. Мне 22 гады. Жыву ў горадзе Паставы, працую фатографам. Дагэтуль спрабаваў свае сілы ў якасці мастацкага кіраўніка ў самадзейнасці і вадзіцеля аўтамабіля. І хоць многія кажуць, што праца — гэта галоўнае, я асабіста ў гэта не веру. Праца — гэта ўсяго толькі спосаб матэрыяльнага забеспячэння, не больш. Працуй хоць дзень і ноч, але калі ў цябе няма кахання, няма сяброў, лягчэй табе не стане. А зараз непасрэдна пра тое, што падштурхнула мяне звярнуцца да вас. Скажу прама: патрэбна дапамога. Я не ведаю, як жыць далей і што мне рабіць. З маленства мяне не любілі настаўнікі ў школе, хоць ні дысцыпліны, ні вучэбнага рэжыму я не парушаў. Гэта заўважалі мае аднакласнікі. Яны таксама, пераймаючы старэйшых, пазбягалі мяне. Спачатку гэта ўспрымалася як неўладкаванасць. Але ў старэйшых класах я пачаў разумець, што лепш быць аднаму, чым увесь час слухаць незаслужаныя папрокі. Так фармавалася мая асоба. Потым, калі я пайшоў працаваць, мяне зноў сталі папракаць. Папрокі зводзіліся да таго, што я залішне адкрыты і сумленны. Вось я і стараюся зразумець, навошта патрэбныя заклікі да справядлівасці, і сумняваюся, што яна ўвогуле існуе.

Зараз паспрабую звязаць неўладкаванасць у побыце з неўладкаванасцю духоўнай. У 17 гадоў у мяне з'явілася дзяўчына, якую я пакахаў. Звалі яе Алена. Але паколькі горад наш невялікі, а Алена вельмі верыла чуткам, якія распаўсюджваліся нячыстымі людзьмі, мы неўзабаве развіталіся, хоць яна была ў мяне адзіная, і я ёй ніколі не здраджваў. Потым справы пайшлі па іншай каляіне. Я імкнуўся знайсці дзяўчыну, сяброўку, але пры кожным новым знаёмстве чуў адно і тое ж: «Я занятая, у мяне ёсць сябра». І неўзабаве маё жаданне кахаць перайшло ў стадыю невыканальных. Тады я замкнуўся, стаў адасабляцца ад людзей. З кожным днём мне ўсё цяжэй і цяжэй. Цяпер зусім няма ні сяброў, ні сябровак. Я адзін, адзін у гэтым вялікім і шматлюдным свеце. Цяпер я часам адчуваю страх за будучыню. Адначасна паўстаюць пытанні: дзе знайсці каханую, хто і калі зразумее мяне? Той, хто адчуваў адзіноту, ведае, што гэта такое. Але калі адзінота цягнецца гадамі — гэта страшна. Лепш памерці, чым жыць у нудзе і няпэўнасці. У мяне сілы няма глядзець на закаханых маладых людзей. Кожны раз, калі сустракаеш шчаслівую пару, да горла падступае горкі камяк. Я баюся, што ніколі ўжо не змагу кахаць. Я адчуваю, што адзічэў душэўна. Але папраўіць сваё становішча ніяк не магу. Мяне не разумеюць блізкія людзі. Страшна быць аднаму. Таму, паважаная рэдакцыя, прашу вашай дапамогі. Парайце, калі ласка, што мне рабіць, як далей жыць. Бо так нельга, а інакш не выходзіць. Тым больш што сучасным дзяўчатам падабаюцца вясёлыя, дасціпныя жартаўнікі, а я — песіміст. Звяртаўся я і ў службу знаёмстваў — марна. Гэта была мая апошняя надзея, але, як я зразумеў, сур'ёзныя людзі і там не патрэбныя. А я не магу жыць блазнам. Не ўмею. Застаецца адзіны шлях — гэта пайсці ад усяго да продкаў. Няўжо на самай справе нараджаюцца лішнія людзі? Дарагая рэдакцыя, прашу вас, дапамажыце! Хачу жыць! Хачу хоць трохі кахання і ласкі. Можа, вы і не паверыце, але гэта праўда: за 22 гады свайго жыцця я ні разу не пацалаваў дзяўчыну, хоць у мяне і была каханая. Я не згадваю, каб пачуў ад некага добрае слова. Такога не было. Але я не злачынца. Я сумленны чалавек. За што ж такія пакуты? Вельмі вас прашу: дапамажыце, калі ласка!

Сямён,
г. Паставы

**Вырашыў вам напісаць, хоць гэта можа здацца марнаваннем часу і зводам паперы. Пісьменніцкіх здольнасцей я не маю і ўвогуле ў рэдакцыю пішу ўпершыню. Хачу, каб вы мяне па-чалавечы зразумелі. Справа ў тым, што я так далёка зайшоў у сваім жыцці, што адчуваю: трапіў у сапраўдны тупік, а выхаду з яго не магу знайсці. Нарадзіўся я і вырас у нармальнай рабочай сям'і, усё, што мне было трэба, меў, хоць жылі мы небагата, і заўсёды ў нас было весела і шумна (маці выхоўвала разам са мною яшчэ траіх дзяцей, якія засталіся ад яе сястры, маёй цёткі). Словам, не магу растлумачыць. Аб гэтых гадах у мяне засталося вельмі светлае ўражанне, было неяк па-чалавечы цёпла. І вось мы падраслі, я і брат пайшлі ў армію, сёстры павыходзілі замуж. Непрыкметна прайшоў час, я адслужыў (быў у артылерыйскіх войсках). Два разы ўдзельнічаў у парадзе ў Маскве, праязджаў па Чырвонай плошчы на баявой устаноўцы. Нібыта, азірнуўшыся назад, ёсць што ўспомніць, і жыццё быццам нядрэннае. Але пасля службы ў арміі мяне стала нешта трывожыць, здавалася, што ўсё не так, як хацелася б. Былі ў мяне сябры і знаёмыя дзяўчаты, былі кароткія раманы, была праца. Спачатку аб працы. Увогуле, у мяне спецыяльнасць вадзіцеля, і ў арміі ім быў. Яна мне падабалася з дзяцінства. Прыйшоў з арміі, пайшоў на аўтабазу. Там сказалі: папрацуй месяцы два слесарам і дадзім машыну. Я згадзіўся. Але прайшло паўгода, мне адмовілі. Прыйшлося звальняцца. Потым спрабаваў яшчэ некалькі разоў уладкавацца вадзіцелем, але ўсюды адмова, хоць мае знаёмыя ўжо даўно працавалі на машынах, ды яшчэ на новых. Для гэтага, казалі яны, патрэбна валасатая лапа. А ў мяне не яе не было. Пайшоў грузчыкам у Гархарчгандаль, папрацаваў чатыры месяцы, не змог — не, не з-за цяжкасцей, проста не ляжыць сэрца, апускаюцца рукі, на працу ісці моташна. Стаў вучыцца на кранаўшчыка вежавых кранаў, вывучыўся. Пасля працаваў тры гады на кране, але зноў адчуваю: не магу болей. Стаў нервавацца, раздражняцца, грубіяніць. Ну не ўдаецца мне ў жыцці нічога, не магу працаваць дзе хацелася б. Не магу я ні «падмазаць» каго-небудзь, ні прыніжацца просьбамі. У іх, у кіраўнікоў, такі аргумент: у цябе, маўляў, стажу вадзіцельскага няма, а армейскі не лічыцца. Ну, а дзе ж мне ўзяць гэты стаж, калі ніхто не бярэ вадзіцелем. Армейскі стаж не залічваецца, хоць я ўздоўж і ўпоперак аб'ездзіў усе палігоны РСФСР, па калдобінах і пылу, маю за парад падзяку Міністра абароны (гэта, выяўляецца, не залічваецца). Ды яшчэ паглядзяць, што ў працоўнай кніжцы шмат запісаў, што змяніў шмат месцаў працы, значыцца, алкаголік і лятун. Але ніхто не задумаўся ніколі пра тое, што я мяняю работы таму, што не маю сілы працаваць там, дзе мне не падабаецца. Але каму дакажаш! А працаваць жа недзе трэба, на матчынай шыі сядзець не будзеш. Я страціў усялякую веру, не, не ў людзей, а ў гэтых самых бюракратаў, якія не могуць зразумець ЧАЛАВЕКА! Але пра гэта яшчэ скажу.**

**Можаце мне не верыць, але тое, пра што я вам яшчэ збіраюся расказаць, чыстая праўда. Я з-за гэтай работы пакутую ўсё жыццё. Стаў замкнёны, нікуды не хаджу, ні з кім не сустракаюся і не знаёмлюся. Жыву як робат: з дому на працу і назад. Але гэта яшчэ не ўся бяда ў маім жыцці. Вось ужо мне стукне 28 гадоў, а я яшчэ ніяк не магу завесці сям'ю. Пазнаёміцца не магу, не хапае сілы і расчараваўся цалкам у дзяўчатах. Траплялся мне на жыццёвым шляху розныя, але гэта ўсё не тое. То гуляе, то неразвітая, няма пра што пагаварыць. Былі і такія, што не ведалі, дзе поўнач, а дзе поўдзень! Я ўсё жыццё марыў аб добрай жонцы, аб дзецях, аб сям'і. А гады ішлі... Цяпер на танцы не пойдзеш, на працы жанчын няма. Што, я шыльду сабе на шыю павешу з надпісам: «Шукаю разумную і добрую дзяўчыну!»! Хоць я па сваёй натуры і добры, і знешне нармальны. Адзіны, можна сказаць, недахоп: я трохі паўнаваты, але і гэта можна выправіць. А ім падабаюцца хлопцы зухаватыя, каб як найсмялей дзейнічалі. А я не магу так, я хачу па-чалавечы. Але нічога не выходзіць. Я і з вамі шчырую толькі таму, што не гляджу вам у вочы. Чаму адным усё ў жыцці: і праца, і сям'я, а мне нічога. Я баюся застацца адзін, я не выжыву, ну яшчэ год ці два, а там, я кажу шчыра, пайду з гэтага жыцця, бо ніякіх жыццёвых перспектыў не бачу, апускаюцца рукі. Гэта мой першы і апошні ліст да вас, апошняя надзея. Я ведаю, што недзе жыве чалавек, якому, можа быць, горш, чым мне, у сто разоў, і ён таксама пакутуе, а ў адказ толькі ўсмешкі і каменная абыякавасць. Не ведаю, як жыць далей, усё пайшло кулём. Парайце, дапамажыце мне хоць чым-небудзь. Накіруйце мяне на шлях, скажыце, што рабіць, куды пайсці і каго прасіць! Хачу жыць, хачу шчасця! Хто адгукнецца на мае словы! Калі хто мне дапаможа, я буду ўдзячны да смерці. І можа, вашая «Крыніца» стане той самай чыстай кропляю вады, якая ажывіць мяне!**

**Гэта ўсё ж надзея, хоць нейкая.**

**Аляксандр,
г. Баранавічы**

**Алег ЦІХАНАЎ, кандыдат гістарычных навук**

арыенціры

# Стэрэатыпы і рэальнасць

## да гісторыі знешняй палітыкі СССР

Перабудова ўсіх бакоў грамадскага жыцця, якая праводзіцца цяпер у нашай краіне, дэмакратызацыя, галоснасць дазваляюць крытычна ацаніць тыя ці іншыя знешнепалітычныя крокі Савецкай дзяржавы ў розныя перыяды яе гісторыі, раскрыць сапраўдную, а не прапагандысцкую падаснову пэўных падзей. Пра гэта адкрыта было сказана ў дакладзе М. С. Габрачова «Кастрычнік і перабудова: рэвалюцыя працягваецца» і на XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС.

Вядома, што ў ААН уваходзяць, апроч Савецкага Саюза, Украінская ССР і Беларуская ССР. Гэта вядзе свой пачатак з перыяду Вялікай Айчыннай вайны, калі 1 лютага 1944 г. Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб прадастаўленні саюзным рэспублікам паўнамоцтваў у галіне знешніх зносін. У савецкай літаратуры гэты крок тлумачыцца неабходнасцю пашырэння міжнародных сувязей СССР з іншымі дзяржавамі, патрэбамі саюзных рэспублік ва ўсталяванні непасрэдных зносін з замежнымі дзяржавамі і г. д. Але Сталін не быў з тых людзей, якія клапаціліся аб пашырэнні суверэнітэту рэспублік. У яго былі больш прагматычныя мэты, а менавіта — мець больш галасоў у будучай міжнароднай арганізацыі па падтрыманні міру і бяспекі, арганізацыі, якая атрымала пазней назву ААН.

Канферэнцыя міністраў замежных спраў СССР, ЗША і Англіі, якая адбылася ў Маскве ў кастрычніку 1943 г., прыняла Дэкларацыю ў пытанні аб агульнай бяспецы, у якой гаварылася пра неабходнасць стварэння пасля вайны «ўсеагульнай міжнароднай арганізацыі для падтрымання міжнароднага міру і бяспекі, заснаванай на прынцыпе суверэннай роўнасці ўсіх міралюбівых дзяржаў, членамі якой могуць быць усе такія дзяржавы — вялікія і малыя». Гэтае рашэнне было зацверджана на Тэгеранскай канферэнцыі кіраўнікоў трох дзяржаў (28 лістапада — 1 снежня 1943 г.). Перад нашым кіраўніцтвам, відавочна, паўстала пытанне: якія будуць члены гэтай арганізацыі? Варожыя ці прыязныя? І паміж гэтым пытаннем і законам ад 1 лютага 1944 г., як уяўляецца, ёсць прамая сувязь.

На канферэнцыі экспертаў трох дзяржаў, якая адбылася ў жніўні-кастрычніку 1944 г. у прыгарадзе Вашынгтона Думбартан-Оску, кіраўнік савецкай дэлегацыі А. А. Грамыка ўзняў пытанне аб прыёме ў якасці першапачатковых членаў будучай арганізацыі ўсіх 16 савецкіх рэспублік (тады ў іх ліку была і Карэла-Фінская ССР). Ён грунтаваў сваю прапанову на прэцэдэнце, створаным Англіяй, якая выступіла за прыём у будучую ААН брытанскіх дамініёнаў, а таксама Індыі, якая была тады яшчэ калоніяй. Савецкая прапанова сустрэла рашучыя пярэчанні з боку ЗША і Англіі і больш не ўнослася. На Ялцінскай канферэнцыі кіраўнікоў трох дзяржаў у лютым 1945 г. было знойдзена кампраміснае рашэнне пытання: у лік першапачатковых членаў ААН, апроч СССР, былі ўключаны Украіна і Беларусь, улічваючы, як сказаў тагачасны дзяржаўны сакратар ЗША Стэцініўс, «гераічную ролю, адыграную насельніцтвам гэтых рэспублік у яго нязломным супраціўленні агульнаму ворагу, і стойкасць, з якой яно вынесла вялікія пакуты ў час вайны».

У нас справядліва прынята лічыць, што кіруючыя колы імперыялістычных дзяржаў, перш за ўсё ЗША, не жадаючы змірыцца з пасляваеннымі зменамі ў міжнародным жыцці, асабліва з узрастаннем магутнасці і аўтарытэту Савецкага Саюза, адкрыта сталі на шлях барацьбы супраць яго ў форме «халоднай вайны». Яе пачатак звычайна датуецца 5 сакавіка 1946 г. — прамовай Чэрчыля ў амерыканскім горадзе Фултане. Але повад да яе даў сам Сталін сваімі паводзінамі ў Паўночным Іране.

Яшчэ ў час вайны, 25 жніўня 1941 г., дзеля прадухілення прагерманскай дзейнасці ў Іране савецкія войскі ўступілі ў паўночную частку краіны, а англійскія — у паўднёвую. Дзеянні СССР былі юрыдычна апраўданыя: яны грунтаваліся на артыкуле 6 савецка-іранскай дамовы 1921 года, паводле якой СССР мае права на ўвод войскаў, калі іранскі ўрад сам не зможа справіцца з небяспекаю выкарыстання Ірана ў якасці плацдарму для нападу на СССР. (Гэтая дамова бестэрміновая і застаецца ў сіле дагэтуль.) Паводле дамовы паміж СССР, Англіяй і Іранам ад 29 студзеня 1942 г. войскі саюзнікаў павінны былі пакінуць іранскую тэрыторыю праз 6 месяцаў пасля заканчэння другой сусветнай вайны, гэта значыць да 2 сакавіка 1946 г. Да гэтага часу англічане вывелі свае войскі, але савецкія па-ранейшаму там заставаліся. І гэта, відавочна, мела прамое дачыненне да руху за стварэнне ў Паўночным Іране «Дэмакратычнай Рэспублікі Іранскага Азербайджана». У сувязі з гэтым урад Ірана накіраваў у Савет Бяспекі ААН скаргу на СССР, абвінаваціўшы яго ва ўмяшанні ва ўнутраныя справы краіны і ў парушэнні дамовы 1942 г. Гэта, дарэчы, было, па сутнасці, першае пытанне, разгледжанае Саветам. На яго пасяджэнні 28 студзеня 1946 г. прадстаўнік СССР Вышынскі адмаўляў сцвярджэнні Ірана і заявіў, што гаворка ідзе «пра імкненне азербайджанскага народа да нацыянальнай аўтаноміі ў межах іранскай дзяржавы». Па прапанове Англіі была прынята рэзалюцыя, якая рэкамендавала абодвум бакам прадоўжыць перамовы і паведаміць пра іх вынікі ў Савет Бяспекі. У сакавіку пасля патрабавання Ірана Савет Бяспекі вярнуўся да разгляду гэтага пытання.

Да 6 мая 1946 г. савецкія войскі былі цалкам выведзены з Паўночнага Ірана. Адразу пасля іхняга вываду там пачалася разня камуністаў і прыхільнікаў аўтаноміі іранскіх азербайджанцаў. І менавіта сам Сталін растлумачыў, чаму ён не выводзіў савецкія войскі і інспіраваў сепаратысцкі рух у Іранскім Азербайджане. Як піша ў сваіх мемуарах тагачасны амерыканскі пасол Бедэл Сміт, у час гутаркі з савецкім кіраўніком у красавіку 1946 г. той сказаў яму: «Вы не зразумелі нашага становішча, што датычыць нафты і Ірана. Бакінскае радовішча — наша галоўная нафтавая крыніца. Яно блізкае да іранскай мяжы і вельмі прыступнае. Берыя і іншыя мне кажуць, што дыверсанты — нават адзін з карабком запалак — можа нанесці нам сур'ёзную шкоду. Мы не збіраемся рызыкаваць сваёй нафтаю». Але паводле гэтае логікі можна зайсці дужа далёка: паблізу ж ад мяжы знаходзяцца і Уладзівасток, і Мурманск, і Ерэван, і многія іншыя важныя савецкія гарады і аб'екты.

Пасля вываду савецкіх войскаў з Ірана абстаноўка ў пэўнай ступені разрадзілася. У верасні 1946 г. Сталін у адказах на пытанні карэспандэнта англійскай газеты «Таймс» А. Верта выказаўся за «палітыку мірнага супрацоўніцтва з іншымі краінамі». Той жа Чэрчыль з нагоды дня нараджэння Сталіна 21 снежня 1946 г. накіраваў яму віншавальную тэлеграму, у якой назваў яго «маім ваенным таварышам», на што ён адказаў «цёплай падзякаю». У той самы дзень Сталін прыняў сына прэзідэнта ЗША нябожчыка Ф. Д. Рузвельта, Эліёта, і ў гутарцы з ім выказаў думку, што «небяспека новай вайны нерэальная», бо людзі «стаміліся ад вайны». У студзені 1947 г. ён прыняў англійскага фельдмаршала Мантгомеры і ў гутарцы з ім падтрымаў ідэю «ваеннага саюза» паміж СССР і Англіяй для ўзмацнення ці замены савецка-англійскай дамовы 1942 г.

Але 12 сакавіка 1947 г. была абвешчана «дактрына Трумэна»: амерыканскі прэзідэнт заявіў пра намер ЗША ўздзейнічаць ваеннаю дапамогу Грэцыі і Турцыі, а таксама іншым краінам, якім «пагражае камунізм». Справа ў тым, што да гэтага часу ў Грэцыі ўспыхнула грамадзянская вайна паміж дэмакратычнымі сіламі, на чале якіх была камуністычная партыя, і кіруючым буржуазна-манархічным рэжымам. На працягу 1947—1949 гг. Генеральная Асамблея ААН прымала рэзалюцыі з асуджэннем Албаніі, Балгарыі і Югаславіі за дапамогу грэчаскім партызанам. Грамадзянская вайна скончылася ў 1949 годзе паражэннем дэмакратычных сіл, абарвала жыццё дзесяткаў тысяч людзей, прынесла вялікія пакуты і разбурэнні, многія вымушаны былі эмігрыраваць. Пазней, у 1956 г., кіраўніцтва Кампартыі Грэцыі прызнала памылковасць свайго курсу на грамадзянскую вайну. У Турцыі грамадзянскай вайны не было. Але туркі былі ўстрывожаныя разгорнутай у савецкім друку кампаніяй за вяртанне «спрадвечна рускіх тэрыторый» — раёнаў Карса, Ардагана і Баязета,— і не дзіва, што яны кінуліся ў абдымкі да амерыканцаў. Толькі ў 1953 г.— пасля смерці Сталіна — урад СССР афіцыйна аб'явіў, што не мае тэрытарыяльных прэтэнзій да Турцыі. І ў гэтым выпадку Сталін даў повад для ўзмацнення Захадам «халоднай вайны».

У першыя пасляваенныя гады вельмі востра стаяла германскае пытанне. Савецкі Саюз праводзіў курс на ўз'яднанне Германіі. Напрыклад, на 4-й сесіі Савета Міністраў замежных спраў чатырох дзяржаў (Масква, сакавік-красавік 1947 г.) ён унёс прапанову стварыць цэнтральныя агульнагерманскія органы, прыняць часовую канстытуцыю, правесці на яе аснове выбары і сфарміраваць агульнагерманскі ўрад. Заходнія дзяржавы таксама былі за аб'яднанне Германіі, але шляхам «свабодных выбараў», што ў тагачасных умовах азначала б паглынанне савецкай зоны, бо ў заходніх зонах жыла пераважная большасць насельніцтва. З гэтым СССР згадзіцца не мог.

У сакавіку 1948 г. ЗША, Англія і Францыя правялі ў сваіх зонах сепаратную грашовую рэформу, распаўсюдзіўшы яе на заходнія сектары Берліна, што было парушэннем Патсдамскіх пагадненняў. СССР прыняў контрмеры: перапыніў з 1 красавіка чыгуначныя і аўтамабільныя шляхі зносін паміж Заходнім Берлінам і акупацыйнымі зонамі ЗША, Англіі і Францыі, пачаўшы, па сутнасці, блакаду Заходняга Берліна, якая працягвалася да 30 верасня 1949 года. ЗША і Англія ў сваю чаргу прынялі меры ў адказ, арганізаваўшы «паветраны мост», які быў досыць эфектыўны — па ім у Заходні Берлін перапраўлялі 2,5 млн. тон прадуктаў, вугалю і іншых грузаў.

Такі фактычны бок справы. Натуральна, Савецкі Саюз павінен быў неяк рэагаваць на сепаратныя крокі заходніх дзяржаў. Але ці трэба было ўводзіць блакаду? Наўрад ці. Як вынікае з апублікаваных дакументаў, Сталін у гутарцы з пасламі ЗША, Англіі і Францыі адмаўляў, што такім чынам ён спрабуе прымусіць іх пакінуць Заходні Берлін. Але ў чым тады быў сэнс блакады? Пераканаўчага адказу на гэтае пытанне няма. Зразумела адно: блакада дала сур'ёзны повад для ўзмацнення Захадам «халоднай вайны» і прывяла свет на мяжу вайны «гарачай». Што магло б здарыцца, калі б савецкая авіяцыя збіла хоць адзін амерыканскі ці англійскі самалёт? Справа магла б дайсці і да сапраўднай вайны. Па сутнасці, СССР ніякіх выгод для сябе гэтай блакадаю не дамогся. Затое амерыканскія ваенна-паветраныя сілы вярнуліся ў Англію, 4 красавіка 1949 г. была створана Арганізацыя Паўночнаатлантычнага дагавора (НАТО), 21 верасня 1949 г. была створана Федэратыўная Рэспубліка Германіі. У адказ 7 кастрычніка таго ж года было абвешчана стварэнне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Раскол Германіі стаў канстатаваным фактам, «халодная вайна» стала яшчэ больш інтэнсіўная. Яе кульмінацыйны пункт — вайна ў Карэі ў 1950—1953 гг.

Можна было б назваць і іншыя памылкі і пралікі ў савецкай знешняй палітыцы гэтага перыяду. І яны былі непазбежныя ў сітуацыі, у якой любыя рашэнні прымаліся адной асобаю, што прытрымлівалася догмаў 20—30-х гг., была пераканана ў сваёй геніяльнасці і непагрэшнасці, лічыла да канца свайго жыцця любыя праявы гнуткасці ў знешняй палітыцы капітулянцтвам. Што ж да людзей, якія акружалі Сталіна, дык сярод іх не было такіх, хто б мог станоўча ўплываць на яго. Дый быць не магло: усе яны былі не толькі пасрэднасцямі, але і такімі ж дагматыкамі, як Сталін.

Пасля смерці Сталіна новае савецкае кіраўніцтва прыняло сур'ёзныя меры для аслаблення міжнароднай напружанасці і паляпшэння адносін з іншымі краінамі. Перыяд 1953—1959 гг. быў асабліва плённы ў гэтым дачыненні, і тут несумненная заслуга М. С. Хрушчова. Заканчэнне вайны ў Карэі (1953) і ў Індакітаі (1954), нармалізацыя адносін з Югаславіяй, заключэнне Дзяржаўнага дагавора з Аўстрыяй і вывад акупацыйных войскаў з гэтай краіны, устанаўленне дыпламатычных адносін СССР з ФРГ (1955) і з Японіяй (1956), нарада кіраўнікоў СССР, ЗША, Англіі і Францыі (Жэнева, 1955), развіццё адносін СССР з Індыяй, Інданезіяй, Егіптам і іншымі новымі незалежнымі дзяржавамі, паездка Хрушчова ў ЗША (1959), падпісанне дагавора аб Антарктыцы (1959) — вось далёка не поўны пералік паспяховых вынікаў у нашай знешняй палітыцы. Праўда, аб заканчэнні «халоднай вайны» гаварыць было яшчэ рана. Пазітыўнае чаргавалася з негатыўным: англа-франка-ізраільская агрэсія супраць Егіпта і паўстанне ў Венгрыі (1956), інтэрвенцыя ЗША і Англіі ў Ліване і Іарданіі (1958), інцыдэнт з амерыканскім шпіёнскім самалётам «У-2» і зрыў нарады кіраўнікоў вялікіх дзяржаў (1960), ваенная інтэрвенцыя Бельгіі ў Конга і звяржэнне прагрэсіўнага рэжыму П. Лумумбы (1960—1961), уварванне контррэвалюцыйных наймітаў на Кубу (1961). Але ўвогуле у канцы 50-х — пачатку 60-х гг. савецкі народ дый увесь свет уздыхнулі больш свабодна — небяспека новай сусветнай вайны была адсунута.

Аднак суб'ектывізм і валюнтарызм Хрушчова неўзабаве выявіліся і ў знешняй палітыцы, што мела ад-

моўныя вынікі. Дый увогуле ён быў схільны рабіць нястрыманыя і нават абразлівыя заявы. Напрыклад, на прэс-канферэнцыі ў Маскве 3 чэрвеня 1960 г. назваў амерыканскага прэзідэнта Эйзенхаўэра «слабаком» і сказаў: «Калі прэзідэнт перастане быць прэзідэнтам, самы вялікі пост, які мы маглі б яму прапанаваць,— гэта загадчыка дзіцячым садочкам. Ён не зробіць дзецям шкоды. Але як кіраўнік магутнай дзяржавы ён больш небяспечны і можа зрабіць шмат шкоды». Або ўчыненыя ім сцэны ў ААН у верасні 1960 г., калі ён стукаў кулакамі і нават чаравікамі па стале, калі яму не падабаліся словы таго ці іншага прамоўцы...

Улетку 1961 г. абвастрылася сітуацыя вакол Заходняга Берліна, узнік «берлінскі крызіс». Яшчэ ў лютым 1960 г. краіны Варшаўскага дагавора, кіруючыся імкненнем пакончыць з рэштками другой сусветнай вайны ў Еўропе, выступілі з прапановаю заключыць мірны дагавор з абедзвюма Германіямі і ператварыць Заходні Берлін у дэмілітарызаваны вольны горад, што само па сабе цалкам справядліва. Прапанова была адвергнута заходнімі дзяржавамі, якія не прызнавалі ГДР. Пасля сустрэчы з новым амерыканскім прэзідэнтам Дж. Кенэдзі ў Вене (пачатак чэрвеня 1961 г.) М. С. Хрушчоў відавочна недаацаніў гаспадара Белага дома і пераацаніў свае магчымасці і здольнасці: цяпер ён стаў гаварыць пра тое, што СССР заключыць мірны дагавор з ГДР, перадасць ёй усе правы па кантролі над мяжою, па доступе ў Заходні Берлін, шматразова назначаў тэрміны ажыццяўлення гэтых мераў. Магчыма, Хрушчоў вырашыў дамагчыся таго, чаго не змог Сталін,— прымусіць амерыканцаў, англічан і французаў пакінуць Заходні Берлін? Калі гэта так, дык гэта быў вялікі пралік. ЗША прынялі рашучыя контрмеры: павялічылі ваенныя расходы, паслалі ў Еўропу дадатковыя войскі і г. д., што сур'ёзна ўзмацніла напружанасць і неспакой ва ўсёй Еўропе. Сітуацыя абвастрылася пасля рашэння СССР перапыніць маратoрый на выпрабаванні ядзернай зброі ў атмасферы, які выконваўся Савецкім Саюзам, ЗША і Англіяй з 1959 г. Хрушчоў нават папярэдзіў свет аб намеры СССР выпрабаваць «звышбомбу» магутнасцю 50 мегатон. Нягледзячы на прынятую 27 кастрычніка 1961 г. абсалютнай большасцю дзяржаў рэзалюцыю Генеральнай Асамблеі ААН з заклікам да СССР не праводзіць такога выбуху, «звышбомба» магутнасцю 56 мегатон была выпрабавана на Новай Зямлі.

Адзіным практычным вынікам усёй гэтай гісторыі было здзяйсненне 13 жніўня 1961 г. мер па ўмацаванні мяжы паміж Заходнім і Усходнім Берлінам (так званая Берлінская сцяна). Але напружанасць не спадала. У кастрычніку ва Усходнім Берліне здарыўся небяспечны інцыдэнт: амерыканскае падраздзяленне з танкамі ўвайшло ў гэты горад, каб пацвердзіць свае правы, зафіксаваныя ў Патсдамскіх пагадненнях. І юрыдычна ЗША мелі на тое падставы. Дарогу амерыканцам перагарадзілі савецкія войскі. Ажно суткі саперніке стаялі адзін насупраць аднаго. На шчасце, нервы ў абодвух бакоў не здалі, амерыканцы пастаялі, павярнуліся і пайшлі. Але з-за якой-небудзь недарэчнай выпадковасці магло здарыцца непапраўнае.

Неўзабаве пачаліся перамовы паміж СССР, ЗША, Англіяй і Францыяй, якія прывялі ў 1971 г. да заключэння чатырохбаковага пагаднення па Заходнім Берліне. У ім прадугледжана, што заходнія сектары Берліна не з'яўляюцца часткаю ФРГ, вызначаны ўмовы транзітных зносін з сектарамі праз тэрыторыю ГДР і г. д. Гэтае пагадненне прыкметна разрадзіла напружанасць у цэнтры Еўропы. Але ці варта было дзеля гэтага правакаваць крызіс, узмацняць неспакой і нават паніку сярод насельніцтва? Тым больш што сепаратная мірная дамова з ГДР заключана не была, а Заходні Берлін застаўся ў ранейшым стане. Наўрад ці варта было.

Увосень 1962 г. успыхнуў карыбскі крызіс, які рэальна прывёў свет да мяжы ядзернай вайны. Пасля праваду ўварвання на Кубу ў красавіку 1961 г. ЗША працягвалі падрыўныя дзеянні супраць яе. У гэтых умовах наша краіна па просьбе ўрада Ф. Кастра дапамагла Кубе ўзмацніць яе абараназдольнасць. У кастрычніку 1962 на яе тэрыторыі сталі размяшчацца савецкія ракеты, здольныя дасягнуць тэрыторыі ЗША. Амерыканцы неўзабаве выявілі іх прысутнасць са сваіх разведвальных самалётаў «У-2». Іхняя рэакцыя была рашучая: 22 кастрычніка прэзідэнт Кенэдзі аб'явіў пра ўвядзенне з 24 кастрычніка «строгага каранціну на ўсе віды наступальнай зброі, якую перавозяць на Кубу», а таксама накіраваў скаргу ў Савет Бяспекі з патрабаваннем дэманціраваць і вывезці з Кубы ракеты і іншую наступальную зброю; адначасна ЗША прыступілі да падрыхтоўкі прамога ўзброенага ўварвання на востраў.

І тут М. С. Хрушчоў дапусціў сур'ёзны пралік: прымаючы рашэнне аб размяшчэнні савецкіх ракет на Кубе, ён відавочна недаацаніў небяспечныя вынікі гэтага кроку, які мог прывесці да сусветнай ядзернай вайны. Дарэчы, у даволі цікавым тэлефільме «Рызыка-1» з незразумелай прычыны замоўчваюцца вядомыя рэчы: паказаны савецкія судны, якія стаяць на падыходзе да Кубы з-за амерыканскага каранціну, але пра гэта аўтары фільма нічога не кажуць. Мажліва, гэтае маўчанне бярэ свой пачатак з першых дзён крызісу, калі мы не прызнавалі прысутнасць сваіх ракет на востраве. Паказальны дыялог адбыўся на пасяджэнні Савета Бяспекі 25 кастрычніка паміж прадстаўнікамі ЗША і СССР — Э. Стывенсанам і В. Зорыным. Першы прынёс з сабою здымкі размяшчэння ракет, аэрадрома і г. д. Стывенсан: «Ці адмаўляеце вы, што СССР усталяваў і працягвае ўсталёўваць на Кубе ракеты і ўзводзіць будаўнічыя пляцоўкі?» Зорын: «Я не ў амерыканскім судзе і не буду адказваць на пытанні, якія задаюцца пракурорскім тонам». Стывенсан: «Вы знаходзіцеся перад судом сусветнай грамадскай думкі».

Праз дзень Хрушчоў накіраваў пасланне Кенэдзі, у якім упершыню прызнаў факт наяўнасці савецкіх ракет на Кубе і прапанаваў выдаліць іх адтуль адначасна з выдаленнем амерыканскіх ракет з Турцыі. Яшчэ праз дзень у другім пасланні ён ужо згадзіўся выдаліць свае ракеты, толькі каб узамен ЗША ўзялі абавязак не ўрывацца на Кубу. І ў гэтым трэба аддаць належнае савецкаму кіраўніку, які не разышоўся на ўсю з падманнага пачуцця прэстыжу, а знайшоў у сабе мужнасць пайсці на ўступкі, каб прадухіліць ядзерную вайну. Разважліва паводзіў сябе і амерыканскі прэзідэнт, які не пайшоў на павадку ў вайскоўцаў. Пачаліся савецка-амерыканскія перамовы, якія прывялі да пагаднення на аснове формулы, прапанаванай Хрушчовым. 20 лістапада 1962 г. амерыканскі каранцін супраць Кубы быў адменены, карыбскі крызіс скончыўся.

Заканчэнне будзе





## Уладзімір АРЛОЎ



### ПОМНІК

Глухі і невідушчы, глядзіць ён на горад, у якім нарадзіўся, вучыўся чытаць і маліцца, у які вярнуўся праз стагоддзі, глухі і невідушчы.

Але ў дзень, калі месяц становіцца паміж сонцам і зямлёю, душа яго напаўняецца спадзяваннем і, пакінуўшы сферы свае, усяляецца ў масянжовую абалонку.

Набыўшы зрок і слых, глядзіць ён на горад, слухае прагна словы і думкі людзей, што прыходзяць да ўзножжа.

Яны прыносяць яму кветкі, не ведаючы, хто ён;
яны прысягаюць імем ягоным, забыўшы сапраўднае імя яго;
яны славяць яго, не ведаючы, чаму вучыў ён.

Ці тут нарадзіўся я! — у роспачы думае ён.

І зноў, глухі і невідушчы, глядзіць ён на горад.
Але праз стагоддзе напоўніцца зноў спадзяваннем душа.

### ЛЕРА

Спыніцца ля разбуранага касцёла невідушчы стары, возьме ў рукі леру, і запяе яна шчымліва, загаворыць з Богам пра лёс гэтае зямлі.

Аціхне ў кляновых шатах вецер,
змоўкнуць знячэўлена гракі,
выпрастаюцца ўражана людзі.

Вучылі іх заўсёды, што зямля гэта іхняя, а лера пяе, што даўно ўжо чужая яна;
вучылі іх, што яны шчаслівыя, а лера пяе, што ашукалі іх падступна;
вучылі іх, што яны не рабы, а лера пяе, што рабы яны.

Абступяць угневаныя людзі старога, вырвуць з рук ягоных леру, заб'юць ёй грудзі пылам, здратуюць яе голас нагамі.

Пойдзе невідушчы стары ў белы свет.
Разыдуцца па хацінах людзі.
Застанецца на цвінтары знямелая лера.

Пракрадзецца ўначы да касцёла хлопчык белагаловы, прытуліць леру да грудзей і заплача няўцешна.
Апрытомнее лера ад слёз дзіцячых, адгукнецца нягучна: жывы яшчэ голас мой.

### НАД ВОЗЕРАМ

Кожнае лета, калі адцвітае язмін і загараецца скрыпень,— дзе б я ні быў — чакаю цябе ў той адрыне над возерам.
Чакаю, пакуль шапаткая духмяная цемра зноў набудзе парэчкавы смак тваіх нечакана няўмелых вуснаў, цеплыню чуйных рук, халадок палахлівы грудзей і ўлоння.

Дзе б ні была ў тую ноч — ты прыходзіш, каб усё паўтарылася:
словы разгубленасці,
словы пяшчоты,
ціхія слёзы
і, вечнасці роўны, палёт наш над светам і часам.

Нават як скончыцца шлях мой зямны,
нават як знікне бясследна ў змроку Сусвет — дзе б ні была — усё адно прыйдзеш ты да мяне ў тую ноч у старую адрыну над возерам, з якога, бы з пены марской выйшла на досвітку ты — у аблічы жанчыны.

### РОСТАНЬ

Буду жыць, забываючы твой адрас,
забываючы твой голас,
забываючы сусвет, што зваўся тваім целам — быццам усё было не са мною, а з героем даўняга фільма.

Буду жыць у іншым горадзе,
у іншым свеце,
у іншым часе —
там няма цябе, бо ты яшчэ не нарадзілася.

Буду жыць, набыўшы чаканы спакой, і ўбачу аднойчы ў акне, як ідзеш ты па вуліцы —
з іншага горада,
з іншага часу —
там, за шклом, за празрыстаю тонкай мяжою між нашымі светамі.



Знікнеш пад выгбаю — на імгненне ці назаўсёды.
Кропля крыві ўпадзе на асколкі спакою і шкла.

### ЯБЛЫНЯ

Малюю сястру маю яблыню —
на адных яе галінах наліваюцца сокам яблыкі,
на другіх ружавее першая квецень,
адны галіны мёртвыя пасля дотыку маланкі,
другія не прачнуліся яшчэ ад зімовага сну.

Малюю каханку маю яблыню —
на адных яе галінах пяюць бясклапотна птушкі,
на другіх ладзяць яны рупліва жытло,
на адных крычаць галодныя птушаняты,
на другіх гуляе ў пустых гнёздах вецер.

Малюю варагіню маю яблыню —
аднымі галінамі даверна цягнецца яна да людзей,
другімі насцярожана захінаецца ад іх,
адны галіны яе дораць спелыя яблыкі,
другія колюць бязлітасна сухім веццем.

Малюю сястру маю,
малюю каханку і варагіню —
малюю душу маю яблыню.

### ЛЁХІ

Калі мы былі блазнотай, пад старажытным саборам пачыналіся лёхі, што вялі ў падземны горад, дзе жывуць вольныя людзі.

Так казалі манашкі, і мы верылі ім — дзень пры дні прабіраліся ў саборныя сутарэнні і палохаліся саміх сябе, а ўвечары вярталіся, каб заўтра зноў шукаць да знямогі.

Толькі найменшыя з нас Франак з Вальжынаю не вярнуліся аднойчы дадому і ніхто ўжо ніколі не бачыў іх.
Галасілі іхнія маці, а мы зайздросцілі гэтым малым:

яны знайшлі пачатак лёхі,
яны ідуць па ёй у падземны горад,
яны, магчыма, ужо прыйшлі туды.

Стаю ля сабора, а пада мною хаваюцца ў зямлі лёхі, якія вядуць у нязнойдзены намі горад, дзе сярод вольных людзей жывуць дзеці Франака і Вальжыны.

### МЁРТВАЕ ДРЭВА

Вунь расце на гары ля атрутнай крыніцы мёртвае дрэва — кажуць людзі падарожнаму.
Калісьці мы маліліся таму, хто пасадзіў гэтае дрэва, а цяпер плюем на яго магілу.
Калісьці мы разлучалі з душой тых, хто казаў, што яно мёртвае, а цяпер молімся за іх душы.
Калісьці верылі, што яно накорміць нас, а цяпер ставім штодня ля яго варту, каб не з'ела неразумнае дзіця пладоў ягоных.

Чаму ж не ссеклі дасюль вы мёртвае дрэва! — пытаецца падарожны.
Маўчаць, азіраючыся баязліва, людзі.

Расце на гары мёртвае дрэва.
Спеюць і падаюць у траву плады.

Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

**Мікалай ДЗЯНІСАЎ**



# бег з перашкодамі

## (пакуль не зловяць)

**Скажыце, шаноўны чытач, вы бачылі ў наш час, час арбітальных палётаў у космас, час перабудовы ўсяго нашага сацыялістычнага грамадства, дзяцей лейтэнанта Шміта! Так, тых, пра якіх некалі пісалі знакамітыя Ільф і Пятроў. Не дзівіцеся. Прадбачачы вашыя пытанні, скажу, што ў наш час гэтых, з дазволу сказаць, «дзетак» называюць адным кароткім словам — біч (былы інтэлігентны чалавек): колісь большасць з іх былі нармальнымі савецкімі людзьмі, але потым, напэўна, прачытаўшы «Залатое цяля», нашы сумленныя савецкія грамадзяне паспрабавалі спазнаць жыццё своеасаблівых джэнтльменаў удачы. Яны ходзяць пешшу, ездзяць у аўтобусах, цягніках далёкіх маршрутаў. Яны забыліся, што такое прапіска — мець свой дах над галавой, забыліся на словы «працоўная кніжка». Едуць, спяшаюцца, хоць апрача крымінальнага вышуку іх ніхто ўжо даўно не чакае. Ёсць бічы аседлыя, яны шукаюць здабычы ў адным населеным пункце, пажадана вялікім, дзе ёсць вялікія вакзалы і дзе шмат прыезджага люду. Вось такіх і ў нас, у горадзе-герої, хапае, і смею запэўніць вас: да апошняга часу было вельмі шмат і жылося ім няблага (пункт гледжання саміх бічоў). Вось я і хачу, каб вы прачыталі праўду пра гэтых былых.**

Вось адзін дзень з жыцця нашага сучаснага сына лейтэнанта Шміта. Усё гэта адбывалася на самай справе ў г. Мінску ў 1986 г. Сучасныя джэнтльмены ўдачы нашага сталічнага горада канвенцый не маюць, горад на ўчасткі не дзеляць, жывуць у пастаянных войнах з канкурэнтамі, працуюць без выхадных, без адпачынку, а адпачываюць толькі ў месцах пазбаўлення волі.

Улетку, возьмем лета, бо гэта самы што ні ёсць залаты сезон для сучасных сыноў і дачок лейтэнанта Шміта, узімку яны ныраюць хто куды: у спецпрыёмнікі-размеркавальнікі, дурдом, ці ж мала месцаў, дзе чалавек можа ў цяпле, у прыемнай кампаніі правесці зіму. Сынок прачынаецца, як звычайна, з пахмелля, усё баліць, яму б на бальнічны, але, на жаль, яму трэба на працу — інакш будзе галодны, у кустах, на вышках хлява, на будаўнічай пляцоўцы, на якой-небудзь чыгуначнай станцыі, паблізу ад г. Мінска, у электрычцы «Мінск — Орша». Гэтая электрычка адпраўляецца ад прыпынку «Інстытут культуры» у 0-35, едзе да станцыі Бобр, куды біч прыбывае, трохі адпачыўшы, у 5-50. Вы, напэўна, скажаце, што лепш зняць нумар у гасцініцы, але, па-першае, у гасцініцы трэба паказаць пашпарт і, заўважце, з прапіскаю. І вялікую ролю тут іграе аплата, бо пакуль што ў нас за гасцініцы трэба плаціць. Гэта не прадугледжана ягоным бюджэтам. А на гэтую электрычку білет не трэба. Напэўна, нашы савецкія рэвізоры хочуць часам (а гэта бывае кожнае ночы) адпачыць. На станцыі Бобр гэты дзіцёнак гадоў 25—30 (іншы раз бываюць дзеткі і старэйшыя) ідзе да калодзежа і прагна п'е ваду, бо пасля шклоачышчальніка «Бло» вельмі сушыць. Вы, напэўна, спытаецеся, чаму «Бло». А таму, што танна і сярдзіта, мазгі адбівае ўмомант.

Прыехаўшы ў Мінск, гэты шукальнік удачы з'яўляецца на чыгуначным вакзале. Не перавяліся яшчэ ў нас (і ў Мінску таксама) Панікоўскія і Балаганавы, мажліва, недзе ў глыбокім падполлі сціпла жывуць Карэйкі, стварыўшы кааператыў па падрыхтоўцы падпольных мільянераў. І іх, можа, ужо знайшоў і прыдумвае спосаб забіраць грошы малады, сімпатычны чалавек (прыстойна апрануты). Але мы апішам адзін дзень, усяго адзін, аднаго з пералічаных герояў. Ён нечым падобны на Балаганава. Чым — зразумееце самі, шаноўны чытач.

Малады, здаровы, па-мужчынску нават прыгожы брунет у фірменных джынсах няпэўнага колеру, у белай (напэўна) кашулі з кароткім рукавом, на якой з левага боку ля самага сэрца расплываецца жоўта-чырвоная пляма (такая пляма бывае, калі за пазухаю расціснуць самы спелы памідор), але яго не бянтэжыць ні пляма на кашулі, ні тое, што непаголены — няма лёзаў «Ленинград», «Восход», не кажучы ўжо пра імпартныя. У Польшчы таксама, відаць, не ўсё ў парадку: няма іхніх лёзаў у нашых магазінах. Ну а «Невой» галіцца — паспрабуйце — галоўнае, не парэзацца, нават калі ў вас з пахмелля трохі трасуцца рукі, і заадно даведаецеся, што такое катаванне.

Класнае месца выбраў герой нашага апавяду, назавём яго Мікола. Вось ён стаіць ля аўтаматаў з газіраванай вадою. Напэўна, ён скарыстаецца сваім становішчам-знаходжаннем у грамадстве, бо, акрамя як на ваду, у яго нічога няма. А гэта хто? Кліент не кліент, стаіць у чарзе і якраз за камсамольцам. За кліентам нікога няма, трэба прабіваць. Хоць дзень толькі пачынаецца, інакш дах паедзе. З гэтымі думкамі ён падыходзіць да выбранай ахвяры. Займае за ім чаргу. На руках, сашчэпленых за спінаю, відаць татуіроўкі: ад локцевага сустава да запясця на левай (гэта як баявая расфарбоўка індзейцаў) гарыць паходня, уверсе на паходні каля локцевага сустава выкалаты калючы дрот, унізе ля самога запясця лічбы 1977 — 1979. На правай — у тым самым месцы — сэрца, працятае стралою, і надпіс: «Тонька — сука». Рукі ён то апусціць у кішэні, то закладзе за спіну, то трымае іх перад сабою, як Напалеон. Вось наш герой нэпа і застою стаў глядзець на кліента: маладога, высокага, спартыўнага тыпу, адзетага ў спартыўны касцюм «Адзідас», красоўкі на нагах тыпу «Адзідас», на правым плячы сумка таксама «Адзідас». Чарга прасоўваецца наперад да фінішу — вады, і ў Мікалая-Біча (такая ў яго мянушка) пачынае ліхаманкава працаваць, keміць, варыць галава: дзе ж у яго лапатнік (кашалёк), куды ж ён бабкі схаваў. Кішэняў нібыта не відаць, значыцца, у сумцы. Калі рвануць умомант сумку, уцяку ці не ўцяку? Бо людзей процьма. Калі гэты спартсмен закрычыць: «Злодзей, злодзей, трымай!» — то першы ж камсамолец падставіць нагу. Ну вось, спартсмен-кліент ужо ля аўтамата. Ура, ставіць свой сідар (сумку) на зямлю. І тут наступны ў чарзе за ўладальнікам сумкі, пастаўленай на зямлю, малады, непаголены ў белай кашулі з жоўта-чырвонай плямаю ля самага сэрца хлопец нахіляецца, хапае правай рукою з сэрцам сумку і адразу ж моцна адштурхоўваецца правай нагою ў фірменным, але стаптаным чаравіку.

Імчыцца ён у накірунку плошчы імя Мяснікова, праз сквер. Вось гэта старт (цікава, які ж будзе фініш), вось гэта хуткасць, вось гэта майстар на доўгія дыстанцыі з перашкодамі (пакуль не зловяць). Гэх, таварышы спецыялісты і трэнеры па лёгкай атлетыцы, каралеве спорту, магчыма, вы ўпусцілі свайго караля. Вы ўпусцілі, а крымінальны вышук не ўпусціць.





Фота Паўла ЦІШКОЎСКАГА (*Магілёў*)

А што там робіцца каля аўтапаілкі? Народ глядзіць, не разумеючы, што здарылася, і пакуль яшчэ не зразумеў гэтага і супермен у адзідасаўскай шмотцы. Глядзіць услед уцекачу, які знікае разам з ягоным сідарам. Так ён стаяў, пакуль нейкая старая бабка з сумкаю ў руках не сказала, ударыўшы яго сумкаю ў спіну:

— Што ты стаіш, пракляты? Не шкада? Аслупянеў? А яшчэ мужчына! Даганяй, уцячэ! Не бачыш, як дае? Глядзі, ужо не відаць... Во народ, у яго крадуць, а ён стаіць, цьфу, што ты тут больш скажаш!

І тут з крыкам «Трымай, трымай злодзея ў белай кашулі!» абрабаваны рвануў з неверагоднай хуткасцю за сваёй рэччу. Ён страціў каштоўны час, ды ў хуткасці мала ўступае першаму ўдзельніку гэтага забегу. А бязладны сын і злодзей прабег на адным дыханні сквер і ўбачыў ля светлафора таксоўку. У гэты дзень бязладнаму шанцуе як ніколі. Запалілася чырвонае святло, спыняецца свабодная таксоўка, віскнуўшы тармазамі ля самага светлафора. Дзве прамыя перасекліся ў адной кропцы — таксоўка і ўцякач з сумкаю ў правай руцэ. Рвануўшы заднія дзверы машыны, ён кідае сумку, ускоквае сам і, адкінуўшыся на спінку сядзення, шэпча ледзь чутна шаферу:

— Гані хутчэй у Зялёны Луг да «Фрэгата», ведаеш? Ну чаго стаіш? Давай!

— Не бачыш, чырвонае гарыць,— паказаў вадзіцель правай рукою на светлафор.

Мікалай паглядзеў на картку вадзіцеля на лабавым шкле, потым у задняе шкло. Чыста. Нікога.

— Ну, вось і зялёнае, а вы хвалюецеся, куды так спяшаецеся?

З гэтымі словамі таксіст рушыць. Азірнуўшыся яшчэ раз і нічога падазронага не ўбачыўшы, наш шукальнік удачы вырашыў прашманаць (праверыць, абшукаць) тое, з-за чаго ён рызыкаваў і пакуль яшчэ рызыкуе. Вось ён запускае абедзве рукі ў сумку, папярэдне адкрыўшы маланку. Там шмоткі, касеты да магнітафона, зноў шмоткі. Няўжо не? Ура, ёсць. Вось ён, лапатнік дарагі! Узяўшы яго ў рукі, Мікалай паглядзеў на шафёра, не, на яго шафёр не глядзіць, цалкам захоплены дарогаю і машынаю, адкрыў — палціннік. Заплюшчыўшы вочы, біч марыць: хопіць піць сурагаты, нішчыць здароўе. Спачатку пахмялюся гарэлачкай, а там будзе відаць.

— Значыць, тармазі ля «Фрэгата», добра? — працягвае ён вадзіцелю палціннік.— Прабач, браток, драбязы няма, вазьмі з гэтай купюры два чырыкі. Я думаю, хопіць.

Забіраючы грошы і кладучы іх ва ўнутраную кішэню пінжака, вадзіцель кажа:

— Хопіць, здачу атрымаеш, калі прыедзем. Разумееш, толькі пачаў працаваць. Я бачу, табе з пахмелля блага. Магу прапанаваць бутэлечку гарэлачкі, калі хочаш?

— Ну, браток, аб чым размова...

Вадзіцель спыняе машыну, выходзіць, адчыніў багажнік, зачыніў, залез у машыну, трымаючы ў руках скрутак.

— На, трымай, зараз шклянку дам.

З гэтымі словамі вадзіцель правай рукою падаў бутэльку, а левай дастаў з бардачка шклянку і аддаў свайму

пасажыру. Вы, чытач, мажліва, думаеце, што гэты пасажыр будзе чакаць, калі прыбудзе на месца, каб дзе-небудзь не спяшаючы пры добрай закусцы ўмазаць? Вы памыляецеся. Відаць, вы не ведаеце, што такое пахмелле. Марудзячы тут, можна памерці (у дадзеным выпадку можна сесці на каня). Таму і прыходзіцца піць на хаду цёплую гарэлку, ды яшчэ шклянкамі, і плаціць дваццаць рублёў за бутэльку. Наліў у шклянку — выпіў, заплюшчыў вочы. О божа, як добра!... Папрасіў у вадзіцеля цыгарэту і толькі тут убачыў, што трымае ў адной руцэ бутэльку, а ў другой шклянку, паклаў яе на сядзенне. Разам з цыгарэтаю шафёр працягнуў яму капронавы корак. І біч, пахмяліўшыся, падлячыўшыся, закаркоўвае бутэльку, кладзе яе каля шклянкі, закурвае і кажа, звяртаючыся да шафёра:

— Дзякуй, землячок, ты мяне сёння выручыў. Каб не ты, не ведаю, што было б. Рэшты не трэба.

— Ды што ты, чаму б добраму чалавеку, калі яму блага, не памагчы? Вось ужо «Фрэгат» — тармазіць?

— Не трэба, давай на Цнянку куды-небудзь, дзе народу няма, куды можна пад'ехаць. Не хочацца рысавацца. Ды на «Фрэгат» ужо грошай няма.

— Зразумеў, зробім.

І вось нарэшце машына спыняецца на ўзлеску метраў за 30 ад вады. Народу няма. Вось і клас.

— Ну дзякуй, шэф.

З гэтымі словамі ўдзячны пасажыр забірае сумку і выбіраецца з машыны.

— Бутэльку забірай, шклянку таксама можаш узяць, раз заплаціў, забірай, грошы ж немалыя. Давай.

Біч забірае гарэлку, шклянку, падымае з сядзення сумку. Вось чорт, падае шклянка. Але ўсё-такі выбіраецца досыць удала, не ўдарыўшыся, і шклянка цэлая.

— Будзь здароў! — крыкнуў шафёр.

— Буду, ну вядома, буду,— ледзь не праспяваў у адказ захмялелы ад гарэлкі, а можа, ад удачы біч. Паклаўшы на траву бутэльку, шклянку, ён сквапна накінуўся на сумку. Так, джынсы, джынсы, зноў джынсы, кашулі — 2 штукі, 10 касет да магнітафона, парнаграфія. Во нумар — фарцоўшчыка паставіў (абрабаваў)! Гэты не паведаміць. Ну а зараз самае цікавае, што там у лапатніку. І, дастаўшы партманэ, убачыў: пуста, значыцца, там быў толькі палціннік (50 рублёў). Звалю з Мінска куды-небудзь у калгас з понтам на шабашку. Зараз памыцца, пераадзецца, пагаліцца б, пыса спікульская (спекулянцкая), цяжка яму, змею, станок для галення пакласці. Праз пару хвілін, памыўшыся і пераадзеўшыся (праўда, трохі не па росце, але не бяда, затое фірма і ўсё новае, штанцы падвернем, рукавы кашулі таксама), лёг на траву і задумаўся. Падумаць жа ёсць над чым, дый час на гэта таксама ёсць.

— Ну што, раб божы Мікола, умажам? — сказаў ён сам сабе. І сам сабе і адказаў: — А чаму б і не? Эх, каб яшчэ хоць палціннік, хоць бы чырык, пяцёрачку. І гэты, сука, таксіст, ды ладна, як прыйшлі, так і пайшлі.

З гэтымі словамі ён выпіў рэшткі гарэлкі, узняўся, пастаяў, узяў сумку і накіраваўся ў гай. Знайшоўшы ці то стары акоп, ці то проста яміну, паклаў туды сумку і прыкрыў яе галлём, здаецца, не відаць. Адышоў, паглядзеў, не, не відаць, і пайшоў, пахістваючыся, на прыпынак 37-га аўтобуса. На 37-ым даехаў да прыпынку «Плошча Калініна», там перайшоў на 51-ы аўтобус. Недзе на плошчы Я. Коласа да яго падыходзіць кантралёр, пажылы мужчына, трымаючы ў левай руцэ нейкую кнігу невялікага фармату са знакам на вокладцы і кажа: «Ваш квіток, малады чалавек». Цікава, як ён выйдзе з гэтага становішча? А вельмі проста. Відаць, вы, шаноўны чытач, забыліся, што гэтая перашкода такому псіхолагу, як наш герой нэпа і застою,— нішто.

— Вы мне прабачце, таварыш, але я аплаціць праезд не змагу, бо мяне ўчора ў вашым горадзе абрабавалі.

— Ды ад цябе за кіламетр гарэлкаю смярдзіць, на гарэлку знайшоў і на праезд шукай, інакш ідзі пешшу.

— Чаго шукаць, калі ў мяне толькі і засталося, што паўбутэлькі гарэлкі, не выліваць жа, раз заплаціў. А на квіток і праўда няма.

— Пашпарт ёсць?

— Кажу ж вам: абрабавалі.

— Піў бы меней, тады б не абрабавалі.

І з гэтымі словамі строгі кантралёр пайшоў далей. Ну вось і вакзал. Выйшаў. Агледзеўся. Мянтоў не відаць, на чыгунку не пойдзем, пахаджу па тым баку, вырашыў Мікалай, і рушыў да воінскіх кас.

— Ура, Данілаў, прывітанне! Куды гэта ты ўранку так шуруеш таропка? А дзе сумачка?

Бадзяга-Біч-Мікалай азіраецца і бачыць, што да яго бягуць два міліцыянеры. Другі раз за сённяшні дзень ён становіцца легкаатлетам. Умомант прабег да «Вясёлкі», павярнуў налева, пад арку направа, адзін пад'езд прапусціў. Вось-вось дагоняць! Заскочыў у другі пад'езд, за нейкія секунды падымаецца ўверх па лесвіцы, там гарышча зачыненае. Усё, капцы, павязалі як апошняга фраера. І шмоткі не паспеў здаць. З вуліцы чуецца тупат і нейкія галасы. Двое мянтоў, а тупату, гвалту нарабілі, як статак мамантаў. Уцякач выглядае ў акно, мянты накіраваліся да апорнага пункту на Ленінградскай. Пачакаўшы яшчэ трохі, ён ціхенечка спускаецца, выходзіць у двор. Тут яго ўбачыў дворнік, які падмятаў асфальт, і кажа:

— Яны пайшлі, хутчэй ідзі.

— Дзякуй, бацька.

Пакуль ёсць такія дворнікі, сынкам ёсць на каго абаперціся. Даведаўся ў дворніка, якая гадзіна. 18.36, ужо белполк шастае, трэба ліняць і як мага хутчэй, падумаў шукальнік удачы, былы чалавек, цяпер злодзей і біч.

Дзень прайшоў як у кіно, думаў ён, прабягаючы па скверы у бок паштамта. Трапіўшы з тэрыторыі Кастрычніцкага РАУС на тэрыторыю Ленінскага, на рагу паштамта каля падземнага перахода ён трапляе ў хмелеўборачную машыну (якая забірае п'яных у выцвярэзнік). Гэта ж трэба так нарвацца! Яго карэктна, ударыўшы ў спіну, загрузілі ў машыну і павезлі. Прывозяць у выцвярэзнік. Добра, што выцвярэзнік, а не РАУС.

— Выходзі, алкашы, насосы, дармаеды, па аднаму!

Выйшаў. Па аднаму завялі ў дзяжурку, запісалі, апісалі, сфатаграфавалі і, калі ласка, у палату.

Вось дайшла чарга да бязладнага сына Біча-Мікалая.

— Данілаў, што піў? Толькі шчыра,— пытаецца дзяжурны.

— Нібыта не ведаеш? — кажа міліцыянер, які прывёз Мікалая.

— Ну што ты сёння піў, кажы,— зноў пытаецца дзяжурны.

— Зранку клей, потым гарэлку, а вось нядаўна «Бло».

— Колькі?

— Не лічыў, па-мойму, па штучцы на брата.

Дзяжурны здымае трубку, набірае нумар «хуткай» і просіць, каб хутчэй забралі алкаголіка, а то яшчэ падохне на ягонай змене.

Хвілін праз 15—20 прыехала «хуткая» і павезла гэтага флакушніка ў Б. Х. М. Д. (бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі). Вось які клопат аб здароўі нашых савецкіх бічоў, хіба за мяжою так пражывеш? Прывезлі, завялі ў пакой, потым прыходзіць дзяжурны доктар і кажа:

— Вось што, Данілаў, апошні раз, зразумеў? Яшчэ раз трапіш, адпраўлю туды, адкуль прывязлі.

— Дзякуй, доктар, дзякуй. Я ж сур'ёзна, апошні раз.

— Ну, ну, паглядзім, давай і каб я цябе тут болей не бачыў.

Праходзячы праз прыёмны пакой, паглядзеў на час: палова дванаццатай. Колькі ж мяне мурыжылі, па шмоткі не паспею. Заўтра здам. Зараз на электрычку, выспацца, раніцаю ў Мінск. Ды што разлічваць, раніцай будзе відаць. І ўсё-такі крыўдна, так дзень бяздарна прайшоў, але затое мянтоў вышпарыў (падмануў). З такімі думкамі ён дабраўся да «Інстытута культуры», электрычка ўжо стаяла, сеў. Пачакаў, пакуль аб'явіць машыніст, куды гэтая электрычка адпраўляецца, потым лёг і заснуў. Уранку ён здаў шмоткі і зваліў з Мінска. І на гэтым вырубіўся. І так ён будзе спаць да ст. Бобр. Ну што ж, спі, аседлы біч з чыгуначным ухілам.



**Я ПЕЦЯ.** Здымаю ў стылі канцэптуальнай фатаграфіі.

**Я СЛАВА.** Падабаецца вышукваць цікавае ў будзённым.

**Я КАЦЯ.** Люблю здымаць рэчы, праз якія я адчуваю настрой.

**Я САША.** Лаўлю моманты!!!

**Я ВОЛЯ.** На ўсё гляджу з гумарам і хочацца гэта перадаць мастацкімі прыёмамі.

**Я ЛЁША.** Рэпартаж — мая стыхія...

Усе мы ўвосень 1986 года прыйшлі ў Рэспубліканскі дом тэхнічнай творчасці з велізарным жаданнем авалодаць майстэрствам святлапісу.

**Я, ГАЛІНА АНАТОЛЬЕЎНА,** даўно марыла стварыць фотастудыю маладых наватараў, хлопцаў і дзяўчат, якія змогуць шчыра паглядзець праз аб'ектыў на свет і раскавана перадаць свае пачуцці.

І вось мы ўсе сустрэліся...

Мы вучыліся фатаграфіі. Шмат хадзілі, ездзілі, здымалі, праяўлялі, друкавалі, абмяркоўвалі, друкаваліся ў «Зорьке», атрымлівалі прызы — так арганізавалася фотастудыя «Рэпарцёр».










# Адзін з многіх

**Дома яго аглушыла цішыня. Быў май. На ціхамірным небе ззяла сонца. Ярка і радасна зеляней поплаў, ды нешта вечнае нашэптвала жыта пад вокнамі бацькоўскай хаты. Усё было як шмат гадоў таму. Як у дзяцінстве, з якога колісь яму хацелася хутчэй вырвацца на прастору. І ўсё стала іншае — ад ніколі раней гэтак не адчутай, пранізлівай любові да роднага кутка. Ад простай і страшнай думкі, што адтуль ён мог не вярнуцца. На вайне як на вайне...**

Гэта не было нейкім запозненым пачуццём страху. Хутчэй за ўсё, адбылася непазбежная пераацэнка каштоўнасцей. І ўсё, што ўваходзіць у паняцце «жыццё», набыло сапраўдную значнасць. У армію ён пайшоў адным чалавекам, вярнуўся — іншым. Цяпер ён не тое што над кожным сваім учынкам — над кожным словам, перш чым сказаць, падумае.

А ўначы яго будзілі салаўі. Іх пошчак гучаў так выразна і звонка, нібыта нехта развесіў на дрэвах гучнагаварыцелі.

Было добра, спакойна. Ні пра што не хацелася думаць. Але думалася насуперак волі пра адно і тое ж. О, як ён разумеў цяпер франтавікоў, якія праз столькі гадоў пасля крываваé вайны ўсё ішлі і ішлі ў сне ў атаку. І плакалі, і скрыгаталі зубамі ад нявыказанага болю...

«З чаго ж усё пачалося?.. Так, з тае самае сустрэчы на вакзале. Тады я вучыўся яшчэ на трэцім курсе Гомельскага політэхнічнага... А забег у буфет перакусіць — позна было, ужо зачынілі. Там і ўбачыў маладзенькага салдата з маці. Форма ў хлопца была незашпіленая, ад бінтоў на грудзях усё тапырылася. Падышоў да іх патруль, зрабіў салдату заўвагу.

— Ён не можа зашпіліцца — увесь у бінтах. Даруйце яму. Сын у Афганістане служыў... Дапамажыце, калі можна, з білетамі...

Афіцэр неўзабаве вярнуўся, перадаў ім білеты і нешта ціха сказаў салдату. А мне... мне тады падумалася: «Пацан жа яшчэ, а такую школу прайшоў...»

На прызыўной камісіі Віктару Сірыдзіну задалі звычайнае пытанне: дзе б жадаў служыць? «У дэсантных войсках»,— адказаў прызыўнік. «Не падыходзіш, хлопец. Ростам не вышаў».— «Тады накіруйце ў Афганістан». Афіцэр уважліва, быццам толькі што ўбачыў перад сабою кволага, невысокага хлопца з упартым позіркам, паглядзеў на Віктара і зрабіў адзнаку на асабістай справе прызыўніка. Як толькі Віктар Сірыдзін здаў экзамены, прыйшла позва ў армію...

Што ж падштурхнула хлопца зрабіць гэты крок? Бо адна справа, калі пасылаюць не пытаючыся, хочаш ты гэтага ці не, і зусім іншая — калі прапануеш сам. А ведаў жа выдатна Віктар, што вярнуцца адтуль і паранены, і знявечаны, і ў цынкавых трунах. І ўсё ж такі...

«А я ўсё таго хлопца на вакзале ўспамінаў. І складанае такое пачуццё ўзнікала ўва мне. Нейкай віны перад ім, ці што? Нібыта прыкрыў ён мяне сабою... А яшчэ я думаў пра тое, што на год старэйшы за тых, з кім мяне прызывалі. Значыцца, і мацнейшы за іх, больш вопытны... Ну, а здарыцца што, дык я — не адзіны ў бацькоў. У мяне — тры браты»,— так адказаў Сірыдзін на маё пытанне.

...Па дарозе ў Ташкент да іх гомельскай каманды далучыліся яшчэ некалькі чалавек. І быў сярод іх такі жвавы, дужы хлопец. Усё жартаваў, анекдотамі смяшыў. А калі прыбылі ў Ташкент і даведаліся, што адразу пасля вучэбкі іх накіруюць у Афганістан, весялун раптоўна стаў змрочны, змяк. Неяк праз два-тры тыдні Віктар сустрэўся з ім і не пазнаў хлопца: твар худы, у вачах зацкаванасць. Небяспека, якая была яшчэ толькі наперадзе, ужо пакінула на ім сваю адзнаку. Як склаўся яго далейшы лёс, Віктар так і не даведаўся. Затое ўбачыў, у што можа пераўтварыць чалавека страх за сваё жыццё. Нешта перашкодзіла яму тады падысці да салдата, ляпнуць яго па плячы і сказаць: «Ды выкінь ты дурное з галавы! Лепш рыхтуйся як след». Відавочна, таму, што бачыў: рыхтавалі іх як на шпацыр. Навучылі элементарнаму: як радыёстанцыю разгарнуць, падключыць (ваенная спецыяльнасць Віктара — радыётэлеграфіст), далі выпусціць з аўтамата 12 патронаў. Статуты, маршыроўка — гэта само сабою. Вось і ўся школа маладога байца...

Усе слабасці гэтае школы выявіліся ў першым жа баі. «Сувязь! Давай сувязь!» — крычаў камандзір з перакошаным ад лютасці тварам. А радыёстанцыя маўчала. Не ведаў салдат, як да яе падступіцца: у вучэбцы такіх станцый не было, а стараслужачы звольніўся ў запас, нічога не паспеўшы растлумачыць. Адчуваючы, як непазбежна насоўваецца бяда, Віктар пераждаў такія пакутлівыя хвіліны, пра якія потым не мог успамінаць без дрыготкі. На шчасце, абышлося без ахвяр. Бой раптоўна скончыўся, як і раптоўна ўспыхнуў...

Такога больш ніколі не паўтаралася. Сувязь была бездакорная. А той холад, што ледзяніў душу, пранізаўшы яго ў першым баі, раз-пораз напамінаў пра сябе: страшна нават калі па тваёй віне некага не стане на свеце...

Віктар не раз чуў ад салдат гор кае прызнанне, што тыя, хто трапіў сюды па сваёй волі, рэдка вярталіся дадому без раненняў. Яму пашанцавала. Можа, таму, што ад куль і асколкаў часцей за ўсё былі абаронены бранёю. А можа, лёс у яго такі. Праўда, ад цяжкае хваробы ўратавацца Віктару не ўдалося. І яна падтачыла ягонае здароўе...

Але як бы там ні было, яго ні разу не абпаліла думка, што зрабіў ён дурасць непапраўную. І замест гэтага пекла мог ціха сядзець дзе-небудзь на кропцы, бегаў бы ў самаволкі, чакаў дэмбеля. Жыццё, на Віктараву думку, вымяраецца ўчынкамі. А проста жыць як жывецца — гэта ўсяго толькі існаваць.

Калі прыйшла пара звальняцца ў запас, ён чакаў прапановы застацца. І застаўся б не вагаючыся. Нашыя войскі ўжо рыхтаваліся да выхаду з Афганістана, і душманы, помсцячы і лютуючы, былі цяпер асабліва жорсткія. І, вядома, больш за ўсё ў баях выпадала «зялёным», неабстраляным салдатам. Сірыдзін ведаў, што сваім баявым вопытам ён мог бы ўратаваць не адно жыццё...

Але застацца яму не прапанавалі, і ў маі 1988 года воін-інтэрнацыяналіст Віктар Сірыдзін вярнуўся ў бацькоўскі дом, у сваю родную вёсачку Бусяж, што на Брэстчыне.

Але адпачываць і радавацца цішыні доўга не давялося: выбралі Віктара сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса імя Суворава. Сказаць, што гэта было для яго поўнай нечаканасцю, значыць нічога не сказаць. Не ў Віктаравым характары бязаглядна брацца за справу толькі таму, што яна яму падыходзіць, што яму гэта выгадна. «Ці здолею я наладзіць работу? Ці зменіць хоць штонебудзь у жыцці моладзі камсамольская работа? — гэтыя пытанні не давалі Віктару спакою. Выклікалі ў душы няўпэўненасць і сумненне. Але адказ магла даць толькі сама работа. І час. Пра тое, як усё адбывалася на пачатку новага шляху, Віктар раскажа сам:

— Мне лепей капаць, габляваць, рамантаваць, адным словам, рабіць нешта рукамі. А кіраваць людзьмі — не мая справа. Але, з другога боку, я ведаў, што камсамольская работа ў нашым калгасе жыве ў папках на паперы. У рэальнасці ж ёю і не пахне. Гэта і добра, і дрэнна. Добра таму, што як я справу пастаўлю, так далей і пойдзе. А дрэнна — няма вопыту, няма апоры, нарэшце. Толькі мяне выбралі сакратаром, як чыесьці злыя языкі ўжо пусцілі па калгасе: «А добра ўладкаваўся сынок нашага кінамеханіка. Нічога не робіць і 150 рублёў кожны месяц атрымлівае». Вельмі ўжо гэта мяне закранула. Моцна засела ў свядомасці ў людзей, што камсамольская работа — ніякая не работа. А каб не ўсе ўбачылі, патрэбны час. Гэта ж не поле ўзараць ці бульбу пасадзіць. Тут хоць лоб сабе разбі, а практычных вынікаў можаш так і не адчуць. Але ж не тлумачыць гэта кожнаму...

З чаго я пачынаў? Са стратэгіі. Галоўную задачу камсамольскай работы вызначыў так: каб у вёсцы была моладзь. Потым узяўся за «мёртвыя душы». Улік быў запушчаны. У камсамольскай арганізацыі лічылася 130 чалавек, а на самай справе — 104. Раз'ехаліся маладыя людзі па ўсім свеце, паспрабуй іх адшукай. Ды яны, бадай, і камсамольцамі сябе даўно ўжо не лічаць. Які ж сэнс заклікаць да сумлення, абавязку людзей, што механічна выбылі з камсамола? Ці не прасцей зняць іх з уліку і паставіць на гэтым кропку? Райком і слухаць не хоча: шукайце! Усім пісалі, усіх прасілі, ні слова адказу...

Наступная балявая кропка — дысцыпліна. Нікому нічога не трэба. Адпрацаваў хлопец — і да жонкі пад бок. Няма жонкі — у краму па віно. Добра, калі ўсё ў норме, а перабраў — пад плот... У камсамольцаў да любога мерапрыемства — суцэльная апатыя. А ўсё таму, што ў раёне і вышэй вырашалі, як нам жыць і чым займацца. Нашыя ж унутраныя пытанні ва ўпор ніхто не бачыў. Адсюль — і адносіны да камсамола, і дысцыпліна. За некалькі дзён да сходу з кожным перагаворыш, ад кожнага пачуеш абяцанне, што абавязкова будзе, спрабавалі і паштоўкі запрашальныя высылаць (маці да поўначы на машынцы друкавала), а вынік усё той самы: збіраліся толькі канторскія. Не ідуць рабацягі на сход, хоць ты кожнага бяры за руку і цягні сілаю. Але сілай тут справе не дапаможаш. І рублём караць — таксама не метад. Чую я пра такі вопыт: калі выплочваюць прэміі ці трынаццатую зарплату, абавязкова спытаюцца ў камітэта, ці прапускаў камсамолец сходы. Калі так, то не далічыцца ён значнае сумы. Тое, што лічацца з думкаю камітэта камсамола, вядома, добра, але сам драконаўскі метад нікуды не варты. Заганяць камсамольца на сход рублём — гэта самы просты шлях. Ты зрабі так, каб ён прыйшоў па сваёй волі, каб яму там было цікава — вось задача камітэта камсамола.

Калі мы праводзілі вечар, прысвечаны юбілею ВЛКСМ, сабраліся амаль усе камсамольцы. Мы і граматы ўручылі, і падарункі, але самае галоўнае (я гэта добра бачыў!) — ім было цікава. Ніхто не нудзіўся, ніхто не адчуваў сябе чужаніцаю. Гэта была няхай і маленькая, але перамога. А ўсякую перамогу, як вядома, трэба замацаваць. Калектыўны дагавор — гэта наш другі крок.

Калі я прынёс стандартны тэкст дагавора старшыні калгаса Уладзіміру Міхайлавічу Рымшу, той доўга вывучаў яго, а потым і кажа, не хаваючы раздражнення: «Вось дык накруцілі бюракраты! Тут сам чорт нагу зломіць. Ты вось што, Віктар, добра падумай і коратка, без усёй гэтай славеснай лухты, выкладзі, што, па-твойму, камсамолу трэба. Пераканаеш, давядзеш, значыцца, так і быць». Я так і зрабіў. Цяпер усе жыццёва важныя пытанні маладых выкладзены ў дакуменце. А гэта і кватэры, і новая тэхніка, і дзіцячы садочак, і ўзнагароджанні з улікам думкі камітэта камсамола. Падарункі на праводзінах у армію, на вяселлях, ці калі ў сям'і нараджаецца дзіця. Усё гэта можна і адчуць і ўбачыць.

Я не хачу сказаць, што калектыўны дагавор умомант палегчыў нам жыццё. Вядома, гэта не так... Ёсць у нас камсамолец Міша Хоміч. Працаваў ён на старэнькім аўтобусе, дзе ўсё трыста разоў рамантаванае, варанае-пераваранае. Але бегаў аўтобус, увесь дзень ездзіў па калгасе. І вось аднаго разу захацелася аднаму п'янтосу пакатацца. Выкраў ён аўтобус і ўрэзаўся ў дрэва. А ў выніку — куча металалому... Тут паступае да нас новы аўтобус. Я да старшыні: «Давайце аддадзім яго Хомічу».— «Ну, так, з налёту, мы гэтую справу не вырашым,— адказвае старшыня.— Трэба спытацца ў галоўнага інжынера». Спыталіся. Той катэгарычна супраць. Аддалі аўтобус вадзіцелю, які на шмат гадоў старэйшы за Хоміча. У яго і гаспадарка свая, і клопат хатні, і многае іншае, чым пакуль што не абцяжараны Міхаіл. З ім жа любую паездку можна было арганізаваць. І на любы тэрмін. Але вось як выйшла...

А не так даўно прыйшлі да нас два КамАЗы. Жадаючых іх атрымаць — процьма. Я зноў да старшыні: «Давайце дадзім Хомічу». «Што ты ўсё за яго так клапоцішся? Відаць, ён твой сябра?» — пытаецца ў мяне Уладзімір Міхайлавіч. «Сябра,— адказваю.— Але яшчэ і цудоўны чалавек, і вадзіцель».

Згадзіўся са мною старшыня. Цяпер у Мішы новы КамАЗ. Вядома, пра гэта ўсе імгненна даведаліся. І скажу шчыра: на вачах сталі мяняцца адносіны камсамольцаў да свайго камітэта. Трэба вельмі хацець, трэба ўмець — і тады любая справа зрушыцца з мёртвае кропкі.

...Колькі ні заклікай селяніна стаць гаспадаром, колькі ні расказвай яму пра абавязак перад зямлёю, словы застануцца словамі, калі не зварухнецца ягоная душа. Калі ён не зразумее раз і назаўсёды, што толькі тут ягонае месца, што, пазбавіўшыся яго, ён пазбавіцца і сэнсу жыцця, і шчасця.

Непадалёк ад бацькоўскай хаты Віктар ставіць сваю. «А чаму будуеш сам? Калгас даў бы бясплатна».— «Такой не дасць. Я хачу хату па сваім гусце. Каб жыў у ёй смаляны дух, а не холад цэглы. А яшчэ мы з бацькам лазню пабудуем. Азярцо выкапаем, рыбу развядзём. Вунь у той лагчынцы. Там колісь біла крынічка. Я думаю, можна яшчэ ўратаваць яе. Зямля ў тым месцы заўсёды вільготная. Нават у самае спякотнае лета...»

Віктар паказвае мне фатаграфію жонкі. Прыгожай, юнай. Вучыцца Валя на другім курсе педвучылішча. Як толькі хата будзе стаяць — прыступіць да выканання правоў яе гаспадыні. Бо дом без яе, што чалавек без душы...

На развітанне Віктар моцна паціснуў мне руку. Я зірнуў у яго вочы. «Дык, кажаш, заб'е крынічка?» — «Абавязкова. Я ў гэтым упэўнены».

**Леанід ЕКЕЛЬ**

Эдмунд Унук
ЛІПІНЬСКІ

# КШЫСЬ

*апавяданне*

Было гэта дзесьці ў сярэдзіне лета. Лета ў нас паняцце адноснае, ад іншых пораў года яно адрозніваецца толькі памяншэннем колькасці гледачоў у тэатрах ды масавымі выездамі зямлян па-за межы Сонечнай сістэмы.

Я акурат рыхтаваўся да невялікай вылазкі ў ваколіцы Альфа Цэнтаўра, калі пнеўматычная пошта лагодным званочкам паведаміла аб прыбыцці нейкай пасылкі. Я адчыніў кантэйнер і ўбачыў сціплую скрыначку, надпісаную стараннным почыркам. Ніякай пасылкі я не чакаў і таму адкрыў яе трохі здзіўлены. Выявілася, што ў ёй два крышталікі памяці самарэгулюючай сістэмы. Адкуль? Ад каго? Недзе тут павінен быць які-небудзь тлумачальны ліст, падумаў я, аглядаючы скрынку. І сапраўды, хутка мне трапіўся скрутак паперы з тэкстам наступнага зместу: «Пункт збору другаснай сыравіны гэтым распісваецца ў атрыманні Вашага слугі і ў якасці доказу далучае два крышталікі памяці з нумарам серыі прадукцыі».

Я скамечыў лісток і кінуў яго на падлогу, але праз хвіліну апамятаўся, падняў яго і паклаў у кош для смецця. У мяне ўжо няма слугі, уздыхнуў я меланхалічна...

Мой слуга зваўся Крыстоферам. Я называў яго папросту Кшысем. Пабудаваны ён быў па англійскай ліцэнзіі. Калі я набываў яго, гэта была самая сучасная мадэль. Ён служыў у мяне больш за два гады. За гэты час прайшоў тэрмін гарантыі, а тэхніка скокнула далёка наперад. За гэты ж час усе мае суседзі прынамсі два разы памянялі слуг. Мне, аднак, спачатку ўсё неставала часу, а пазней я ўжо адчуў нейкую прыхільнасць да свайго Кшыся і надалей карыстаўся ягонымі паслугамі.

У свой час робат гэты быў даволі універсальны. Без нараканняў і выхадных ён выконваў усе абавязкі хатняй работніцы, сакратара, садоўніка і дворніка. Напачатку я і сапраўды быў дужа задаволены.

Аднойчы я папрасіў у яго кавы. Я акурат глядзеў па тэлевізары нейкі надзвычай цікавы фільм. Ён да такой ступені захапіў мяне, што я без роздуму залпам праглынуў паданую мне вадкасць. І занадта позна заўважыў, што Кшысь пачаставаў мяне... моцным слабіцельным, спрытна закамуфляваным пад каву. Спачатку я вырашыў, што ў яго разрэгулявалася асацыятыўная сістэма. Я падрыхтаваў патрэбныя інструменты і, звяраючыся ўвесь час з прынцыповай схемай робата, праверыў усе сістэмы, уключаючы і сістэму сілкавання. Яны працавалі бездакорна. Таму віну за гэты дробны інцыдэнт я ўсклаў на «выпадак» і па-ранейшаму карыстаўся паслугамі Кшыся. Аднак з часам «выпадкі» гэтыя пачалі пагрозліва множыцца: то боты мае былі змазаны знутры, то ў ежы я знаходзіў кавалкі дроту, а калі-нікалі паліўны рэзервуар маёй ракеты быў заліты малаком...

Пачалі прыходзіць скаргі на Кшыся і ад суседзяў: то ён зачапіў на вуліцы іншага робата, то на доме старшыні пасялковай рады напісаў брыдкі выраз, разбэшчваючы гэтым мясцовую дзятву, і г. д., г. д.

На ўсе мае вымовы Кшысь адказваў абяззбройваючым мірганнем лямпачак, што абазначала абсалютную нявіннасць.

Нарэшце аднойчы я не вытрымаў і пайшоў разам з ім у Электронную псіхатэрапеўтычную кансультацыю. Дыягназ спецыялістаў быў аднамысны: Кшысь нудзіўся! Я стаў перад дылемай: альбо аддаць яго на злом, альбо забяспечыць такім заняткам, які патрабаваў бы шмат часу.

Але я адчуваў занадта вялікую прыхільнасць да Кшыся, каб пазбавіцца яго. І таму вырашыў трохі развесяліць яго. Скончыўшы хатнія заняткі, я адразу ж вёў Кшыся ў кіно, вечарамі чытаў яму казкі, адным словам, хацеў адцягнуць яго ад непрыстойных думак. Асабліва яму падабалася гэтая апошняя форма забавы.

Калі хатні запас казак скончыўся, я паслаў яго ў грамадскую мікрафільматэку.

Скаргі спыніліся, але зараз я ўсё больш часу траціў на чытанне яму розных гісторый і апавяданняў. У душы я праклінаў канструктараў за тое, што яны не забяспечылі майго Кшыся счытваючымі рэцэптарамі, але рабіць канструкцыйныя змены, на маю думку, было позна. Яго індывідуальнасць аформілася ўжо ў такой ступені, што любыя змены маглі б сур'ёзна пахіснуць яго сістэму каштоўнасцей, а тое, што ідзе ўслед за гэтым, магло зрабіць яго адзінкай, якая не можа адказваць за свае дзеянні.

У рэшце рэшт казкі яму надакучылі, і ён пажадаў нейкага больш сур'ёзнага чытання. Я працаваў тады над праблемай транспазіцыі чалавечай індывідуальнасці ў неадушаўлёную тэхнічную матэрыю. Гэта была досыць заблытаная кібернетычная праблема. Я вырашыў спалучыць дзве карысныя справы: працягваць працу і займаць Кшыся. У сувязі з гэтым трэба было пазнаёміць яго з элементарнымі паняццямі кібернетыкі. Уводзячы Кшыся ў першую ступень інфармаванасці, я выявіў, што ён мае проста фенаменальную памяць. Калі мы дайшлі да канструкцыі мыслячых машын, ён адразу азнаёміўся са сваёй схемай, прааналізаваў прынцыпы дзеяння, зазначыў некалькі канструктыўных непаслядоўнасцей, а потым без майго ведама сам дабудаваў сабе яшчэ адну сістэму затрымлівання (мне ён паведаміў, што адчувае ўжо пэўнае нагрувашчванне інфармацыі, а новая сістэма вельмі простым спосабам павялічыць яго памяць у два разы) і дабудаваў сабе таксама счытваючыя рэцэптары. Я ўздыхнуў з палёгкай, бо скінуў з сябе абавязак зачытваць яму вынікі ўсіх маіх назіранняў. Цяпер ён знаёміўся з імі самастойна.

Кшысю даволі цяжка было зразумець некаторыя псіхалагічныя праблемы. Найбольш часу я страціў на тое, каб давесці яму, што такое інстынкт. А растлумачыць Кшысю дзеянне інстынкту самазахавання здавалася мне ўжо зусім безнадзейнай справай.

Праз некаторы час ён азнаёміўся з усімі кібернетычнымі і псіхалагічнымі даследаваннямі, якія толькі меліся ў наваколлі. Па настойлівых просьбах Кшыся я выпісваў самыя новыя выданні ў гэтых галінах, што прыносіла вялікую карысць і мне самому.

Аднойчы я вымушаны быў выехаць з дому па нейкай пільнай навуковай справе. Мяне не было некалькі дзён. Вярнуўшыся, я не пазнаў кватэру. У вітальні валяліся рэшткі мэблі. Калі я пераступіў парог кабінета, перад маімі вачыма паўстала сумнае відовішча. У цэнтры чарнеў авальны пралом, праз які ў склеп збягалі звіткі правадоў. Каля сцен стаялі складаныя механізмы, падобныя на шафы. Я з цяжкасцю пазнаў некаторыя канструкцыйныя элементы: кавалкі пісьмовага стала, часткі халадзільніка, электрычныя правады з гарышча, ізалятары, зробленыя з кухоннага посуду... А вакол гэтага ліхаманкава ўвіваліся нейкія металічныя стварэнні, якія пілавалі, свідравалі, нешта зварвалі і рабілі яшчэ бог ведае што.

Я гукнуў Кшыся. Мне ніхто не адказаў. Самаходныя слясарныя інструменты не звярталі на мяне ніякай увагі. Я яшчэ раз паклікаў слугу. Безвынікова. Відаць, у доме

Мал. Аляксандра ЛЬДОКАВА

яго не было, бо раней ён з'яўляўся пасля першага майго слова.

Тым часам праз скробанне піл, грукат малаткоў, нейкі скрыгат (відаць, недзе перасоўвалі мэблю) я пачуў новы трывожны гук. Нешта падобнае на працяглы свіст, які гучаў на ўсё больш высокіх танах. Я хутка збег ніз. Мая здагадка была правільнай: частка інструментаў укручвалася ў жалезабетонную падлогу склепа. Непасрэдна пад маім домам праходзіў электрычны кабель, які забяспечваў электраэнергіяй увесь пасёлак. Але адкуль яны пра гэта ведалі?

Мая прысутнасць ні на імгненне не запаволіла тэмпы працы. Я ўжо ведаў, да чаго імкнуўся мой падапечны. З дапамогай адпаведна запраграмаваных кібернетычных цацак Кшысь будаваў сабе гіганцкі рэзервуар памяці. Ён выкарыстаў маю адсутнасць, каб дасягнуць таго, што, магчыма, запланаваў ужо раней. Яму хацелася стаць разумнейшым за мяне!

Гэта было ўжо занадта. Я вырашыў, што як толькі Кшысь вернецца, я загадаю яму спыніць усю гэтую дзейнасць, а потым размантую яго і адпраўлю на злом. Пасля куплю сабе новага слугу, які навядзе парадак, і я нарэшце як след вазьмуся за працу над транспазіцыяй чалавечай індывідуальнасці.

Нецярпліва чакаючы яго прыходу, я бездапаможна назіраў, як мая кватэра ўсё большператвараецца ў руіны. Вялікім кавалкам жалеза я паспрабаваў разбіць адно з гэтых мітуслівых стварэнняў. Але яно спрытна шмыганула ўбок. Я аслупянеў. Упершыню мне даводзілася мець справу з машынамі, якія не падпарадкоўваліся волі чалавека. Так, але ж іх канструяваў не чалавек. Я пачынаў шкадаваць, што пазнаёміў Кшыся з законамі кібернетыкі. Гэта быў, вядома, непрадбачлівы крок. Нават дзіця ведае, што кібернетыка — гэта навука, забароненая для робатаў. Я парушыў гэтае няпісанае правіла і адразу сутыкнуўся з прыкрымі вынікамі. А! Нічога не зробіш! Чалавек вучыцца на ўласных памылках.

Гэтыя невясёлыя думкі спыніў грукат транспартнага верталёта, які прызямліўся на панадворку. Я вельмі здзівіўся, бо ніякай вялікай партыі тавараў не заказваў. Здзіўленне хутка ператварылася ў трывогу, калі я ўбачыў Кшыся. Той паказваў дарогу двум механічным грузчыкам, якія неслі нейкую скрыню.

Я пачакаў, пакуль верталёт адляціць, а потым паклікаў слугу. Кшысь з'явіўся на парозе і ветліва здзівіўся:

— Ты ўжо прыехаў?

— Перастань блазнаваць! — крыкнуў я, абураны ў вышэйшай ступені.— Што ўсё гэта значыць? Зараз жа спыні гэтыя звар'яцелыя інструменты!

— Ты злуешся? Навошта? Ты ўсё роўна не зможаш ужо нічога прадухіліць.

— Ну, гэтага з мяне хопіць! — крыкнуў я, пачырванеўшы ад злосці.— Шкада, што я адразу не аддаў цябе на злом. Дарэмна я набіваў табе галаву ўсёй гэтай навуковай лухтой, якая адляціць у нябыт, як толькі цябе размантуюць.

— Вядома,— нахабна адказаў ён, забаўляючыся французскім ключом,— з твайго пункту гледжання ты зрабіў памылку. І падазраю, што ты нават не ведаеш, калі. Памятаеш, як ты мне тлумачыў, што такое інстынкт самазахавання?

— Памятаю. Але што з таго? Трэба мне было адразу прадбачыць, што гэта ўсё дарэмныя намаганні.

— А вось уяві сабе, што яны не пайшлі марна. Калі б я карыстаўся толькі тваімі тлумачэннямі, дык, напэўна, ніколі не вырашыў бы гэтай праблемы. Але ў час тваёй адсутнасці да мяне ў рукі трапіла кніга, якую ты заказаў для сваёй працы (смяшыца мне хацелася, калі я параўноўваў выраз «трапіла да мяне ў рукі» з яго дакладнымі, але так не падобнымі да чалавечых рук учэпістымі канечнасцямі-інструментамі). Я маю на ўвазе «Матэматычныя метады акрэслення чалавечай індывідуальнасці» Шэрвуда. Ты хіба яшчэ не чытаў яе? Павер, што такі матэрыял я чакаў вельмі даўно. У рэшце рэшт па тэорыі верагоднасці я павінен быў напаткаць нешта падобнае. Гэта здарылася раней, чым я меркаваў.

— Паслухай,— сказаў я, даведзены да крайнасці.— Калі ў гэтую ж хвіліну ты не адключышся, цябе напаткае пакаранне большае, чым звычайнае размантаванне. Ты будзеш асуджаны на вечны недахоп энергіі.— Гэта быў апошні аргумент, самая пагражальная санкцыя для машын такога тыпу.

— Усё гэта дарэмна,— адказаў Кшысь з пранізлівым спакоем.— Твае пагрозы абсалютна на мяне не дзейнічаюць. Зараз ты даведаешся пра такое адкрыццё, пасля якога напэўна зменіш думку. Уяві сабе,— яго металічны голас загучаў надзвычай урачыста,— я вырашыў праблему, над якой ты мучыўся два апошнія гады. Я ведаю, як ажыццявіць транспазіцыю чалавечай індывідуальнасці ў мёртвую, як вы гаворыце, машыну.— Ён зрабіў тэатральную паўзу, чакаючы эфекту ад сваёй заявы.

Са мной рабілася нешта дзіўнае. Я хацеў кінуцца на яго і не мог зрабіць ніводнага руху. Гэты робат кпіў з мяне проста ў вочы! Кпіў так нахабна, як не дазволіў бы сабе ні адзін чалавек. Я ледзьве здолеў выціснуць з сябе «Ты ідыёт», калі Кшысь, агідліва скрывіўшыся, сказаў:

— Ты паводзіш сябе абсалютна безадказна. Я яшчэ не ведаю матываў такіх паводзін, але ўпэўнены, што яны ірацыянальныя. Падумай,— ён трохі ажывіўся,— навука зробіць вялікі скачок наперад! Зробім разам першы крок да рэвалюцыі ў збітых паняццях, зменім адносіны людзей да машын і наадварот.

Гукі працы ў кабінеце раптоўна сціхлі. Робат хвіліну прыслухоўваўся, а потым загаварыў зноў:

— Мы павінны спяшацца. Толькі што скончыліся ўсе падрыхтоўчыя працы. Я коратка растлумачу табе, у чым заключаецца транспазіцыя. Ты, напэўна, бачыў у кабінеце такія вялікія шафы. Гэта рэзервуары ўсіх уражанняў сярэдняга чалавека. На жаль, зрабіць іх меншымі не ўдалося, але гэта часовая тэхнічная недасканаласць. Увесь працэс заключаецца ў простай аперацыі на мазгу жывога чалавека. Пры дапамозе спецыяльных збіральнікаў усе ўражанні, рэфлексы і цэлы запас жыццёвага вопыту змяшчаецца ў рэзервуарах. Гэта будзе чалавечая індывідуальнасць, замкнутая ў звілінах звычайнай тэхнічнай матэрыі.

Пакуль што я не змагу карыстацца ёю бесперапынна. Немагчыма ж браць з сабой на прагулку пяць вялізных шафаў, але затое я змагу непасрэдна падключацца да індывідуальнасці ў адвольны час і на адвольны тэрмін. Уяві сабе,— ён запаляўся ўсё больш,— што будзе вынікаць са спалучэння абсалютнай памяці і жалезнай логікі з творчай фантазіяй чалавека. Гэта будзе абсалютны геній! Гэта значыць,— паправіўся ён,— я буду геніем. Рыхтуйся да аперацыі, інструменты ўжо губляюць цярплівасць. Яны бачаць, што мы марнуем час,— нервова скончыў ён.

Цяпер замест абурэння мяне ахапіў жах. Я проста спалохаўся. Краем вока я бачыў дрэлі, скальпелі, нажніцы, якія пачалі набліжацца... Нешта схапіла мяне за горла, і я страціў прытомнасць.

Прачнуўся я толькі ў медаўтамаце, які клапатліва сачыў за маім здароўем.

Пазней я даведаўся, што Кшысь, не разумеючы, што са мной здарылася (я ніколі пры ім не губляў прытомнасці, а ён, на шчасце, не ведаў нават асноў медыцыны), выклікаў медаўтаматы. Хацеў ратаваць — паводле ягоных слоў — каштоўны зборны будаўнічы элемент. Яго прызналі робатам з небяспечнымі адхіленнямі і вырашылі размантаваць. Мабыць, ён бараніўся да канца. Абясшкодзілі яго толькі лазернай агнёўкай. Перад знішчэннем ён выкрыкваў нейкія бессэнсоўныя з пункту гледжання машыны словы. Штосьці накшталт «Я хачу жыць!», «Забойцы!» і да таго падобнае.

Відаць, ён не кпіў, калі гаварыў мне, што пазнаў інстынкт самазахавання.

**З польскай пераклала**
**Наталля МАЗОЎКА.**





Адам ГЛОБУС

# цягнік на Нясвіж

## Нататкі пра рок-гурт «Уліс»[1]



### РОК

— У мяне сто разоў пыталіся, што такое рок? Сто разоў я сам у сябе пытаўся, што такое рок? Думаеш, ведаю адказ? Не. І ніхто не ведае. Гавораць, гавораць... Рок — гэта стыль у музыцы. А словы, а тэксты? Рок — гэта песні. А чаму Рафберціна Ларэці не рокер? Рок — гэта мастацтва. Банальна і вельмі цьмяна, як, дарэчы, і кіно — гэта мастацтва. Рок — гэта вобраз жыцця. Але колькі хлопцаў жывуць амаль як рокеры, а року ў іх хапае толькі на вонкавае: джынсы, хаер, шузы, драйв, кайф... Словы і вопратка, а року няма. Блытана? Вядома. Ясней не атрымліваецца. Калі атрымаецца ясней, року ўжо не будзе, ён памрэ. Яму знойдуць вызначэнне, дадуць дэфініцыю, але яго ўжо не будзе. Упэўнены, што толькі смерць рок-культуры зможа нарадзіць ягонае энцыклапедычна дакладнае вызначэнне. А пакуль што рок жыве. Я вось ім жыву, ведаю, як зрабіць, бачу, калі музыкі робяць падман, але адказаць на тваё пытанне, што такое рок, не магу.

Такі маналог-адказ я пачуў ад бас-гітарыста з гурта «Уліс» — Сяржука Краўчанкі. Мы стаялі ў пракураным тамбуры цягніка «Гомель — Гродна», які вёз на фестываль маладзёжнай музыкі «Рок-крок 89» мінскія гурты.

— А тамбурныя скразнякі, лязгат колаў, цыгарэтны дым, твая майка з надпісам «Металіка», нашая размова — гэта рок? — спытаў я ў Сяржука.

— Так! Для мяне так. Як для іншых, не ведаю. Толькі калі кожную дробязь, кожны свой жэст навучышся ўспрымаць як частку рок-культуры, толькі тады можна называць свае музычныя кампазіцыі рокам. Дарэчы, мы на станцыі «Гарадзея».

Сапраўды, я і не заўважыў, як спыніўся цягнік. Па пероне ў халодным святле шпацыравалі чыгуначнікі ў чорных шынялях. Недзе за станцыйнымі будынкамі пасігналіў аўтобус. Цягнік крануўся.

— Ты чуў? Аўтобус пасігналіў,— працягваў Сяржук.— Аўтобус на Нясвіж. Цягнікі на Нясвіж не ходзяць.

[1] Рок-гурт «Уліс» працуе ў рэспубліканскім маладзёжным цэнтры «Арыенцір».

Здаецца, звычайны факт, такіх колькі хочаш. У Мсціслаў цягнікі не ходзяць, у Мазыр... Але рок — гэта калі можна цягніком ехаць да Нясвіжа. Не разумееш? Я і сам не вельмі разумею, я адчуваю, чую... Рок — гэта калі паводзіны рокерскія, і яшчэ крышку больш. З логікай і паводзінамі у рок-культуры даедзеш толькі да Гарадзеі, а трэба ў Нясвіж. У нас ёсць такая песня «Цягнік на Нясвіж»:

**Я хутка ўбачу замак і роў.**
**Я ўбачу касцёлы.**
**Дарма спрабуеш спыніць цягнік,**
**Я кінусь пад колы.**

**Рушыць цягнік на Нясвіж —**
**Ідзе да дому...**

## «ДЖАЗ»

На вакзале нас сустрэў аўтобус з афішамі ў вокнах — «Рок-крок 89», і нас павезлі ў гатэль, але, вядома, не ў той, дзе мы будзем жыць. Мы прыехалі ў гатэль «Беларусь», пачакалі гадзіну, папілі кавы ва ўтульным кафэ і паехалі ў другі гатэль — «Гродна», дзе таксама пачакалі гадзіну, паснедалі ў няўтульным кафэ і засяліліся. Нарэшце.

Жыццё рокераў у гатэлі патрабуе дадатковых апісанняў, бо пасля канцэртаў пачынаецца «джаз». Што такое «джаз», ведае кожны, але тусовачны, рокерскі «джаз» — гэта зусім іншае.

Хто быў на фестывалях, з'ездах, семінарах, ведае, што на іх прыязджае заўсёды больш людзей, чым было запрошана. Ну, запрасілі рок-гурт «Уліс», напрыклад. Колькі чалавек на сцэне? Чацвёра: Сяржук Краўчанка — бас-гітарыст, Вячаслаў Корань — сола-гітарыст, Кірыл Шэвандо — бубнар, Андрэй Патрэй — вакаліст. Колькі прыедзе? Сем. Чаму сем? А таму, што гурт — гэта не гурт, калі ў ім няма адміністратара. Ва «Уліса» адміністратар, вядома, ёсць — Валера Ціціцкі. Пяць. А гукааператар патрэбны? Вядома, патрэбны, калі гурт не хоча прагучаць, як рэпрадуктар у прывакзальным буфеце. Але свайго гукааператара «Уліс» пакуль што не мае. Пад час канцэртаў за пультам сядзеў Сева Крамушчанка, які даў магчымасць слухачам разабрацца ў словах. Тэксты ў гурта цікавыя, іх піша Фелікс Аксёнцаў, ці проста Філ.

**Рака, што цячэ ля карчмы,**
**Дзе каля моста мур.**
**Чорнай фарбай пляма на ім...**
**Пад плямай той смур.**
**Маўчаць злыя словы пад ёй**
**Ужо шмат гадоў,**
**Але кожны ведае, што**
**Пад чорнай плямай той зноў:**

**Краіна ў кратах!**

Цікавы тэкст. Значыць, і Філ павінен быць на фестывалі. Шэсць. А дзе шэсць, там і сем. Ды чаму не запрасіць каго-небудзь з музыкаў праехацца ў Гродна, ну і сыграць у адной-дзвюх кампазіцыях? «Уліс» запрасіў флейтыста Сяржука Махава. Вось і сем. А месцаў у гатэлі, падрыхтаваных для «Уліса», не чатыры, бо арганізатары не першы фестываль ладзяць, а шэсць. І адзін чалавек не змяшчаецца, але ўсе мы людзі — можам дамовіцца. І нарэшце кожны мае свой ложак, падушку і коўдру. Коўдры будуць чакаць рокераў пасля канцэртаў, не раўнуючы, як фанаты, але калі дачакаюцца, пакуль стомленыя музыкі і паэты пасядуць на ложкі і скінуць шузы (абутак), высветліцца, што коўдраў не хапае, бо прыехаў хлопец па прозвішчы Віцязь, які робіць для «Уліса» лазер, каб на канцэртах было весялей, а каб хлопцу было весялей, ён узяў з сабою ў Гродна сястру. Вось і не хапае дзвюх падушак. Ды бог з імі.

Гучыць музыка. Ідзе тэлевізар. Польскія каментатары гавораць хутчэй за беларускіх і рускіх, тым і цікавыя. На стале гарбата і смажаная курыца з грыль-бара, польскія цыгарэты «Зефір». Весела. З'яўляюцца прыхільніцы «джаза», і імгненна арганізоўваюцца танцы. На танцы прыходзяць польскія «металісты» з рок-гурта «Вінцэнт». Ім значна весялей, яны па дарозе на танцы не абміну́лі бар. У кутках спрэчкі.

— «Металіка», «Металіка»,— крычаць палякі.

— «Ю-Ту»,— сцвярджае Сяржук Краўчанка.

— Вярніце Ірландыю ірландцам! — Філ цытуе Джона Ленана.

І так кожны вечар, у гатэлі «джаз».

А ўсе пакаёўкі ў гатэлі «Гродна» упэўнены, што мы прыехалі з Беластока, бо гаворым па-беларуску, таму нам шмат чаго дазваляецца, як замежным гасцям.

## СЦЭНА

Сцэна ў рокераў — гэта ўсё.

Кажуць, у 20-я гады адзін рускі паэт напісаў паэму з аднаго слова. Той паэт выходзіў на сцэну, уздымаў кулак і крычаў: «Усё!» Але за такую паэму ніхто нічога не плаціў, хай сабе ў ёй і было ўсё. Таму паэт пасля прачытання паэмы ламаў дошкі аб сваю галаву, жангліраваў гірамі, падымаў сталы за адну ножку — зарабляў на жыццё. Тыя, хто расказвалі пра аўтара паэмы «Усё», не ведалі ягонага прозвішча, адзіны больш-менш рэальны факт — гэта тое, што паэт выступаў колькі разоў з «последним поэтом деревни» Сяргеем Ясеніным. Пра паэта ўсё. Вернемся са сцэны 20-х гадоў на сцэну 80-х. Чорныя скрыні ўзмацняльнікаў, дрот, мікрафоны, барабаны з талеркамі... Бляск, зіхаценне, мірганне... І ў гэтым рукатворным казачна-урбаністычным свеце з'яўляюцца музыкі.

Кірыл Шэвандо ўзлятае па прыступках і садзіцца за бубнарскую ўстаноўку. Сяржук Краўчанка падключае бас-гітару і шпурляе ў залу плакаты. Вячаслаў Корань падключае гітару і не шпурляе плакаты, а сціпла ўсміхаецца. Музыка. І да мікрафона выбягае саліст Андрэй Патрэй:

**Пляц Францыска**
**На небе недзе твой брук**
**Ты таемная зброя**
**Дзядоў.**

Першая кампазіцыя, другая, трэцяя... Зала ў захапленні. Андрэю цяжэй за ўсіх. У мяне складваецца адчуванне, што ён не вытрымае напружання і ўцячэ са сцэны, але абышлося. Вытрымаў. А цяжка салісту было, бо гэта другі Андрэяў канцэрт. Калі Сяржук Краўчанка і Вячаслаў Корань па шэсць гадоў адыгралі ў рок-гурце «Бонда», а Кірыл Шэвандо скончыў музычнае вучылішча па класу бубнарскіх інструментаў, дык Андрэй Патрэй толькі год пацягаў на сцэну і са сцэны скрыні з надпісам «Сузор'е».

Патрэй выступіў вельмі ўдала: маючы добрую дыкцыю, адчуваючы магчымасці свайго голасу, ён працаваў тактоўна і выразна.

Шэвандо здзівіў мяне сваёй упэўненасцю і прафесіяналізмам.

Краўчанка цудоўна выкарыстоўваў пікантны момант, за час працы ў «Бондзе» ён набыў шмат прыхільнікаў сярод аматараў року, і жэстамі выклікаў хвалі воплескаў у зале.

Корань таленавіта і сумленна рабіў крутую музыку.

Махаў і Ціціцкі зрабілі, скажу па-мастакоўску, каларыт сваімі флейтаю і кансароўкаю з пяском.

«Уліс» («Адысей» па-лацінску) пакінуў сцэну як пераможца.

## ІРЛАНДСКІ ВАРЫЯНТ, або Вымушаны экскурс у літаратурныя спрэчкі

Эстэтычныя арыенціры «Уліса» — рок-культура Ірландыі з яе выдатнымі гуртамі накшталт «Ю-Ту»,— даюць падставы зразумець не толькі назву, якая невыпадкова супадае з назваю аднаго з лепшых раманаў XX стагоддзя, напісанага Джэймсам Джойсам, а і грамадзянскасць гурта. Калі незразумела, тлумачу.

Мне даводзіцца чуць шмат меркаванняў пра Беларусь і беларускую мову. Апошнім часам вельмі папулярнай зрабілася думка пра так званы «ірландскі варыянт».

Першы раз я пачуў пра «варыянт» у рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия». Мяне паклікалі на размову два зухаватыя журналісты, што вырашылі напісаць шэраг артыкулаў пра беларускую патомную інтэлігенцыю. Я адмовіўся браць удзел у гэтай, прабачце за выраз, аферы. Дык вось, гэтыя журналісты і распавялі мне пра тое, што, замест таго каб захоўваць родную мову, трэба перайсці на рускую, і тады ў нас атрымаецца беларуская літаратура на рускай мове, як у ірландцаў ёсць ірландская літаратура на англійскай мове. На першы погляд вельмі лагічна. Ёсць у ірландцаў, чаму і нам не паспрабаваць? Але, прабачце, чаму няма рускай літаратуры на грузінскай, эстонскай, кітайскай ці яўрэйскай мовах? Чаму адсутнічае літоўская літаратура, напісаная па-румынску? А можа, такая ёсць, толькі я не дастаткова выкшталцоны, не ведаю? А можа, варта паспрабаваць? Але колькі можна спрабаваць? Міцкевіч, Ажэшка пісалі па-польску, і я не бачу, каб у польскіх падручніках пісалі, што яны беларускія літаратары. Дастаеўскі, вядома, пісаў па-руску, і ягонае паходжанне чамусьці не ўплывае на рускую крытыку, якая ні разу не напісала, што Фёдар Міхайлавіч беларускі літаратар, які пісаў на рускай мове. А можа, Максім Багдановіч — гэта рускі паэт, які пісаў па-беларуску? Дык колькі, паважаныя газетчыкі, можна спрабаваць? Гэта гісторыя. Пяройдзем да сучаснасці. Ігар Шклярэўскі — рускі паэт, і нават аповесці, напісаныя па-беларуску... Не чыталі? Пачытайце «Маладосць.» Нават аповесці, напісаныя па-беларуску, не замінаюць Шклярэўскаму быць рускім паэтам. А зараз зраблю выснову. Ірландская літаратура на англійскай і французскай мовах — гэта выключэнне, якое падкрэслівае правіла. А правіла, на маю думку, гучыць так: да беларускай літаратуры належаць творы, напісаныя аўтарамі на беларускай літаратурнай мове. Кандова, але існа.

Заканчэнне на 4-й стар. вокладкі





# 11 пытанняў

# 22 адказы

**Уладзімір СЦЯПАН**

**Мне падабаецца лічба адзінаццаць, таму і пытанняў было адзінаццаць. А вось адказаў атрымалася дваццаць два, бо адказвалі два мастакі: сербскі жывапісец Міліч Ад Мачвы і наш суайчыннік Барыс Іванавіч Казакоў.**

**Першае ўражанне. Міліч Ад Мачвы апранаецца і выглядае як мастак. Вялікі чорны берэт, доўгая чорная накідка, чорная кавенька са срэбным набалдашнікам і сівая барада на бязвусым твары. Трымаецца з годнасцю, упэўнена і нязмушана. Вельмі арганічна ўпісваецца ў інтэр'ер Дзяржаўнага мастацкага музея нашай рэспублікі, дзе было яго персанальная выстава і дзе мы з ім сустрэліся...**

**Барыс Казакоў — хто з ім не знаёмы, той наўрад ці здагадаецца, што перад ім вядомы мастак. У вопратцы і паводзінах нічога экстравагантнага і прыкметнага. Спакойны, добразычлівы, просты. Выстава Барыса Казакова экспанавалася на галерэі нашага музея літаральна за некалькі тыдняў да выставы Міліча Ад Мачвы.**

**Зараз больш дакладная інфармацыя — анкетная.**

**Міліч Ад Мачвы (Станкавіч) нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Бялоціч Мачванскага краю колішняга Каралеўства Югаславіі. Серб. З сялян. Галоўную жыццевызначальную адукацыю атрымаў у Бялградскай Акадэміі выяўленчых мастацтваў, дзе вучыўся архітэктуры і жывапісу.**

**Выстаўляцца пачаў у 1955 годзе. Першая самастойная выстава — 1959 год.**

**Жыве і працуе ў Бялградзе, Бялоцічы, Златыборы, Брусэлі, Парыжы.**

**Член аб'яднання мастакоў Сербіі, Таварыства сербскіх мастакоў «Лада», сусветнай суполкі фантастычнага і магічнага мастацтва «Фантасмажы» з цэнтрам у Брусэлі, заснавальнік Мачванскай школы мастакоў і паэтаў. Па звестках на мінулы год, колькасць персанальных выстаў азначалася лічбаю 210, прычым значная частка ў такіх культурных цэнтрах: Бон, Брусель, Вена, Гамбург, Дзюсельдорф, Рым, Жэнева, Лондан, Нью-Йорк, Мілан, Парыж, Тэль-Авіў, Фларэнцыя...**

**Акрамя таго, Міліч Ад Мачвы — уласнік трох палацаў-атэльe, аўтар кнігі вершаў і праекта (пакуль не рэалізаванага) новай Вавілонскай вежы — «Веданты»...**

**Казакоў Барыс Іванавіч. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў горадзе Балахна Горкаўскай вобласці. Галоўную адукацыю атрымаў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, які ён скончыў у 1964 годзе. З 1964 па 1968 год — мастак тэатра юнага гледача ў Мінску. З 1969 па 1973 год — выкладчык інстытута. У выставах бярэ ўдзел з 1962 года. Член Саюза мастакоў.**

Міліч Ад Мачвы





**1. Вы згодны з тым, што напачатку было Слова?**

**Міліч Ад Мачвы:** Так! А потым дзеянне — утварэнне свету.

**Казакоў:** Спачатку было Пачуццё, потым Думка, а потым Слова.

**2. Якую падзею ў сваім жыцці Вы лічыце асноўнай?**

**Міліч Ад Мачвы:** Шмат было розных падзей... Але самая важная — гэта той момант, калі мае бацькі адмовіліся ад мяне... З-за таго, што я пайшоў у мастакі.

**Казакоў:** Гаварыць пра падзеі складана і проста. Кожная падзея вельмі важная: атрымаў я кватэру — падзея, атрымаў майстэрню — падзея, нарадзіўся сын — падзея, але адной з важных падзей было паступленне ў мастацкі інстытут, бо жаданне быць мастаком звязана са спецыяльнай адукацыяй.

**3. Калі было больш праблем: у маладосці ці цяпер?**

**Міліч Ад Мачвы:** Праблем заўсёды многа, калі чалавек зацікаўлена ставіцца да жыцця, а я, здаецца, належу да такіх людзей.

**Казакоў:** У маладыя гады праблем не было, а цяпер адны праблемы.

**4. Які мастак найбольш паўплываў на вашу творчасць?**

**Міліч Ад Мачвы:** Нельга сказаць пра адну асобу. На розных этапах жыцця ўплывалі розныя творцы, але найбольшае ўздзеянне аказаў этнічны пачатак майго сербскага народа.

**Казакоў:** Адным словам не адказаць, які мастак. У дзяцінстве мяне ўразіў чалавек, які скончыў мастацкі інстытут. Потым былі імпрэсіяністы і Ван Гог (яны, дарэчы, лічыліся забароненымі для нас, студэнтаў)... Пасля вельмі моцна ўздзейнічалі мастакі Адраджэння: Дзюрэр, Гуга Ван дэр Гус, Мікеланджэла...

**5. Чым для вас з'яўляецца мастацтва: сродкам спасціжэння свету ці магчымасцю выказацца?**

**Міліч Ад Мачвы:** І адным і другім, але найперш я хачу сказаць, што мастацтва — гэта жыццё.

**Казакоў:** Тут адно вынікае з другога і між імі непарыўная сувязь.

**6. Якую кнігу ў сусветнай літаратуры вы лічыце найважнейшай?**

**Міліч Ад Мачвы:** На мяне вельмі ўплываў, калі я складаўся і фарміраваўся як мастак, Дастаеўскі, а таксама руская класічная літаратура.

**Казакоў:** Адразу не адкажаш, хоць пытанне простае. Я — рускі чалавек, усю рускую літаратуру аддзяліць ад сябе не магу. Гэта і Пушкін, і Купрын, і Чэхаў і, безумоўна, Талстой.

**7. Ці з'яўляецеся вы веруючым і ці наведваеце афіцыйную службу?**

**Міліч Ад Мачвы:** Я лічу, што мастак проста абавязаны верыць у Бога. Мастак мае і сваю асабістую веру, але заўсёды ўлічвае традыцыі, складзеныя асяроддзем.

**Казакоў:** У Бога я не веру. У царкву не хаджу. Але разумею, што веруючыя бачаць у Богу ідэал — ідэал дабрыні і праўды... У гэтыя ідэалы веру і я, яны мне дапамагаюць працаваць.

**8. Дзе працей арганізаваць выставу: на радзіме ці за мяжой?**

**Міліч Ад Мачвы:** Я аднолькава шмат выстаўляюся і ў Югаславіі і за мяжой, і гэта натуральна. Але выстава за мяжой патрабуе вялікіх грашовых выдаткаў.

**Казакоў:** У нас зрабіць выставу невыносна цяжка. Для мяне першая цяжкасць — сабраць карціны ў адным месцы. Да прыкладу, нават з Масквы я не змог атрымаць шэраг сваіх твораў, хоць заяўкі паслаў за год да выставы. Нават зрабіць рамы — вялікая праблема, то сухога дрэва няма, то майстра не знайсці... Яшчэ праблема — выдаць каталог, надрукаваць афішу, запрашэнні... Хоць я і рабіў усё праз добрых знаёмых, але рэклама выйшла са спазненнем, недзе ў сярэдзіне выставы.

**9. Які матэрыяльны стан у мастакоў сёння і якія праблемы?**

**Міліч Ад Мачвы:** Мне здаецца, што цяпер мастакам жыць лёгка. Людзі добра жывуць, шмат будуюцца і таму набываюць карціны. У нас нават і мода пайшла — ствараць прыватныя калекцыі.

**Казакоў:** Становішча жахлівае. Чаму? Мастакоў стрыгуць пад адзін грабеньчык тымі «расцэнкамі», што існуюць цяпер. Мастакі падзяляюцца на прынцаў і жабракоў. Да прыкладу, адзін з прынцаў — Ілля Глазуноў... Адкуль ён можа ўзяць і даць трыццаць тысяч на арганізацыю інстытута?... Мне гэта незразумела.

**10. Вашы адносіны да палітыкі?**

**Міліч Ад Мачвы:** Я не буду шмат гаварыць, але магу паведаміць, што я стаў першым мастаком-дысідэнтам. Так лічылі. Але я ўпэўнены, што мастак у сваёй краіне, на сваёй зямлі не можа разглядацца ў такім статусе. У нас, ды і ў вас цяпер ідзе вялікае адраджэнне, і я бяру ў ім актыўны ўдзел. У гэтым культурным адраджэнні славянскія народы павінны зрабіць вялікі крок, каб заняць у агульнаеўрапейскай культуры пачэснае месца. Пакуты і страты, якія мелі славянскія народы, павінны нечым адплаціцца.

**Казакоў:** Я палітыкай не займаюся і лічу, што ёй павінны займацца прафесіяналы, але сумленныя людзі.

**11. Пра што вы марыце?**

**Міліч Ад Мачвы:** Я хачу пабудаваць новую Вавілонскую вежу, якая будзе вялікім культурным цэнтрам славянскіх народаў.

**Казакоў:** Хацелася б верыць у тое, што з змагу прайсці праз усе складанасці, створаныя афіцыйнымі ўстановамі і пэўнымі чыноўнікамі нашых міністэрстваў, і пакажу свае творы аматарам жывапісу Югаславіі.










аб'ектыўна!

# Я — самая прыгожая

Вал конкурсаў прыгажосці нарастае! Ужо вядомы самыя абаяльныя дзяўчаты абласных цэнтраў, хутка мы будзем ведаць імёны самых прывабных у раёне, затым паводле непахіснае логікі моды пагляднасцю памераюцца прадстаўніцы пасёлкаў гарадскога тыпу і вёсак.

Ура дзявочай прыгажосці! Ура смелым дзяўчатам, гатовым прадэфіліраваць у міні-купальніках перад палаючымі вачыма гледачоў! Хвалюйцеся, таты і мамы,— вашыя дочкі гатовыя на вялікія здзяйсненні дзеля таго, каб стаць самай прыгожай і атрымаць спецыяльнае пасведчанне, што гэта так і ёсць. Плюс прыз!

Зрэшты, жарты ўбок. Конкурсы прыгажосці сталі часткаю нашае культуры (не ведаю, праўда, якой: фізічнай, інтэлектуальнай ці іншай!), яны карыстаюцца сапраўднай папулярнасцю, і многія каментатары лічаць, што конкурсы прыносяць грамадству шмат карыснага.

Дзяўчат вучаць жаноцкасці і добрым манерам. Апроч таго, конкурсам прыгажосці ўласцівыя элементы спартыўнай барацьбы, што таксама спрыяе станаўленню характару. Згадзіцеся, каб атрымаць у якасці прыза аўтамабіль «Шэўрале», як гэта ўдалося «міс Латвія», трэба прайсці праз многія выпрабаванні. Дый «міс Віцебск», якая атрымала за сваю прыгажосць чэк на 10 тысяч рублёў і пуцёўку ў Грэцыю, таксама ведала, дзеля чаго ўступае ў найцяжэйшую барацьбу за высокае званне.

Ёсць у конкурса прыгажосці і суровыя крытыкі. Часам нават занадта суровыя, накшталт пісьменніка Валянціна Распуціна, які кінуўся ў бой з адкрытым забралам і з адвагаю Георгія-Перамаганосца ў паядынку са змеем.

Словам, справа новая, як цяпер модна казаць, неадназначная.

Зрэшты, у гэтым вы можаце пераканацца самі, паглядзеўшы на здымкі, зробленыя ў чэрвені на конкурсе «Кіна — фота — мадэль», але не звяртайце залішняе ўвагі на назву. Гэта быў самы звычайны конкурс прыгажосці. Усе сцвярджаюць, што ён прайшоў вельмі ўдала, абышоўся без экстравагантнасцей і фантастычных прызоў. Мінскія дзяўчаты ў зычлівай атмасферы, пры журы і гледачах, на іншых пагледзелі і сябе паказалі, і высветлілася, што няма сёння ў Мінску дзяўчыны, прыгажэйшай за студэнтку універсітэта Алену Мядзель.

**Дзмітрый АФЕРОЎСКІ**

музычны праспект

# польскі сіндром



Як вы думаеце, чаму менавіта польская рок-музыка стала самым вядомым усходнім рок-варыянтам на Захадзе? Чаму, скажам, не чэхаславацкая ці венгерская?

Адказ, напэўна, трэба шукаць у гісторыі гэтых краін і ў гісторыі року.

Мова рок-н-рола ажно да сярэдзіны 60-х не заўсёды супадала з «унутранай» моваю людзей у эпоху эканамічнай і палітычнай стабільнасці. На Захадзе яна стала станам душы на памятным пераломе дзесяцігоддзяў, калі маса матэрыялу музычнага і сацыяльнага стала крытычнаю — згадаем парыжскі студэнцкі бунт, паводку хіпі і — адразу ж — зусім новыя «Бітлз», «Ролінг Стоўнз», «Дорз», «Пінк Флойд», «Лэд Зэпелін», «Кінг Крымсан»...

У Польшчы гэта здарылася восем гадоў таму. Дэстабілізацыя сітуацыі ў краіне, сума адмоўных сацыяльных эмоцый справакавалі маладых польскіх рокераў на новы стыль. Дый музычная база ў палякаў была досыць моцная, чаго не скажаш пра Чэхаславакію 1968 года ці Венгрыю 1956-га.

Першы польскі рок-канцэрт адбыўся 24 сакавіка 1959 г. у клубе «Руды кот» у Гданьску. Выступала група «Рытм-н-блюз», а адкрываў прадстаўленне выкананы магістрам эканомікі Багуславам Выробкам «Рок 24 гадзіны» Біла Хэйлі. Выступленні рок-н-рольшчыкаў праходзілі гэтак шумна, што на афішах «Рытм-н-блюза» з'явіўся зварот да публікі з просьбаю паводзіць сябе спакайней. Зварот не дапамог, і неўзабаве канцэрты першага польскага ансамбля былі забароненыя. Зрэшты, імпрэсарыю «Рытм-н-блюза» Францішак Валіцкі не засмучаўся і зладзіў новую групу — «Чэрвона-чарны». Дэбютаваўшы ў 1960 г. у Гданьску, яны далі пачатак адной з асноўных галін польскага біту, прадстаўленай пазней «Чырвонымі гітарамі». Галоўныя канкурэнты «Чэрвона-чарных» — «Небеско-чарны» сталі «хроснымі бацькамі» другой галіны, якая дала сусветнай музычнай культуры Чэслава Немена. Прадстаўленыя «Скальдове» і «Но То Цо», ансамблі музыкі фолк доўгі час карысталіся асаблівай лаяльнасцю ўлад і бясследна зніклі, пакічуўшы пасля сябе аднастайныя біт-апрацоўкі народных мелодый. Трэцяй галіною стала польская паэтычная рок-традыцыя, закладзеная Марэкам Грэхутаю і групаю «Анава».

70-я гады для Польшчы прайшлі пад знакам групы «СББ» і Чэслава Немена. Наш былы зямляк усё далей адыходзіў ад магістральных дарог маладзёжнае музыкі. Ягоная прыкметная для сярэдзіны дзесяцігоддзя арыентацыя на Захад знікла, саступіўшы месца самабытнай творчасці.

Група «СББ» («Сілезіум Блюз Бэнд», затым «Шукай, Разбурай, Будуй») пачала з традыцыйнага блюза, але эксперыменты «Ес» і «Гęнезіс», здаецца, зрабілі незабыўнае ўражанне на музыкантаў. Складаны інтэлектуальны рок «СББ», які спачатку многае абяцаў, апынуўся тупіком.

«Музыка сярэдзіны», якая была ў меншасці ў 60-х, у 70-х была прадстаўлена блюзавым «Брэкаўт» і польскім варыянтам «Дып Пёрпл» — «Будкаю Суфлёра». Сам факт існавання гэтых груп ствараў асаблівую атмасферу для музыкантаў маладой генерацыі — я маю на ўвазе перш за ўсё «Кшак» і «Перфект». Гітарыст «Пер-

фекта» Збігнеў Холдыс пачынаў у ансамблі Марылі Радовіч і быў у польскім року канца 70-х чалавекам вопытным. «Перфект» пастаянна крытыкавалі за эклектыку, але ў слухачоў група мела ашаламляльны поспех дзякуючы меладычнай трактоўцы рытм-н-блюза.

«Чырвоны гітары», якія ператварыліся ў акампаніруючую групу Севярына Краеўскага, шматабліčныя «Трубадуры», эстраднікі «2+1» і «Хэпі Энд», якія выкарыстоўвалі ідэі року, сталі жывым помнікам польскаму біту. Прычым для «музычнае грамадскасці» яны былі нашмат больш зручныя, чым рокеры «прамога дзеяння». Прынамсі ўдавалася зберагчы крэслы канцэртных залаў, а заадно і падтрымліваць ілюзію, нібыта ўскладнёныя формы «з класікай на кончыку языка» і ёсць вяршыня маладзёжнае музыкі. Яшчэ ў 1981 г. польскія журналісты наракалі на спробы блакіраваць рок-н-рольны кантакт паміж музыкантамі і залаю. Прыёмы апісваліся знаёмыя — кардоны ў праходах, забарона танцаваць, святло, якое ўспыхвала раптам у зале і г. д. Нягледзячы на гэта, Немен, «Брэкаўт», «Будка суфлёра», «СББ» здолелі перадаць сваім паслядоўнікам першаснае пачуццё року.

Удзельнікаў групы «Маанам» цяжка назваць пачаткоўцамі ў рок-н-роле. Марэк Яцкоўскі, былы ўдзельнік «медытатыўнае групы» «Асіян», паспеў выступіць нават у доме самога Дона Чэры, майстра джазавага авангарду. Захапленне англійскаю моваю і магістэрская работа аб прозе Сэлінджэра не перашкодзілі Марэку дэбютаваць на прафесійнай сцэне ў складзе ансамбля «Анава» ў 1971 годзе. «Маанам» быў задуманы ў 1975 годзе як гітарны дуэт Яцкоўскага і Міла Курціса. Адсюль і назва — два «М», з'яднаныя бессэнсоўным гукаспалучэннем. Курціс затрымаўся ў групе ненадоўга, паіграў у ёй і Джон Портэр, але толькі з прыходам у «Маанам» Марэкавай супружніцы Вольгі Яцкоўскай (Коры) справа пайшла на лад. Кора, якая вырасла ў дзіцячым доме і зведала смак жыцця хіпі і працы ў дзіцячым прытулку, разам з эпатажнымі тэкстамі-парадоксамі прынесла ў групу магутны эмацыянальны вакал і эксцэнтрычны сцэнічны вобраз. «Вазьмі іх, Кора!» — крычаў ёй муж на сцэне. І Коры гэта ўдавалася. Першая пласцінка «Маанама» (1981 г.) так і засталася самай энергічнай — і самай простай. Поўнае адзінства музыкі і тэксту, фальклорныя фразы, якія праглядваюць скрозь рок-стандарты, паганства сцэнічнага іміджа і нешта яшчэ такое, што апісанню словамі не паддаецца, зрабілі «Маанам» сапраўды польскай групаю. Выпусціўшы другую пласцінку «О!», Кора, Марэк і іх калегі не супакоіліся і наступны альбом, «Начны патруль», запісалі ў двух варыянтах — англійскім і польскім. Запіс зводзіўся англійскім інжынерам і прадзюсерам Нэйлам Блэкам у лонданскай студыі, што дазволіла дамагчыся



міжнароднае якасці гучання. Вольнае спалучэнне розных стыляў, экспрэсія і адмаўленне ад служэбнай функцыі тэксту — вось козыры такіх баевікоў, як «Начны патруль», «Здрада», «Я толькі жанчына». Апошняя пласцінка «Маанама» «Ментал кат» (1986) можа прыцягнуць увагу бадай толькі нумарамі «Новы дарожны даведнік» і «Добрай ночы, Альберт». Музыка групы змякчылася, і, калі б не яе распад, выкліканы разладам сужэнцаў Яцкоўскіх, мы сталі б, магчыма, сведкамі чарговае перамогі шоу-бізнесу над рокам. Так ці інакш, «АН-24», «Мяжа», «Польскія вуліцы» і многія іншыя кампазіцыі назаўжды занялі свае месца ў гісторыі рок-н-рольнай культуры.



Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА

Другая супергрупа пачатку 80-х, «Лэдзі Панк», узнікла ў канцы 1980 года па ініцыятыве гітарыста Яна Барысевіча і аўтара тэкстаў Анджэя Магельніцкага.

«Лэдзі Панк» удала прышчапілі на польскую глебу рэцэпты ранніх «Поліс» і Бруса Спрынгстына і былі цёпла прынятыя ў традыцыйных рок-краінах. Трэцяе месца на фестывалі ў Токіо, праца ў заходніх студыях і чатыры пласцінкі ў Польшчы. Назву групы, дарэчы, дала адна з песень Барысевіча-Магельніцкага «Мала Лэдзі Панк». «Лэдзі Панк» гучыць гэтаксама ж, як «Ролінг Стоўнз». «Я хацеў спалучэння дзвюх процілеглых рэчаў»,— каменціраваў назву Магельніцкі. Вобраз адзінотніка, які не жадае дапускаць умоўнасцей грамадскае думкі ў свой унутраны свет, з цяжкасцю стрымлівае свае пачуцці, нічога не кажа «ў лоб», прыйшоўся даспадобы маладым палякам. Хіты «Ніжэй нуля», «Зараз трошкі блюза», «Гэта толькі рок-н-рол» прынеслі «Лэдзі Панк» шумны і заслужаны поспех. Апафеозам ажыятажу вакол «Лэдзі Панк» стаў знакаміты «мікджагераўскі» жэст Яна Барысевіча, з захапленнем сустрэты польскім андэграўндам і падвергнуты шматмесячнаму абмеркаванню ў польскім друку. Цяпер ужо цяжка пэўна даведацца, здымаў ці не Барысевіч штаны на тым нядобрай памяці канцэрце і што менавіта прадэманстраваў ён публіцы — «біблейскае» месца ці проста непрыстойны жэст рукою,— так ці інакш, вынікам быў адміністратыўны арышт і вымушаны перапынак у дзейнасці групы.

«Мне блізкае оруэлаўскае бачанне свету — узаемадзеянне сістэм, якія стаяць над дабром і злом»,— заявіў неяк Гжэгаш Чахоўскі, лідэр групы «Рэпубліка». З першага ж сінгла («Камбінат») сцяг халоднасці і адчужэння, стрэсу і лёгкага нервовага захворвання залунаў над гэтай новай у польскім року тэрыторыяй. Падарожжа па ўзмежжы панка і новай хвалі працягвалася нядоўга, група паспела запісаць усяго два альбомы: «Новыя сітуацыі» і «Нястомнае танга», але, рызыкну сказаць, запомнілася надоўга. «Не страляйце ў аркестрантаў. Калі яны загінуць, прыйдуць новыя, яшчэ лепшыя»,— такія тэкставыя «фрагменты» ў спалучэнні з імпульсіўнымі музычнымі фразамі, абстрагаванымі аранжыроўкамі дагэтуль бянтэжаць тых, хто ведае польскую мову. Непрыняцце прапаведзі і маралізатарства, дэманстратыўная адсутнасць у кампазіцыях усялякіх маральных ацэнак былі, канечне, добра вядомыя з часоў «Секс Пісталз», але ніколі яшчэ да «Рэпублікі» за гэтымі зыходнымі данымі не стаяў вопыт славянскае культуры. На жаль, трэці альбом («Грамадзянін Г. Ч.») Гжэгашу прыйшлося запісаць як сольнік ужо з іншымі музыкамі.

«Маанам», «Рэпубліка» і «Лэдзі Панк» былі бясспрэчныя лідэры свайго часу, але не варта ўсю вяршыню польскага рок-айсберга 80-х аддаваць толькі гэтаму трыо. Бадай, «Крызіс» (пазней «Брыгада Крызіс»), які заслужыў максімум афіцыйных негатыўных адзнак за свой «рок прамога дзеяння»,— адна з самых яркіх з'яў у гісторыі еўрапейскага палітычнага року. Як на маю думку, дык, напрыклад, «Цэнтраль» і «Радыеактыўны блок» з адзінай пласцінкі «Крызісу» — вышэйшыя за дзесяткі салодкіх хітаў «Комбі» і «Ломбарда».

Групы арт-року на чале з «Эксодусам» і хэві-мэтала («ТСА»), поп-ансамблі («Папа Дэнс», «Рэзерват»), каманды андэграўнда («Рыо Рас», «Сякера», «Ізраіль») і асноўнае плыні — «Будка суфлёра», «Перфект», эклектычныя «Клінч», «Одзял замкненты» суіснавалі ў «музыцы маладога пакалення» «зялёнай хваляю» («Джоргі» і песенькі для дыскатэк у выкананні Франэка Кімано). Узначалены былым жыхаром Вялікабрытаніі, вялікім знаўцам рок-стандартаў Джонам Портэрам, «Джон Портэр Бэнд» запомніўся цудоўным альбомам «Гелікаптэры». Варта згадаць яшчэ «Ая Р. Л.», «Рандэву», сінтэзатаршчыка Марэка Білінскага, і — не будзем забывацца! — Чэслава Немена, які не мае ні аналагаў, ні эпігонаў, карыстаецца падтрымкаю джазавых музыкаў і па-ранейшаму застаецца асноўнай фігураю польскага музычнага імпарту ў соцкраіны. А колькасць паўпрафесійных, аматарскіх гуртоў — велізарная. Паводле сведчання польскага журналіста Вацлава Вейса, у адной толькі Лодзі ў 1980 годзе на праслухоўванне перад фестывалем згадзіліся ўдзельнікі 33-х ансамбляў.



У другой палове 80-х становішча змянілася. Чысты рок, паступова раствараючыся ў аморфным электрычным гуку камерцыйнай эстрады, быў амаль на карані выкуплены шоу-бізнесам. Грані сцерліся, адценні змякчыліся. Большасць лідэраў пачатку дзесяцігоддзя разышліся хто куды альбо шчодра залілі сваю музыку цукровым сіропам. Кора і Гжэгаш Чахоўскі занятыя сольнымі работамі, «Лэдзі Панк», здаецца, уступілі ў паласу крызісу, а маладыя групы не так ужо лёгка, як калісь, збіраюць поўныя залы. Гэтаксама ж, як у сацыяльным жыцці Польшчы адбыліся памятныя нам змены, так і польскі рок прыкметна прыціх.

Вопыт «польскага сіндрому» 1980—1985 гг. безумоўна карысны і для развіцця беларускіх гуртоў, і для лепшага разумення працэсаў, якія адбываюцца ў савецкім року. Гістарычнае становішча Польшчы як «буфернай зоны» паміж Усходам і Захадам прывяло да таго, што новыя для Усходу мастацкія формы апрабіруюцца ў Варшаве трохі раней, чым у Маскве. Так здарылася і на гэты раз. Рок-выбух і сацыяльныя перамены ў нашым жыцці наступілі ўслед за польскімі падзеямі. Камерцыя, якая з'ела ўжо практычна ўсіх тамтэйшых герояў «маладога пакалення», толькі ўзялася за нашых. Выхад на заходні музычны рынак, які стаў учарашнім днём для палякаў, у нас падаецца як вялікае дасягненне ўсходняга року. Разгорнутая індустрыя выпуску ліцэнзіённых дыскаў ужо нікога не здзіўляе ў Польшчы, нашыя ж рокеры дагэтуль не могуць паверыць сваім вачам, убачыўшы на прылаўку альбом Пітэра Гэйбрыэла. Групы «маладога і яшчэ маладзейшага пакалення», вытрымаўшы самую жорсткую канкурэнцыю з боку кансерватыўнага друку, маюць ужо буйную дыскаграфію, а ў нас дагэтуль нямала тых, хто паспеў састарыцца, чакаючы выхаду сваёй пласцінкі. Забароны танцаваць ля сцэны ў час канцэртаў заходніх зорак абмяркоўваліся ў польскай прэсе яшчэ ў 60-х (знакаміты візіт «Ролінг Стоўнз»), калі зоркам гэтым на нашую тэрыторыю і падумаць прыехаць было нельга...

Таму, як мне здаецца, масквічы і ленінградцы павінны радзей прымерваць на сябе адзенне ўсходніх першапраходцаў. «Духоўны цэнтр» року перамясціўся ў Расію зусім не напрасткі з Лондану, апроч таго, ён не затрымаецца там назаўжды. Таму варта перапыніць бессэнсоўную палеміку на тэму «Ці патрэбны нам рок?». Рок не збіраецца прасіць дазволу на існаванне ва ўдзельнікаў гэтае палемікі — як і любое іншае мастацтва.

Згадваючы польскія публікацыі 1985—1986 гг. на тэму «Ці настае канец польскага року?», рызыкну прадказаць у самай бліжэйшай будучыні з'яўленне падобных недарэчных артыкулаў у нашай прэсе. Варта ўдакладніць, што, па вызначэнні рок-барда Юрыя Навумава, засмечванне новай мастацкай формы хутка дасягае крытычнай канцэнтрацыі, пасля чаго застаецца стабільным.

І самае галоўнае. Блізкасць нашых культур дае беларускім музыкам добрую магчымасць павучыцца ў суседзяў выкарыстанню мовы і фальклорных сродкаў, супаставіць два рок-варыянты — варшаўска-гданьскі і ленінградска-маскоўскі, адкрыць уласную краіну на карце рок-музыкі.

**Аўтар выказвае ўдзячнасць Аляксандру Кузняцову (г. Мінск) за прадастаўленыя архіўныя матэрыялы.**

**Фелікс АКСЁНЦАЎ**

адкрыты ўрок

# куміры ці анты-героі?

...Педсавет быў аднадушны: Сашу ў 9-ы клас не браць. Нават маё, настаўніка-прадметніка, «супраць» на рашэнне не паўплывала — хутчэй, наадварот. І я, маўляў, падазрона шмат займаюся з ім, і кніжкі яму даю розныя, і ўвогуле... «памаўчалі б лепш!».

«Чаму раптам?» — думаў я. Рашэнне не пусціць у 9-ы клас (а «нездавальняючых» паводзіны ў 8-м класе дазвалялі зрабіць гэта) досыць здольнага хлопца, калі ў нас, у адрозненне ад гарадскіх школ, у 9-ы клас ідуць тыя, хто ўвогуле нікуды не змог паступіць — уяўлялася мне, мякка кажучы, дзіўным.

Я абурыўся. Педсавет яшчэ больш (на жаль, тады я яшчэ не быў дырэктарам). Пачуліся крыкі:

— Ды ён грубіян!..

— Ды ён на настаўніка пляваць хацеў!

— Ды ён у твар смяецца!..

Не ведаю, што больш — ці такая аднадушнасць шаноўных калег ці іх нязвычная прынцыповасць, ці то плынь абвінавачванняў, што абрынулася на Сашаву долю,— уразіла мяне, але я здаўся. Здаўся, настаўшы толькі на «сваёй думцы»...

Мы і праўда, калі так можна сказаць, сябравалі. Пачалося гэта якраз у першы год майго настаўніцтва, калі я прыйшоў да іх у 8-ы клас выкладаць мову і літаратуру. Расстаноўка сіл у іх была для вясковае школы класічная: тры хлопчыкі і шэсць дзяўчынак. Усе яны як маглі выседжвалі сваю «няпоўную сярэднюю».

Саша сярод іх вылучаўся.

Па-першае, ён сядзеў адзін. Нават калі не прыходзіў у школу адзін з яго аднакласнікаў і можна было перасесці да другога, ён заставаўся ў ганарлівай адзіноце.

Па-другое, з настаўнікамі Саша трымаўся неяк падкрэслена ветліва, але ў вачах у яго пастаянна таілася паўпагардлівая, паўз'едлівая ўсмешка, якая нават настаўнікаў прымушала трымацца на адлегласці і таму выклікала ў іх вострае раздражненне.

Да вучобы ён ставіўся не лепей, чым астатнія двое «аболтусаў», інакш кажучы, не выконваў хатніх заданняў, забываў сшыткі, адмаўляўся адказваць, але часам нібыта запальваўся: у вачах успыхвала непадробная цікавасць, ён нешта запісваў у свой сшытак, нават увязваўся ў дыскусію. Кідаў са свайго месца рэплікі — і, як кажуць, у яблычка. З той самай мефістофельскай усмешкаю.

Неўзабаве я заўважыў, што на фоне яго іных апатычна-сонных аднакласнікаў ён адзіны, хто прымушае мяне зноў і зноў вечарамі пракручваць заўтрашні ўрок. Хоць прыходзіў Саша на заняткі не дужа рэгулярна.

«Пазнаёміліся» мы нечакана.

Аднаго разу, пасля ўрокаў, пачакаўшы, пакуль усе выйдуць з класа, ён падышоў да мяне і нібыта выпадкова спытаўся:

— А гэта праўда, што Высоцкі... сядзеў?

— Дзе сядзеў? — не скеміў я, складаючы сшыткі.

— У турме,— пачырванеў ён.

Я хацеў быў засмяяцца, але падобны інтарэс да прыгожага пісьменства, няхай нават у такой форме (дый ад каго!), прыемна мяне здзівіў. На ганку школы я стаў расказваць яму тое, што ведаў пра Высоцкага: пра ягоную біяграфію, «Таганку», Гамлета, песні...

Раптам схамянуўся і паглядзеў яму ў вочы. На жаль, як часта, узляцеўшы ў «горныя вышыні» духу і незнарок слізнуўшы позіркам па тварах выхаванцаў, я апякаўся аб іх напалоханае неразуменне!

Тут яго не было. Была цікавасць, і нават нейкая хваравітая.

Пазней я даведаўся, што ён таксама піша вершы і спрабуе «пад Высоцкага» спяваць іх.

Нашыя сустрэчы сталі часцейшыя.

— Вось верш... паглядзіце,— неўзабаве, адводзячы вочы, сказаў ён і паклаў мне на стол аркуш паперы, спісаны вершаванымі радкамі. Я ўзяў.

Па ягонай просьбе я адрэдагаваў верш, стараючыся не думаць, хто хаваецца пад «блатным хлопцам» і «дзяўчынаю з густою касою».

Потым Саша яшчэ прынёс вершы. Я ў сваю чаргу даў яму (о, педагогіка «супрацоўніцтва» ў тайне ад дырэктара!) пачытаць свае апавяданні, любімыя кнігі... Усё часцей па вечарах ён стаў «выпадкова забягаць» у нашую «каморку» пры школе, дзе мы жывём з жонкаю, і расказваць пра сваё нялёгкае «разгільдзяйскае» жыццё.

Ён ужо саромеўся на маіх уроках адпускаць свае жартачкі, але іншы раз той самы надрыў прарываўся ў ягоных паўрэплiках — паўадказах, і нейкі смутак прыкоўваў ягоны позірк да акна, за якім у бок горада несліся машыны.

Больш рэгулярна здаваў цяпер Саша і хатнія сачыненні. Невялікія, адна-дзве старонкі, але чытаць іх было цікава. Нягледзячы на процьму граматычных памылак, там было тое, чаго не было ў ягоных аднакласнікаў: спроба, няхай няўмела, але разабрацца ў сваіх пачуццях, думках, зірнуць на літаратурных герояў не па-кніжнаму.

Так прайшоў год. І вось гэты педсавет...

Рашэнне педсавета ён выслухаў надзіва спакойна і нават адпусціў свой чарговы жарт. У гэтым усе ўгледзелі ўсё тую ж самую грубасць, не больш.

Саша забраў пасведчанне са сваім «незд.» і паступіў у нейкае вучылішча, дзе з такімі «незд.» бралі з рукамі і нагамі,— ці то на мантажніка, ці то на слесара. Галоўнае, як ён паведаміў мне, работа свеціць цікавая, камандзіровачная.

Бачыліся мы цяпер рэдка, часцей за ўсё ў мясцовым аўтобусе, на якім я, па просьбе дырэктара, ездзіў у суседнюю школу замяшчаць калегу, што з'ехаў з вёскі, а Саша — дахаты, на выхадныя. Горад ужо ўзяў яго ў абарот: на ім былі «саматужныя», з таннага матэрыялу «бананы», куртачка ў металічных заклёпках, і было ў яго сумнай фізіяноміі нешта такое, што прымушала пасажыраў нават у перапоўненым аўтобусе трымацца ад яго як мага далей.

Аднойчы вечарам, выходзячы з клуба са стосам бібліятэчных часопісаў, я ўбачыў яго ў акружэнні хлопцаў на падпітку. Зрабіў выгляд, што не заўважыў Сашу, але ён сам ступіў крок насустрач мне.

— Дзень добры, Уладзімір Маркавіч!

— Дзень добры,— спыніўся я.— Як жывеш?

— Ды вось,— задзірыста кіўнуў ён у бок прыяцеляў.— Гуляем!

— А ў астатнім?

— Што ў астатнім? — Саша стаў змрочны.

— Вершы... пішаш? — спытаўся я, «не заўважаючы» няёмкі для гэтага сітуацыі.

— Пішу. Дзённік,— сумеўся ён і дадаў з выклікам: — А я яшчэ ў секцыю запісаўся. Самба.

— Самба? Навошта? Крыўдзяць... там? — мякка спытаўся я.

— Не-е!.. Мяне пакрыўдзіш! — хрыпла засмяяўся Саша, пракашляўся і абыякава растлумачыў:

— Для справы трэба. Заяву пісаць буду.

— Заяву? Куды?

— У ваенкамат. Добраахвотнікам каб... У Афган...

— У Афган? — не адразу скеміў я.— А...

— Нудна тут,— апярэдзіў маё пытанне Саша і ўздыхнуў даверліва.— Хутчэй бы! А то яшчэ ў турму сяду...

— Але чаму менавіта... Афган? — разгубіўся я.— Інтэрнацыяна...

— Дык вы ж самі казалі, што Лермантаў ад задушлівай рэчаіснасці на Каўказ уцёк. Так?

Гэта было не зусім так, але я не стаў спрачацца, а зноў спытаўся:

— А ты ад чаго... уцякаеш?

— Ах, Уладзімір Маркавіч! — прастагнаў ён.— У нас у вучылішчы адны «калёсы» глытаюць, другія ў бл...ва кінуліся, трэція культурызмам заняліся, каб, значыцца, потым на танцах «каралямі» быць...

— А ты?

— Я таксама. Во! — паказаў Саша тугія біцэпсы.— Гэта каб у Афган паслалі. Дэсантнікам. Як думаеце, ці задаволяць просьбу?

Я не паспеў адказаць, яго паклікалі.

— А наконт гэтага... кніжак... вы не думайце,— замітусіўся Саша.— Я чытаю. І вершы дашлю вам. З Афгана,— і пабег да прыяцеляў.

Неўзабаве, стаўшы дырэктарам школы, я пераканаўся, што Саша не адзінокі ў сваім жаданні. Але дзіўная рэч: пераважна гэта была мара тых хлопцаў, якія запямілі сябе «геройствамі» ў бойках, п'янках і па якіх «плакалі» спецпрыёмнікі. Для іх, заўважаў я, Афганістан — не так канкрэтная краіна, у якой нашы войскі выконвалі нялёгкі інтэрнацыянальны абавязак, як дзіўная краіна, дзе ўсё не так, як тут. Дзе можна смела давяраць словам «сябар», «гонар», «абавязак» і адчуць радасць, а не горыч расчаравання ад таго, што даверыўся. Дзе можна скінуць маску добрага хлопчыка і не дурэць ад нуды, адчаяўшыся нешта зразумець у гэтым посным, двудушным жыцці. Дзе ад цябе залежыць не працэнт ахопу гуртковай работаю, а жыццё сябра ці нават нешта большае... Дзе, урэшце, ёсць рамантыка!..

Уяўляю сабе, што скажуць на гэтыя словы чалавеказнаўцы ў мундзірах!.. Можа, маральныя якасці ў гэтых хлапчуках спрацавалі? Тыя, якія ва ўпор не бачаць настаўнікі ў сваіх выхаванцах?

Гэх, калі б так... Відаць, час ужо адмовіцца ад казкі: быў двоечнік-хуліган, а там перавыхаваўся і стаў гонарам школы. Вось, маўляў, таварышы-педагогі: вы не разгледзелі, а там — змаглі! Справа не ў настаўніцкім аўтарытэце, а ў сумнай недарэчнасці гэтае тэзы.

А можа, нам усім нават выгадна мець такі магніт, які прыцягвае да сябе, высмоктвае з нашага жыцця непакорлівых, неўраўнаважаных, з няручнымі для нас характарамі, пачуццямі, думкамі?!.

І вось непрыкметна, без санкцыяніравання ЦК камсамола, з'явіўся, выкрышталізаваўся новы герой, тып, узор для пераймання — «афганец». Чалавек, які пабываў т а м, ачысціўся ад смецця нашага жыцця. Для хлопцаў «афганец» — пароль, візітоўка, якая сведчыць аб тваім сацыяльна-маральным статусе.

Якая прастора журналістам, пісьменнікам, кінарэжысёрам, тым больш што герой гэты, трапіўшы пасля «чысцяца» ў «роднае пекла», на жаль, часта пераўтвараецца ў антыгероя.

А мы маўчым. Нібыта не абрастае ён «гер-раічнымі» абертонамі ў выглядзе пагромаў («Ах, як афганцы Траецкае аддубасілі!»), у выглядзе п'яных боек.

Некалькі гадоў я змагаўся за сваё апавяданне, у якім, як мне здаецца, апісаў гэтую з'яву. І што? Спачатку — «нельга, рана», потым выкрываліся недахопы ў мове, цяпер увогуле «кампазіцыя кульгае», а праз год-два, бог дасць, спішуць за неактуальнасцю.

Справа не ўва мне, справа ў той праблеме, якую мы не толькі не вырашаем, а баімся назваць, чакаючы выратавальнага дазволу на зняцце табу.

Нібыта не сунуцца поўнай нуды паходкаю падлеткі на падпітку, пераймаючы свой узор: цяльняшкі пад расшпіленымі да пояса кашулямі, злы позірк — «хто на нашых?».

І няважна, хто «нашы», а хто «не нашы» — галоўнае, «нашых» трэба абараняць. Няважна, ад душманаў ці ад чужакоў з другой вёскі.

...Прывялі да мяне нядаўна аднаго такога. Сароміць пачаў, а ён у слёзы:

— Вось пайду ў Афган, атрымаю медаль, а можа, і ордэн нават, самі потым у школу запрашаць будзеце!..

...Я ўжо заканчваў гэтыя нататкі, калі прыйшлося пайсці на школьны вечар у тую школу, дзе я настаўнічаў. І ў дзвярах нечакана сутыкнуўся з Сашам: быў ён на падпітку, з гітараю.

— Чытаў ваш артыкул у «Крыніцы»,— усміхнуўся ён замест прывітання.— Будзеце яшчэ пісаць?

— Буду,— прызнаўся я.

— Пра каго?

— Пра цябе.

— Няўжо-о?! — не надта здзівіўся ён.

— Можна?

— Калі ласка,— пацiснуў ён плячыма.

— Як вучоба? — пацікавіўся я.

— Ніяк. Не вучуся я ўжо,— сумеўся Саша.

— Чаму?

— А-а,— махнуў ён рукою.— З майстрам пабіўся. Сам і пайшоў. Чаго чакаць, пакуль выганяць, праўда? У калгасе цяпер працую...

Памаўчалі.

— У Афган... у Афганістан,— папраўіўся я,— не раздумаў ісці?

— Не-е, не раздумаў,— усміхнуўся ён.— Вось толькі войскі адтуль ужо вывелі. Так што не паспеў. Ну, нічога,— уздыхнуў Саша,— куды-небудзь яшчэ буду прасіцца. Возьмуць, як вы думаеце?

Я не паспеў скеміць, як ён, забыўшыся на мяне, нацвёрдай хадою накіраваўся да невысокага чорнавалосага хлопца, мясцовага воіна-інтэрнацыяналіста, які не так даўно вярнуўся з Афганістана.

Яны пашапталіся, а потым, зірнуўшы ўпотайкі ў мой бок, шмыгнулі ў цемрадзь — да альтанкі.

Праз паўгадзіны пачалася бойка...

**Уладзімір ГРАЎЦОЎ**

*суб'ектыўныя дыялогі*

# новенькая з «Ньюсуік»

**У журналісцкім корпусе амерыканскіх карэспандэнтаў, акрэдытаваных у Маскве,— новенькая. Гэта Кэрал Богерт, дваццацісямігадовая журналістка з «Ньюсуік».**

— Кэрал, паводле савецкіх мерак ты вельмі малады замежны рэпарцёр, да таго ж жанчына, раскажы, калі ласка, пра сваю кар'еру ў прэсе.

— Я скончыла Гарвард, дзе вывучала сацыялогію і палітычныя навукі, у тым ліку вельмі шырока работы Карла Маркса, філасофію. Затым, на працягу года, вучыла кітайскую мову на Тайвані. Пасля гэтага была прынята на працу ў «Ньюсуік». Журналістыцы нідзе спецыяльна не вучылася.

— Колькі гадоў ты працавала ў ЗША да таго, як стаць замежным карэспандэнтам!

— Працавала толькі за мяжою і аніводнага дня ў Амерыцы. Пасля вучобы я два гады жыла ў Кітаі. З іх год працавала ў «Ньюсуік». Пасля Пекіна паслалі ў Ганконг, дзе была год. Пісала ў Паўднёва-Усходняй Азіі — Тайвань, Малайзія, Сінгапур. Але вось часопіс вярнуў мяне назад у Гарвард на 5 месяцаў вывучаць рускую мову, і цяпер я тут.

— Да прыезду ў Савецкі Саюз у цябе было сваё ўяўленне пра нас, перабудову, ці змянілася яно цяпер!

— Скажу дзве рэчы. Па-першае, у мяне быў пэўны кітайскі вопыт, да гэтага я не жыла ў сацыялістычнай краіне. Кітайскі сацыялізм не такі развіты, я не чакала ўбачыць такую магутную індустрыю ў СССР. Аднак Савецкі Саюз вельмі адрозніваецца ад ЗША і не ва ўсім у лепшы бок. І другое, тут не так цяжка ўзяць інтэрв'ю, калі ты ведаеш чалавека і звяртаешся да яго асабіста. Спроба ж зрабіць тое самае праз вашы цэнтральныя органы можа скончыцца нічым. У гэтых адносінах у вас горш, чым у Кітаі.

— Тваё галоўнае адкрыццё ў СССР!

— Кожны дзень я даведваюся пра нешта новае, кожны дзень сустракаю людзей. Гэта мне вельмі цікава. А нядаўна была прэс-канферэнцыя, на якой прысутнічалі адразу тры члены Палітбюро. Мы маглі задаваць ім пытанні. Такога раней не здаралася, я не чакала гэтага і была прыемна здзіўленая.

— Як ты разумееш свабоду слова!

— Свабода слова — гэта аснова добрай журналістыкі. Свабода слова азначае адказнасць. Ты не можаш гаварыць тое, што ты хочаш, пра некага, калі ты зманіла, цябе могуць прыцягнуць да суда ці аштрафаваць.

— Ці можаш ты пісаць пра ўсё, што хочаш!

— Так, але адна ўмова: гэта павінна быць цікава. Можна пісаць пра любы бок жыцця, галоўнае прыцягнуць увагу чытача, каб ён захацеў прачытаць матэрыял.

— Пра што табе падабаецца пісаць!

— Люблю пісаць пра будзённае жыццё вашых людзей, бо не ўсе ў Амерыцы маюць рэальнае ўяўленне на гэты конт. Людзі чытаюць пра кантроль над узбраеннем, пра перабудову, пра Гарбачова, Лігачова, Ельцына. Аднак мы мала ведаем пра тое, што робіць савецкі чалавек кожны дзень, як ён працуе, як жыве.

— Хто-небудзь выпраўляе твае артыкулы!

— Ніхто не можа змяніць мой матэрыял, яго могуць зрабіць карацейшым, што практыкуецца досыць часта. Карэкціраваць не стануць па палітычных меркаваннях.

— У якім жанры ты любіш пісаць!

— Тут, у СССР, нас толькі двое з часопіса. Мы павінны ўмець пісаць пра ўсё — эканоміку, палітыку, кантроль над зброяй, пра культуру, бізнес і астатнія аспекты жыцця краіны. Нядаўна, напрыклад, я напісала рэцэнзіі на кнігі пра Карасон Акіна. Калі яна прыйшла да ўлады, я была якраз на Філіпінах.

— Ці атрымліваеш ты ганарар за апублікаваны матэрыял!

— Не. «Ньюсуік» за артыкулы не плоціць. Але я, напрыклад, магу пісаць апавяданні для часопіснага дадатку «Перыскоп» і атрымліваць па 50 доляраў за твор. Можна пісаць для іншых часопісаў, але ўся мая энергія павінна быць аддадзена «Ньюсуік».

— Прабач за нясціплае пытанне, які твой заробак!

— Ён меншы, чым у большасці амерыканскіх журналістаў у Маскве, бо я вельмі маладая і недастаткова вопытная. І, вядома, я атрымліваю нашмат менш за майго боса, які ўжо 25 гадоў у журналістыцы.

— Ці ёсць у цябе журналісцкія праблемы!

— Так, вось зараз (у гэты момант мы ехалі на сустрэчу Ельцына з рабочымі Зіла) нас могуць не пусціць, бо ў нас няма нейкага пасведчання. Яны ніколі не кажуць нам, што яно патрэбнае. Тут трэба занадта шмат пасведчанняў, у вас на кожным кроку сакрэты. Ствараецца сакрэтнасць там, дзе яе няма. Вельмі цяжка ўвайсці ў галоўны будынак МДУ. Чаму! Што там можа быць сакрэтнага! Чаму універсітэт не з'яўляецца адкрытым, як ва ўсіх краінах! Адкрытасць — неабходная ўмова для навучання.

— Хто вызначае курс вашага часопіса!

— У нас няма палітычнага курсу. Наша палітыка — пошук навін. Зараз я растлумачу табе крыху. «Тайм» і «Ньюсуік» прыкладна аднолькавыя і нават маюць вялікае вонкавае падабенства. Часта гэтыя часопісы пішуць пра адно і тое ж. І людзі часам кажуць, нібыта часопісы абсалютна аднолькавыя. Але гэта не так. Скажу, чаму. «Тайм» звычайна піша пра тое, што здарылася на мінулым тыдні, гісторыю мінулага тыдня. «Ньюсуік» больш піша пра сённяшнія падзеі ці пра тыя, якія маюць адбыцца на гэтым тыдні, і як гэта трэба разумець. Іншы раз пішам пра факты мінулага, калі на гэтым тыдні ці ў гэтым месяцы яны могуць выглядаць па-іншаму. «Тайм» больш глядзіць назад, у гісторыю. Наш часопіс імкнецца зазірнуць уперад, таму мы больш рызыкуем.

— Добра, але «Тайм» мае вялікі тыраж.

— «Тайм» старэйшы за наш часопіс і быў вельмі вядомы адразу пасля свайго заснавання, ён мае, скажам так, стартавую перавагу. За мяжою «Тайм» выдаецца на добрай паперы, у каляровым выкананні, «Ньюсуік» — толькі ў чорнабелым. Яны багацейшыя, да таго ж «Тайм» займае вядучае месца ў сваёй кампаніі, яны нават могуць дазволіць сабе бясплатна рассылаць сваім падпісчыкам стэрэамагнітафоны і фотаапараты. Мы не можам.

— Што ты лічыш недахопам амерыканскай журналістыкі!

— Калі тэма не мае нечага асаблівага, за яе наўрад ці хто возьмецца, ці могуць неяк упрыгожыць яе, каб яна была цікавейшая. Бывае, раздзьмуваюць тэмы. Так, людзям цікава чытаць пра тэрарызм, з другога ж боку, факт публікацыі можа заахвоціць тэрарыстаў да новых акцый. Не заўсёды проста знайсці рашэнне.

— Галоўная якасць журналіста!

— Цікаўнасць. Ты хочаш ведаць. Ты заўсёды цікавішся.

— Каго пасылаюць працаваць за мяжу!

— У Амерыцы працаваць за мяжою часта накіроўваюць менавіта маладых людзей. Справа ў тым, што ў большасці краін умовы жыцця цяжэйшыя, горшыя, чым у нас. Прафесія журналіста цяжкая, даводзіцца шмат працаваць, а маладыя не маюць яшчэ сем'яў. Разумееш, цяпер прэстыжна і адказна працаваць у Маскве, але па-ранейшаму цяжка нам, людзям, якія прывыклі да іншае якасці жыцця. Ты дзівішся, чаму ў вас інакш! У савецкіх журналістаў сітуацыя іншая, работа на Захадзе дае ім шмат істотных матэрыяльных прывілеяў і пераваг. Для чалавека натуральна задаваць пытанні. Таксама і скептыцызм. Ты не павінен заўсёды верыць людзям. Людзі хлусяць. Асабліва хлусяць урады. Тут урад хлусіць, і ў Амерыцы ўрад хлусіць. Кожны ўрад хлусіць. Людзі ўсіх тыпаў хлусяць гэтаксама ж, як і ўрады. Прэзідэнт кампаніі хлусіць, кіраўнік прафсаюзаў хлусіць — яны хочуць стварыць імідж у грамадскасці. Работа журналіста можа спрыяць фарміраванню такога іміджа, таму ты не можаш заўсёды верыць людзям, яны могуць падмануць цябе.

— Пра што ты марыш як чалавек і як журналіст!

— Быць вельмі цікавай старой лэдзі — гэта мэта майго жыцця. Хацела б стаць сведкаю цікавых падзей, каб потым расказваць пра іх маім унукам. Мая журналісцкая мара тая ж. Гэта досыць эгаістычна, і я не думаю, што палепшу чалавецтва, але спадзяюся, маё жыццё будзе цікавае.

**Леанід ДАКУЧАЕЎ,**
**студэнт універсітэта Дружбы народаў імя Патрыса Лумумбы**



**Сяргей ТАЛЯРОНАК,**
**супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР**

# жнівень і верасень 1939-га: погляд праз паўстагоддзя



**1 верасня 1989 года спаўняецца 50 гадоў ад пачатку другой сусветнай вайны. 17 верасня — 50 гадоў з дня ўз'яднання Беларусі.**

**1939-ы быў трагічны для Еўропы год. Фашысцкая Італія акупіравала Албанію. Нацысцкая Германія, ірвучыся да сусветнага панавання, канчаткова ліквідавала Чэхаславакію, а затым здзейсніла агрэсію супраць Польшчы. Гэтак другая сусветная вайна шчыльна падышла да межаў Савецкага Саюза.**

*карункі часу*

У жніўні і верасні 1939 года СССР заключыў з Германіяй дзве дамовы, вынікам якіх сталася істотная змена палітычнай карты Еўропы. Калі пакт аб ненападзенні ад 23 жніўня быў адным з фактараў, што дазволілі Германіі без перашкод знішчыць Польшчу, дык дамова аб дружбе і мяжы паміж СССР і Германіяй ад 28 верасня, здавалася, назаўсёды пахавала надзею на адраджэнне польскае дзяржавы.

Вядома, што з 1569 года Польшча разам з Вялікім княствам Літоўскім (г. зн. Літвой і Беларуссю) уваходзіла ў склад федэратыўнае дзяржавы — Рэчы Паспалітай. У 1772, 1793, 1795 гадах гэтая дзяржава была падзеленая паміж Расіяй, Прусіяй ды Аўстрыяй.

Звяртанне Раманавых, перамога сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі, рэвалюцыі 1918 года ў Германіі і Аўстра-Венгрыі сталіся перадумовамі адраджэння польскае дзяржавы. Аднак, не паспеўшы падужэць, новая Польшча прад'явіла тэрытарыяльныя прэтэнзіі на Украіну, Беларусь і Літву.

Менавіта з-за тэрытарыяльных прэтэнзій Польшчы пачалася савецка-польская вайна. Пачаўшы яе як абарончую акцыю, РСФСР хутка пераняла яе ў разрад войнаў класавых. Зрынуць у Польшчы ўладу буржуазіі, усталяваць там Савецкую ўладу — такая задача была пастаўлена перад Чырвонай Арміяй. Польскі народ, займеўшы доўгачаканую незалежнасць, цесна згуртаваўся вакол Ю. Пілсудскага і пры ўзмоцненай ваеннай і фінансавай дапамозе Антанты адбіў часткі Чырвонай Арміі, якія наступалі на Варшаву.

Поспехі Войска Польскага прымусілі Савецкую Расію прапанаваць Польшчы, па словах У. І. Леніна, «выгадны для яе, нявыгадны для нас мір».

18 сакавіка 1921 года прадстаўнікі РСФСР і Украіны, з аднога боку, і прадстаўнікі Польшчы, з другога, падпісалі ў Рызе мірную дамову. Інтарэсы Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі прадстаўляла ў Рызе РСФСР. Паводле дамовы заходнія землі Беларусі і Украіны адыходзілі пад уладу Польшчы.

Рыжскі трактат выклікаў незадавальненне ў асяроддзі беларускае інтэлігенцыі як у БССР, так і ў Заходняй Беларусі. Супраць яго выступілі, у прыватнасці, Янка Купала і Якуб Колас.

У Заходняй Беларусі разгарнулася партызанская барацьба. Яе вялі камуністы і беларускія эсэры. Сацыялістаў-рэвалюцыянераў падтрымліваў урад Ластоўскага, які асталяваўся ў Каўнасе. Другая частка беларускіх палітычных дзеячаў — сацыял-дэмакраты і хрысціянская дэмакра-

тыя — абралі мірны варыянт барацьбы з акупантамі. Выбары ў сейм у 1922 годзе прынеслі ім поспех. Да 1923 года партызанская берацьба не прынесла поспеху і згасла. Частка былых эсэраў, якая выйшла з Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і ўтварыла Беларускую рэвалюцыйную арганізацыю, злілася з Кампартыяй Заходняй Беларусі (КПЗБ). Партыя, у якой раней не было людзей, што актыўна валодалі беларускай мовай, магла цяпер весці работу і ў масах, пачаць дыялог з сацыял-дэмакратамі і іншымі беларускімі групамі.

У 1925 годзе паслы (дэпутаты) сейма беларусы Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і П. Валошын стварылі пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ). Кіраўнікі Грамады сацыял-дэмакраты Б. Тарашкевіч і С. Рак-Міхайлоўскі перайшлі ў КПЗБ. Аўтарытэт БСРГ рос, і хутка яна ўжо налічвала ў сваіх радах 100 тысяч чалавек. Масавы рух разгарнуўся і ў Заходняй Украіне. У гэтых умовах Ю. Пілсудскі здзейсніў у маі 1926 года дзяржаўны пераварот. Умацаваўшы рэжым асабістае ўлады, ён пачаў разгром прагрэсіўных арганізацый. У ноч з 11 на 12 студзеня 1927 года дэфензіва арыштавала больш за 800 вядомых дзеячаў БСРГ. У 1928 годзе суд прыгаварыў Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, П. Мятлу і П. Валошына да 12 гадоў зняволення кожнага.

Разгром Грамады і рэпрэсіі нанеслі ўдар па вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Але і ў гэтых умовах у снежні 1927 года з ініцыятывы КПЗБ ў Вільні быў створаны камітэт «Змаганне за інтарэсы сялян і работнікаў» па падрыхтоўцы выбараў у сейм. Пасламі (дэпутатамі) былі абраныя Ф. Валынец, І. Гаўрылік, І. Грэцкі, І. Дварчанін, А. Стагановіч (яго ў 1929 годзе змяніў П. Крынчык). Яны стварылі ў сейме фракцыю, назваўшы яе Беларускім сялянска-работніцкім клубам «Змаганне». У 1930 годзе паліцыя знайшла нагоду для арышту кіраўнікоў і гэтага клуба.

Да пачатку трыццатых гадоў сітуацыя ў Заходняй Беларусі істотна змянілася. Немагчыма стала аб'яднаць дэмакратычныя нацыянальна-вызваленчыя сілы. Гэта тлумачылася палітыкай сталінскага кіраўніцтва. Прымусовыя метады калектывізацыі ў БССР, якая суправаджалася высяленнем і расстрэламі, рэпрэсіі супраць выдатных дзеячаў КП(б)Б, БССР і беларускае культуры — усё гэта выклікала негатыўную рэакцыю ў Заходняй Беларусі. Дайшло да таго, што ад КПЗБ патрабавалі весці барацьбу супраць кулакоў, да ліку якіх адносіліся і заможныя сяляне. Заходнебеларускія камуністы былі вымушаныя падпарадкавацца дыктату і бараніць палітыку Сталіна. Пра кансалідацыю вызваленчых сіл не магло быць і гутаркі. А тут яшчэ расправы з выдатнымі дзеячамі БСРГ і «Змагання». Многія з іх у парадку абмену палітычнымі вязнямі паміж СССР і Польшчай пераехалі ў Савецкі Саюз. У 1933—1934 гады іх амаль усіх арыштавалі. Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Валошын, П. Мята, І. Дварчанін і іншыя былі расстраляныя.

Улетку 1938 года КПП, КПЗБ і КПЗУ рашэннем Камінтэрна былі распушчаныя. Рашэнне матывавалася тым, што ў рады гэтых партый «пранiклі агенты польскай ахранкі». Гэта адбылося ў момант, калі вызваленчы рух у заходніх абласцях Украіны і Беларусі зноў пачаў нарастаць. Пачаліся рэпрэсіі. Былі расстраляныя Генеральны сакратар ЦК КПП і член Выканкома Камінтэрна Ю. Ляшчынскі-Ленскі, адзін з заснавальнікаў КПП А. Варскі, члены Палітбюро ЦК КПП Г. Чырыхоўскі і Е. Рынч, якіх выклікалі з Польшчы нібыта дзеля кансультацый. Былі арыштаваны кіраўнікі КПЗБ і КПЗУ Р. Вольф, Я. Лагіновіч, М. Майскі, Н. Маслоўскі.

Сталін і ягонае акружэнне нанеслі шкоду не толькі вызваленчаму руху ў Заходняй Беларусі і Украіне. Яны і Камінтэрн, што праводзіў іхнюю палітыку, выступілі супраць усталявання кантактаў германскіх камуністаў з сацыял-дэмакратамі. Гэта выклікала раскол рабочага руху ў Германіі. Менавіта гэта дазволіла Гітлеру захапіць у 1933 годзе ўладу ў краіне і ўстанавіць на 12 гадоў фашысцкую дыктатуру.



Адносіны да нямецкіх камуністаў з боку Сталіна былі такія самыя, як і да польскіх, заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх. Іх кідалі ў лагеры, турмы, фізічна знішчалі. Пасля 23 жніўня 1939 года Сталін па просьбе Гітлера стаў выдаваць рэйху нямецкіх камуністаў, якія эмігрыравалі ў СССР. Гітлер быў задаволены гэткай хадою падзей. Нацысцкі фюрэр быў адным з першых замежных дзеячаў, хто вызначыў актуальную форму кіравання ў СССР як «культ асобы». «Аднак,— казаў ён,— культ асобы — найлепшая форма праўлення».

Пакт аб ненападзенні ад 23 жніўня 1939 года з'явіўся вынікам усёй папярэдняй палітыкі Сталіна. Тым больш што савецкае кіраўніцтва не хавала сваіх мэт. Так, выступаючы ў сакавіку 1939 года на XVIII з'ездзе ВКП(б), Л. Мехліс адкрыта сказаў, што адной з галоўных задач Чырвонай Арміі ў магчымай вайне будзе павелічэнне савецкіх рэспублік. На Захадзе адразу ж быў створаны вобраз ворага ў асобе СССР. Гітлеру стала ясна, што Сталін імкнецца аднавіць межы Расійскай імперыі, уключыць у склад СССР Прыбалтыку, Фінляндыю і, магчыма, Польшчу.

Вядома, што 20 жніўня Гітлер накіраваў Сталіну тэлеграму, у якой паведамлялася, што паміж Германіяй і Польшчай вось-вось пачнуцца ваенныя дзеянні. Кіраўнік нацысцкай дзяржавы прапаноўваў кіраўніку ВКП(б) прыняць міністра замежных спраў І. фон Рыбентропа 23 жніўня ў Маскве дзеля заключэння пакту аб ненападзенні. Менавіта толькі гэты ўрывак цытуюць гісторыкі. На самай справе дакумент значна даўжэйшы. Вось ён:

**«Пану СТАЛІНУ.**
**Масква.**

**1. Я шчыра вітаю падпісанне новага германска-савецкага гандлёвага пагаднення як першага кроку па перабудове савецка-германскіх адносін.**

**2. Заключэнне пакту аб ненападзенні з Савецкім Саюзам азначае для мяне вызначэнне доўгатэрміновай перспектывы нямецкай палітыкі. Германія зноў вяртаецца да палітычнай лініі, якая была карысная для абедзвюх дзяржаў на працягу мінулых стагоддзяў.**

**3. Я згодны з праектам пакту аб ненападзенні, які перадаў Ваш міністр замежных спраў пан Молатаў, але лічу, што трэба тэрмінова, найхутчэйшым чынам высветліць звязаныя з ім пытанні.**

**4. Дадатковы пратакол, які жадае падпісаць урад Савецкага Саюза, можа быць, я перакананы, грунтоўна абмеркаваны ў найкарацейшы час, калі на гэты конт у Маскве будзе весці перамовы адказны нямецкі дзяржаўны дзеяч. Інакш імперскаму ўраду няясна, як можна абмеркаваць і лепей аформіць дадатковы пратакол у кароткі час.**

**5. Напружанне паміж Германіяй і Польшчай робіцца невыноснае. Паводзіны Польшчы ў дачыненні да вялікай дзяржавы (Германіі — С. Т.) такія, што ў любы дзень можа разразіцца крызіс. Германія вырашыла абараняць інтарэсы рэйха ўсімі сродкамі.**

**6. На маю думку, пры жаданні абедзвюх дзяржаў уступіць у новыя зносіны мэтазгодна не марнаваць час. Я прапаную прыняць майго міністра замежных спраў у аўторак, 22 жніўня, самае позняе ў сераду, 23 жніўня. Імперскі міністр замежных спраў будзе мець усе паўнамоцтвы для складання і падпісання як пакту аб ненападзенні, так і пратаколу. Больш працяглае знаходжанне імперскага міністра замежных спраў у Маскве, чым адзін, у крайнім выпадку, два дні, немагчымае, улічваючы міжнародную абстаноўку. Я быў бы рады атрымаць ад Вас хуткі адказ.**

**Адольф ГІТЛЕР».**

21 жніўня Сталін запрасіў І. фон Рыбентропа прыляцець 23 жніўня ў Маскву ля падпісання пакту аб ненападзенні.

З тэлеграмы Гітлера незразумела, хто першы прапанаваў падпісаць дамову. Сведчанні на гэты конт самыя супярэчлівыя. Так, яшчэ 14 жніўня фон Рыбентроп накіраваў тэлеграму паслу рэйха ў СССР графу Ф.-В. фон дэр Шуленбургу, у якой ускладаў на яго задачу пазнаёміць Молатава з шэрагам нямецкіх прапаноў. Нацысцкі міністр падкрэсліваў, што бальшавізм і нацыянал-сацыялізм павінны разам весці барацьбу супраць непрымірымага ворага — буржуазнай дэмакратыі Захаду. Ён прапаноўваў урэгуляваць адносіны дзвюх краін на грунце вырашэння тэрытарыяльнага пытання ва Усходняй Еўропе, у прыватнасці ў зоне Балтыйскага мора, Прыбылтыкі, Паўднёва-Усходняй Еўропы і Польшчы. З гэтага дня пачынаецца інтэнсіўная перапіска паміж І. фон Рыбентропам і В. Молатавым па пытаннях заключэння пакту. Савецкі разведчык Р. Зорге ў данясенні ў НКУС СССР пісаў, што ў вышэйшых нацысцкіх колах ідуць размовы, што «менавіта Молатаў, яўна ад імя Сталіна, прапанаваў заключыць пакт аб ненападзенні. Гітлер быў у захапленні ад прапановы Молатава, якое яму 16 жніўня перадалі граф фон Шуленберг і Рыбентроп. У той жа дзень Гітлер паведаміў, што безумоўна прымае савецкую прапанову».

Сталін настолькі паверыў у бескарыслівае сяброўства Гітлера, што на банкеце, наладжаным у ноч з 23 на 24 жніўня 1939 года, абвясціў тост: «Я ведаю, як моцна нямецкі народ любіць свайго фюрэра, і я хацеў бы выпіць за яго здароўе».

Такім чынам, Гітлеру былі развязаны рукі. Сталін сваёй аднабаковай палітыкай выключыў у жніўні 1939 года ўсялякую альтэрнатыву пакту. Берлін ужо цвёрда ведаў, што Масква не прыйдзе на дапамогу Варшаве.

1 верасня нацысты інсцэніравалі нападзенне нібыта польскага падраздзялення на нямецкую радыёстанцыю ў Гляйвіцы (цяпер Глівіцэ ў ПНР). На самай справе гэта былі пераапранутыя ў польскую форму нямецкія крымінальнікі, кіраваныя гітлераўскімі афіцэрамі. Пачалася германа-польская вайна. Слабая ў эканамічным і палітычным сэнсе Польшча не магла доўга процістаяць Германіі. 8 верасня часткі вермахта ўварваліся ў Варшаву. На наступны дзень пасол Шуленбург у тэлеграме ў Берлін інфармаваў: «Я толькі што атрымаў ад Молатава наступную тэлеграму: «Ваша паведамленне пра ўступленне германскіх войскаў у Варшаву атрымаў. Перадайце германскаму ўраду мае віншаванні. Молатаў». Шуленбург».

Масква ўважліва сачыла за падзеямі ў цэнтры Еўропы. Яе, трэба думаць, цікавіла пазіцыя саюзнікаў Польшчы — Францыі і Вялікабрытаніі. Сталін разумеў, што, адправіўшы войскі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, СССР рызыкуе аказацца ў стане вайны з Вялікабрытаніяй і Францыяй, якія 3 верасня аб'явілі вайну Германіі.

Гітлер зрабіў спробу высветліць пазіцыю СССР. У гэты самы дзень, 3 верасня 1939 года, ён сустрэўся з новым савецкім паўпрэдам Шкварцавым і ваенным аташэ Пуркаевым. Гітлер спытаў у іх: ці збіраецца савецкі ўрад ўвесці свае войскі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну? Савецкія дыпламаты накіравалі запытанне ў Маскву. Адказ быў адназначны: не збіраецца. Нямецкія войскі імкліва пасоўваліся на ўсход. 10 верасня гітлераўскае кіраўніцтва распаўсюдзіла зварот да насельніцтва Заходняе Украіны, у якім быў выказаны намер Германіі стварыць там «незалежную дзяржаву» пад эгідай Германіі. Аднак Масква заявіла катэгарычнае «не!». 11 верасня В. Молатаў запрасіў да сябе германскага пасла і заявіў яму, што СССР не дапусціць пашырэння германскага ўплыву на гэтую вобласць і «хоча дапамагчы Украіне». Аднак гэта была толькі дэкларацыя, бо СССР з вядомай прычыны ўсё яшчэ баяўся ўводзіць свае войскі. Немцы між тым 17 верасня ўступілі ў Брэст і Львоў, г. зн. у беларускі і украінскі гарады.

Толькі пераканаўшы, што Францыя і Вялікабрытанія не прадпрымаюць рэальных ваенных дзеянняў супраць Германіі і, значыць, не будуць іх прадпрымаць і супраць СССР, савецкае кіраўніцтва 17 верасня дало ўказанне Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі аддаць загад савецкім войскам перайсці дзяржаўную мяжу паміж СССР і Польшчай.

Ужо 22 верасня савецкія войскі занялі Брэст і Львоў. Гітлер аддаў загад часткам вермахта пакінуць гэтыя гарады. Аднак перад тым са згоды Масквы і Берліна ў Брэсце і Львове адбыліся сумесныя ваенныя парады савецкіх і нямецкіх частак. У Брэсце парад прымалі генерал Гудэрыян, які ў 1941 годзе прывядзе танкавыя злучэнні на Маскву, і камбрыг Крывашэін. Тады ж, 22 верасня, паміж савецкімі і нямецкімі войскамі ў Польшчы была ўсталяваная дэмаркацыйная лінія па рэках Піса, Нараў, Буг, Вісла,



Сан. Аднак гэта была ўсяго толькі дэмаркацыя. Па прапанове Сталіна 27 верасня ў Маскву прыбыў фон Рыбентроп. На наступны дзень ён і Молатаў падпісалі савецка-германскую дамову аб дружбе і мяжы, якая ператварала дэмаркацыйную лінію ў савецка-германскую мяжу па лініі гарадоў Сянкі, Перамышль, Яраслаў, Крыстынопаль, Брэст, Астралэнка, Аўгустоў, Вільня. Віленскі край, за выключэннем невялікага паўднёва-заходняга раёна, адышоў да СССР у абмен на Люблінскае і частку Варшаўскага ваяводства, якія адышлі да Германіі.

Такім чынам, у канцы верасня 1939 года польская дзяржава спыніла існаванне як палітычны інстытут Еўропы. СССР далучыў да сябе 196 тыс. кв. км тэрыторыі з насельніцтвам 13 млн. чалавек. Савецкая заходняя мяжа была адсунута на 300 км.

17 верасня 1939 года — вяха ў гісторыі Беларусі. Народ зноў стаў жыць у адной дзяржаве. Ствараліся перадумовы для дынамічнага развіцця эканомікі, навукі і культуры. Але толькі перадумовы. Калі згадаць тэрор 30-х гадоў у БССР, расправу з дзеячамі заходнебеларускага вызваленчага руху, дык на асаблівую дынаміку разлічваць не даводзілася. Выклікаў здзіўленне і той факт, што да чэрвеня 1941 года паміж усходняй і заходняй часткамі Беларусі была прапускная сістэма, хоць Заходняя Беларусь яшчэ ў 1939 годзе была ўключана ў склад СССР і БССР.

Адразу пасля далучэння Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі сталінскі рэжым пачаў тут масавыя рэпрэсіі. Рэпрэсіравалі не толькі кіраўнікоў правых польскіх арганізацый, кіраўнікоў ранейшай адміністрацыі, вясковую і гарадскую буржуазію, але нават палясоўшчыкаў і іншых дробных службоўцаў. Сотні тысяч людзей без суда і следства былі пераселеныя ва ўсходнія раёны СССР. Акрамя гэтага, з заходніх абласцей на ўсход былі дэпартаваныя салдаты і афіцэры былой польскай арміі. Перад самай вайной турмы Львова і Брэста былі перапоўненыя «ворагамі народа». Гэта і нядзіўна. Хваля рэпрэсій абрушылася і на дзеячаў вызваленчага руху — не толькі на сацыял-дэмакратаў, якія, дарэчы, так і не арганізаваліся ў партыю, не толькі на хрысціянскіх дэмакратаў і «буржуазную» інтэлігенцыю, але і на былых членаў КПЗБ. Ім не давяралі адказныя пасты ў органах цывільнага кіравання. Практычна ўсе гэтыя пасады займалі асобы, што прыехалі з усходніх раёнаў Беларусі.

Апафеозам савецка-германскіх адносін у 1939 годзе стала віншавальная тэлеграма Гітлера Сталіну з нагоды 60-годдзя з дня нараджэння апошняга. Гітлер пісаў: «...Да дня Вашага шасцідзесяцігоддзя прашу Вас прыняць мае самыя сардэчныя віншаванні. З гэтым я звязваю свае найлепшыя пажаданні. Жадаю добрага здароўя Вам асабіста, а таксама шчаслівае будучыні народам сяброўскага Савецкага Саюза». Тэлеграму прыслаў і Рыбентроп. Сталін адказаў ім самымі цёплымі словамі. Так, напрыклад, у тэлеграме Рыбентропу ён пісаў: «Дзякуй Вам за віншаванні і пажаданні. Дружба народаў Савецкага Саюза і Германіі, змацаваная крывёю, мае ўсе падставы быць трывалай». Сапраўды, «сяброўства» было змацаванае крывёю... Але гэта было яшчэ не ўсё.

Да 1941 года была скасаваная лінія абарончых збудаванняў на былой савецка-польскай мяжы. Умацаванні былі закансерваваныя, узбраенне збольшага было знятае. Будаўніцтва новага рубяжа (Брэсцкі, Асавецкі, Гродзенскі абарончыя раёны), якое пачалося ў верасні 1939 года, не было завершана. Гэта дазволіла германскім войскам 22 чэрвеня 1941 года хутка ўклініцца ў глыбіню тэрыторыі Беларусі. У выніку пагаднення паміж Сталіным і Гітлерам у жніўні — верасні 1939 года, з прычыны малазразумелага з палітычнага пункту гледжання даверу правадыра да фюрэра беларускі народ быў асуджаны на трохгадовую акупацыю і велізарныя чалавечыя ахвяры.

...Падзеі жніўня і верасня 1939 года яшчэ раз сведчаць, што некаторыя гістарычныя падзеі нельга ацэньваць адназначна.

**Афармленне Ігара САЎЧАНКІ**

Наталля
ГРОМАВА

ПОГЛЯД

# Конкурс



Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА (Магілёў)

«Яго выратавалі, і што, думаеце, ён каму-небудзь дзякуй сказаў?» «Чаму ты гэта зрабіў?.. Эх, Дзіма, чаму ж ты гэта зрабіў?..» «...Усё ладзілася... і жанчыны яго кахалі, і начальства паважала...» «Звар'яцеў ад поспехаў, не інакш...» — усё аднекуль здалёк... здалёк...

У пакоі тапталіся людзі. Паўшэптам, мітуслівa час ад часу абменьваліся насцярожанымі рэплікамі, спадцішка пaглядаючы на чалавека, які ціха сядзеў у глыбокім фатэлі, адкінуўшыся і выцягнуўшы рукі ўздоўж абшарпаных падлакотнікаў. Крызіс мінуў. А ён, да ўсяго абыякавы, усё яшчэ сядзеў у фатэлі.

Сёння Дзмітрый Парогаў быў ужо не той, што ўчора.

— Дзіма, прачніся,— сказаў раптам нехта выразна.

Гэтыя словы рашуча ўклініліся ў вязкую шматгукавую імглу, якая абступіла Парогава з усіх бакоў, і вывелі яго нарэшце з забыцця.

— Не кранай, няхай акрыяе,— пачуўся праз нейкі час іншы такі ж выразны голас.

На хвіліну ўсё заціхла.

— Добра,— данеслася раптам з глыбіні фатэля. Здавалася, што гаварыў сам фатэль, а не чалавек, які ў ім сядзеў, такі быў стомлены голас.— «Акрыяў». Задаволены?

— Глядзі ты... Яшчэ і грубіяніць... Падзякаваў бы лепш... Яшчэ трохі — і размаўляў бы цяпер на тым свеце.

— А адкуль ты ведаеш, ён, мабыць, у рай якраз і збіраўся... Дзіма, скажы шчыра, шмат награшыў, га?..

— Адвяжыцеся. Руплівыя. Дзякуй... У капялюш.

— Хам, ён і ёсць хам.

— Ідзіце. Я стаміўся.

Людзі пераглянуліся.

— Хадзем. Чорт з ім,— не вытрымаў адзін.

Другі пільна глянуў у вочы сябру, моўчкі заклікаючы: не гарачыся. Ён, відаць, з глузду з'ехаў, не бачыш? Трэба было б затрымацца...

— Ідзіце, ідзіце. Ды не бойцеся. Я не звар'яцеў. А калі не пойдзеце...

Тыя, што сядзелі ў пакоі, хутка ўсталі. Доўгім позіркам акінулі прыяцеля, яго маленькае жыллё, якое ўтульна заглынуў фатэль... Старэнькая канапа фыркнула, атрасаючыся і вяртаючыся ў стан звыклага чакання рэдкіх выпадковых гасцей. Тры ссохлыя ружы, што ўпрыгожвалі падаконне, уладна прашамацелі з гранёнай шклянкі:

— Пайш-ш-лі прэч.

Дзверы працяжна зарыпелі: І-у...— І зачыніліся. Пакой, вызваліўшыся нарэшце ад чужынцаў, уздыхнуў з палёгкаю і, размякнуўшы, заціх.

Ягоныя вокны выходзілі на рыжыя клёны. «Гэй, прачынайся, дзівак! — казыталі яны ўранку сваімі кудлатымі галінамі заспанае шкло.— Уставай, восень на дварэ!»

Дзмітрый цёр вочы, ускокваў у пасцелі, камячыў яшчэ цёплую ад сну падушку і моцна кідаў яе куды-небудзь у кут.

— Э-х!..— І ці то радасць была ў гэтым ягоным «эх», ці то...

Праз паўгадзіны ён ужо сядзеў у сваім БКТБ і старанна крэсліў лінію за лініяй на вялікім белым ватмане, прымацаваным да кульмана, які чымсьці нагадваў сонную чаплю.

Дзмітрый Іванавіч вадзіў пэндзлям па паперы, старанна вымалёўваючы на белай паверхні ліста чарцёж тыповага маніпулятара, потым адыходзіў ад кульмана на некалькі крокаў убок, прыжмурваў правае вока — і бачыў на ватмане...

А ўвенчваў усю гэтую канструктарскую шчырасць плоскі прамакутнік блока кіравання.

— Эй, Дзіма, ты што гэта там аддаўся марам?.. Сёння чарцёж — да шэфа. Ці памятаеш?

— Заканчваю.

І вось ужо насценны гадзіннік педантычна паказвае пяць, Дзмітрый Іванавіч акуратна адмацоўвае чарцёж-маніпулятар, скручвае яго ў рулон і накіроўваецца да кабінета начальніка.

Загадчык канструктарскага бюро Аляксей Фаміч стомлена глядзіць на супрацоўніка праз груваcткія акуляры. Ягоны вузкі твар проста варты жалю. Нібыта Аляксей Фаміч вінаваты ў тым, што падначаленыя з'яўляюцца ў канцы працоўнага дня перад ягонымі зусім не начальніцкімі вачыма. Вось, напрыклад, і ён, Парогаў... «Мне б сказаць яму хоць аднойчы: эх, Дзіма, кінуў бы ты свой чарцёж дый пайшлі б піўка папілі, пра жыццё пагаманілі...» — сумаваў сам сабе Пескароў.

— Добры дзень, Аляксей Фаміч...

І дранцвеў начальнік, асцярожна працягваў Дзмітрыю Іванавічу руку.

Калісьці Аляксей Фаміч марыў стаць вучоным-вынаходнікам, прагнуў укараняць у вытворчасць навукова-тэхнічны прагрэс. Гэтаму высокаму свайму прызначэнню аддаў ён маладосць, а таксама некалькі сталых гадоў... Але вось аднойчы ягоная верная жонка Марыя Мікалаеўна сказала яму: «Кідай ты, Алёша, сваю мудрагелістую навуку — усё роўна не быць табе другім вынаходнікам аўтаматызаванай сістэмы кіравання, сам разумееш...»

Кіўнуў ёй тады Аляксей Фаміч збянтэжана ў адказ і назаўтра падаў у сваім НДІ заяву аб звальненні.

Цяпер жа, у гэтым такім размеркаваным, разлінавана-тыпавым жыцці, забываючыся час ад часу на свой галоўна-канструктарскі вытворчы стол, Пескароў углядаўся ў калейдаскоп твараў, якія то ўваходзілі, то выходзілі, і думаў: а вось ён, гэты, чым ён мог бы стаць?.. І што ён ёсць на самай справе?.. А можа, ён і нарадзіўся ля свайго кульмана — недзе паблізу — усялякае здараецца ў жыцці... Вось цяпер і крэсліць, і крэсліць, і крэсліць... А каму ўсё гэта трэба?

І звярталіся ўрэшце гэтыя пошукі-сумненні Аляксея Фаміча да яго ж самога. Таму што яго падначаленыя ў большасці сваёй былі людзі зусім звычайныя. Крэслілі — курылі (пару слоў туды — пару слоў сюды), радаваліся мізэрнай зарплаце, абмяркоўвалі пакаёва-вячэрнія серыялы,— ніхто з іх ні з-за чаго, здаецца, надта не пакутаваў, нічога ў сабе асаблівага не выношваў, сам пра сябе — не спасцігаў... Словам — звычайныя былі людзі. Стандартныя. Ітээраўцы. Вось толькі гэты Дзмітрый... Парогаў... Нешта з ім было не так. Хаця і крэсліў усё спраўна, на працу не спазняўся, выконваў усё, што было трэба...— Інакш кажучы, функцыяніраваў. Вінцік як вінцік. Паважае механізм. Але — нешта не так...

— Вось, Аляксей Фаміч, выкрэсліў.

— Ну-ну, пакінь, я пагляджу... А паслухай, Дзіма...— нейкая іскра ўсё ж не змагла затаіцца, праскочыла, Аляксей Фаміч глянуў на падначаленага неяк трошкі знізу і нібыта спадылба, заўважыўшы, між іншым, як напружыўся твар у Парогава, гатовы неадкладна адыграцца непрадказальнай рэакцыяй...— У нас тут, Дзіма, конкурс хутка... Агляд мастацкай самадзейнасці...

«Чаго хоча ад яго гэты сумны начальнік?» Такое адчуванне, нібыта непрыкметны праекціроўшчык такіх неабходных вытворчасці тыповых маніпулятараў злоўлены на месцы злачынства. Ці нешта пра яго ведаюць?.. Аляксей Фаміч вось... Нейкія размовы дзіўныя заводзіць... Ну так, ну змяшчаў ён калісьці ў навагоднюю насценгазету нейкі свой вершык — зноў жа праз дурасць, ад наіўнасці... Трэба было бюро прадставіць. Галачкай адзначыць удзел у грамадскім жыцці. Ну і што?.. Усё ўжо даўно забылася...

— Я ж, Дзмітрый, памятаю, як гады два назад ты верш у насценгазету напісаў...

Парогаў панура маўчаў.

— Вось і працягвай, як кажуць... Справа гэта добрая... Выступі на конкурсе... А то што ж гэта: у іншых калектывах і спяваюць, як кажуць, і скачуць... А ў нас...

Памаўчалі.

— А ў нашым...— няўпэўнена працягваў Аляксей Фаміч,— вершы складаюць! Вось. Уяўляеш — будзе шоргату! Можа, нават і прэмію дадуць якую... Можа, і піўка калі пап'ём з нагоды,— скончыў Пескароў нечакана для самога сябе, зноў раптам адчуўшы востры жаль па чалавеку і чалавецтву...

«Вось яно,— думаў Дзмітрый у роспачы.— Вось яно... Няўжо...» Яму нясцерпна захацелася зажмурыць вочы, каб ніхто-ніхто нічога-нічога не змог бы ў іх прачытаць...

— А ці ведаеце, Аляксей Фаміч, а што, калі я вам бардаў арганізую?..— выдыхнуў.— Добрыя хлопцы гэтыя самыя барды: і спяваюць, і пад гітару самі сабе акампаніруюць... Ці хочаце?!. Давайце, га? — дадаў з надзеяй, пасля цяжкай паўзы.

— Ну што ж, барды дык барды... Гэта, вядома, нядрэнна, толькі яны ж не нашыя...

— А божа, нашыя — не нашыя! — усклікнуў Дзмітрый.— Пазначце сабе: арганізаваныя! Гэта ж вам таксама не жарты: пайсці, знайсці, прывесці, зацягнуць на сцэну ў рэшце рэшт... Скажам — арганізаваныя.

Аляксей Фаміч зразумеў, што гэты неразвіты сказ завершыцца кропкай. Цвёрдай кропкай. Самы кволы падначалены мае права на такую вось кропку раз, скажам, у месяц. Не, бадай што радзей, раз у паўгода...

— Ну што ж, барды дык барды,— яшчэ раз, нібы сам сабе, падсумаваў Аляксей Фаміч.— Ідзі, Дзмітрый Іванавіч.

...Зала была вялікая і квадратная. Над сцэнай, у самым версе чырванеў заклік — нешта пра неабходнасць масавага выяўлення талентаў. Выйшаў калега Барыс Сямёнавіч і дакладна выказаўся спачатку. Гаварыў, што іх калектыў таксама гатовы прыняць удзел у выяўленні талентаў, прычым самы непасрэдны.

Нібы жадаючы пацвердзіць гэтую яго непахісную рашучасць, на сцэну вываліў змешаны хор і галасістыя жанчыны нешта сардэчна зацягнулі. Было такое ўяўленне, што калі б запыталі ў гэты момант якую-небудзь з іх пра ўласнае імя — не адказала б.

У першых радах сядзелі: партком, мясцком, групкомы, настаўнікі моладзі і іншыя паважаныя асобы. У другіх радах хіхікалі і штурхалі адно аднаго ў бок локцямі прадстаўнікі працоўнай змены. Некаторыя неслі на сваіх засяроджана-посных тварах гіпертрафіраванае адчуванне прыналежнасці да той ці іншай працоўнай дынастыі. Далей размясціліся яркія жанчыны сярэдняга ўзросту, прыпудраныя, прыпамаджаныя, усе — у ружова-карычнева-зялёным,— якія ўпотайкі лузгалі семечкі (шалупінне — у паперкі, паперкі — у радыкюлі).

Адгрымеў хор, выступілі некалькі чытальнікаў, «паўправаднікоў» чужой шчырасці, адскакаў самадзейны калектыў цэха нумар два (плавільна-прэсавага)...

Дзмітрый Іванавіч ціха сядзеў сабе недзе пасярэдзіне квадрата актавай залы, выконваючы абяцанне «папрысутнічаць», якое даваў шэфу.

І вось на сцэну зноў выйшаў Барыс Сямёнавіч і прамовіў:

— А зараз канструктар нашага БКТБ таварыш Дзмітрый Іванавіч Парогаў прачытае нам...— ён вытрымаў урачыстую паўзу... І выразна закон-

чыў: — свае вершы... Папляскаем, таварышы...

Першы, другі і наступныя рады адразу раптам усе падбадзёрыліся, напамаджаныя роцікі паненак, што прадстаўлялі журы і шматлікія «комы», выцягнуліся, хціва аблізваючыся; тыя, што сядзелі за імі, часова пераспалі штурхацца локцямі, астатнія — зачынілі радыкюлі з семечкамі і шалупіннем.

Дзмітрый Іванавіч якімсьці шостым адчуваннем усё гэта ўмомант убачыў, зафіксаваў — і на імгненне прырос да фанернага адкіднога крэсла. «Ці адразу выскачыць з залы, ці трохі пазней?» — слізкім вужом мільганула першая думка. «Ах, нягоднік...— дагнала яе другая думка,— а я ж яшчэ лічыў яго сумленным чалавекам...»

Зала чакала.

І тады нейкая незразумелая сіла, якую Дзмітрый, бадай, ніколі ў сабе і не адчуваў, раптам уладна загадала: «Не ный»,— узняла яго над тымі, хто сядзеў, пранесла ўздоўж радоў, давяла да сцэны, да самой яе сярэдзіны, да самога мікрафона... Дзмітрый Іванавіч спачатку ўзяў яго ў руку, потым, падумаўшы крыху, зноў насадзіў на металічны штыр, адсунуў, адышоў на некалькі крокаў — бліжэй да людзей — хацеў сказаць ім проста, па-чалавечы — пра сябе, пра жыццё, пра свае вершы... Але, спатыкнуўшыся поглядам аб нейкае скваплівае, хцівае чаканне залы, якая адно што не шыпела ў прадчуванні — спыніўся, заплюшчыў вочы і... пачаў чытаць.

Ён чытаў, гледзячы некуды ў прастору, і ўяўляў сябе маленькім хлопчыкам, якому маці перад сном выразна спявала нараспеў чароўнае: «буря мглою небо кроет...», «чародейкою зимою околдован лес сто-ит...» І хлопчык, засынаючы, нібы ў непрытомнасці, усё варушыў і варушыў вуснамі, несвядома імкнуўся ўтрымаць гукі, што раставалі — «о-кол-дова-ан... ле-ес... стои-и-т...».

Ён чытаў так, нібыта перад ім сядзела не сытая кплівая публіка, а сабраліся... дванаццаць апосталаў на тайнай вячэры — і ён расказваў ім, расказваў, расказваў пра тое, што вынес з гэтага свету за свае трыццаць з лішкам гадоў, плакаў аб сваёй мяцежнай душы, аб нераздзеленым каханні да супрацоўніцы Валянціны, гаварыў пра тое, як смяецца ён з іх убогага канструктарскага бюро з усімі яго калькамі, лінейкамі і чаплямі-кульманамі, поснымі размовамі, пустымі перакурамі — і сумуе адначасна... А яшчэ успомніў ён у сваіх вершах — не, у сваіх службова-меланхалічных санетах-баладах і пра таго, пра каго думаў дагэтуль нядрэнна, нават з нейкім спачуваннем — пра свайго начальніка, Аляксея Фаміча.

Дзмітрый, канечне, мог і не ведаць пра ўсе нягоды лёсу і пакутлівыя пошукі шэфа, але душэўным пачуццём адчуў у тым усё, што Аляксей Фаміч мог бы яму калі-небудзь, скажам, за куфлям піва, распавесці...

«И дух твой страждущий взбунтуется однажды!» — усклікнуў з гэтай нагоды ашалела Дзмітрый Парогаў са сцэны, кінуўшы ў залу, такім чынам, свой апафеозны радок...

...Калі Дзмітрый ачуўся, мікрафон стаяў там жа, памяшканне было такое-ж квадратнае, як і раней... Толькі — мёртвая цішыня. Проста мёртва-я. Ці-шы-ня.

Зазвінела ў вушах.

А потым — шо-ргат. Шэпт. Жар-ты. Шама-ценне паперак... Пстрыканне семечак, фанерных крэслаў...— І ўсё гэта было нібы шум: буры, нячысты — на чысцюткі бераг.

Парогаў яшчэ раз ачуўся... Прыцягнуў да сябе мікрафон... Выдыхнуў недарэчнае «прабачце» ў металічную дзіравую галоўку — і пайшоў прэч. З залы.

А потым, праз паўгадзіны, ён яшчэ раз пайшоў: са свайго ціхага, утульнага, сумнага пакойчыка з сухімі ружамі — у ванну. Устаў нагамі на крышку унітаза, пацягнуўся, прыладзіўшы да верхняй трубы абрывак шпагату для бялізны, падцягнуўся і пайшоў прэч. Яшчэ раз. Цяпер ужо — назаўсёды...

І вось —
У пакоі топчуцца.
Недарэчна...

**Заўвага аўтара:** сапраўдныя імёны і прозвішчы дзейных асоб гэтай непрыдуманай гісторыі з вядомых прычын зменены.



Вера КРУКОВІЧ
Юрый ЗДРАЕЎСКІ

на прыёме ў псіхолага

# ЗНАЁМАЯ НЕЗНАЁМКА

Мы з энтузіязмам прынялі прапанову рэдакцыі часопіса «Крыніца» расказаць пра сваю прафесію. Шчыра кажучы, у нас, псіхолагаў, даўно ўжо наспела неабходнасць выйсці з падобнай інфармацыяй да чытацкай аўдыторыі, асабліва да маладзёжнай. Бо маладыя — гэта тыя, перад кім найбольш востра стаіць праблема выбару: прафесіі, сужэнца, ладу жыцця, і тут неабходная практычная дапамога з боку псіхолага, хаця, можа, самі маладыя людзі пра гэта пакуль што не падазраюць. Парадокс? На жаль, падобных парадоксаў, звязаных з недастатковай інфармаванасцю пра нашу прафесію, усё больш і больш.

Таму мы вырашылі паспрабаваць «ахапіць неабдымнае», даць мэтазгодную, з нашага пункту гледжання, інфармацыю, абмеркаваць актуальныя, на нашу думку, праблемы.

Мы — гэта **Юрый Віктаравіч ЗДРАЕЎСКІ** і **Вера Сяргееўна КРУКОВІЧ.** Абое вучыліся на факультэце псіхалогіі ЛДУ імя А. А. Жданава, у абоіх вопыт працы каля 8 гадоў, абое праводзілі даследаванні па сацыяльнай псіхалогіі на прамысловых прадпрыемствах. Цяпер працуем ва ўстановах Міністэрства аховы здароўя БССР.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Пачнём з галоўнага. Калі чытач атрымае дакладнае ўяўленне пра асаблівасці і сам прадмет дзейнасці псіхолага, думаю, нашая задача спросціцца. Дык вось, псіхалогія як навука вывучае, па-першае, псіхічныя працэсы — успрыняцце, памяць, мысленне; затым псіхічныя ўласцівасці стану асобы — эмоцыі, волю, якасці асобы.

Псіхалогія — гэта навука пра адносіны паміж людзьмі, якія ўзнікаюць у працэсе кантактавання. Псіхолагі збіраюць інфармацыю пра гэтыя з'явы з дапамогаю спецыяльных метадаў, аналізуюць, робяць высновы...

**В. С. КРУКОВІЧ.** Пакуль Юрый Віктаравіч збіраецца з думкамі, каб апісаць канкрэтна некаторыя функцыі, якія нам прыходзіцца выконваць, дадам, што ў будучыні псіхолаг зможа быць вельмі карысны ў школе. Павінна таксама пашырыцца сетка кансультатыўных пунктаў па пытаннях унутрысямейных адносін не толькі паміж сужэнцамі, але і паміж бацькамі і дзецьмі.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Ці можа стаць псіхолагам кожны? Фармальна, так. Інакш кажучы, атрымаць адпаведны дыплом можа любы чалавек з нармальным інтэлектам. Дарэчы, цяпер сістэма прафадбору на факультэтах псіхалогіі вельмі недасканалая, навукова не абгрунтаваная.

**В. С. КРУКОВІЧ.** Але тут варта дадаць, што вельмі шырокая сфера нашай прафесіі дазваляе выявіць сябе ў ёй людзям з самымі рознымі якасцямі. Не схільны да інтэнсіўнага кантакту, але здольны да аналізу арыгінальных ідэй «мысліцель» неабходны тут гэтаксама ж, як і кантактны эмацыянальны практык, якому кожная асоба — навука.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Згодны. Ну што ж, мабыць, час перайсці да «карцінак». Напрыклад, «псіхолаг на прадпрыемстве». Паспрабуем стварыць нейкі абагульнены вобраз гэтага спецыяліста.

Багата даводзілася і даводзіцца чуць пра чалавечы фактар у розных сферах жыцця. Дык вось, з чаго ж ён складваецца на вытворчасці, якія з'явы ствараюць усё тое, што прынята называць чалавечым фактарам (ёсць яшчэ адзін тэрмін шырокага ўжытку: сацыяльна-псіхалагічны клімат калектыву) — гэтымі праблемамі і павінен займацца заводскі псіхолаг.

**В. С. КРУКОВІЧ.** Са свайго вопыту магу згадаць анекдатычную гісторыю пра тое, як я, тады яшчэ малады спецыяліст, трапіла па размеркаванні на прадпрыемства, якое ўжо зусім развальвалася, сістэматычна не выконвала план. На мой погляд, там была большасць заган, што сустракаюцца ў нашым грамадстве: і масавае п'янства (справа была да Указа, так што людзі «адпачывалі» пасля ўжытага непасрэдна на рабочых месцах), і бязладдзе, і наплявацельскія адносіны да абавязкаў, і шмат што іншае.

Рабочыя не мелі элементарных умоў працы, пераадзяваліся ў туалетах, пра душавыя ніхто і не марыў. Дык вось, дырэктар і галоўны інжынер, седзячы ў сваіх выдатна аздобленых кабінетах, прыдумалі выклікаць псіхолага, каб ён пры дапамозе сваіх «чароўных» метадаў «выцягнуў» няўдалае прадпрыемства.

Самае цікавае ў гэтай гісторыі тое, што калі я тады паспрабавала нешта зрабіць (напрыклад, высветліць галоўную прычыну цякучасці кадраў), мае намаганні не сустрэлі, мякка кажучы, падтрымкі з боку адміністрацыі, якая, здавалася б, прагнула дапамогі псіхолага.

Уся справа ў тым, што «эканамічны эфект» ад працы псіхалагічнай службы на прадпрыемстве немагчыма падлічыць, зыходзячы з так званага здаровага сэнсу (інакш кажучы, зрабілі работу — атрымай прыбытак). Паслядоўная мэтанакіраваная дзейнасць на працягу некалькіх гадоў — толькі гэта дае пэўныя вынікі.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Падазраю, Вера Сяргееўна, што вы маеце тайны намер знізіць конкурс на ўступныя экзамены на факультэтах псіхалогіі. Але ўвогуле спакуслівае жаданне расказаць пра нашы праблемы — вялікае...

Псіхолаг на вытворчасці «не трымаецца», хоць працы яму там хапае. Гэта, дарэчы, не толькі даследаванне фактараў, важных для ўдасканальвання і арганізацыі кіравання, але і індывідуальнае кансультаванне, і трэнінг узаемадзеяння і згуртаванасці ў калектывах інжынерна-тэхнічных работнікаў. Тым, каго зацікавіла гэтая тэма, рэкамендую азнаёміцца з кнігаю Т. І. Саксакулм «Псіхолаг на прадпрыемстве» («Экономика», 1983).

**В. С. КРУКОВІЧ.** Пасля кароткага выкладу «заводскіх» праблем, я думаю, будзе лягчэй растлумачыць, якую карысць прыносяць псіхолагі ў прафарыентацыі (а могуць прыносіць непамерна вялікую). Цяпер прафарыентацыйную работу пераважна зводзяць да кансуль-

тавання вучняў сярэдняй школы. Псіхолагі дапамагаюць школьнікам выбраць тып будучай прафесіі (напрыклад, прафесію «чалавек — чалавек» ці «чалавек — тэхніка») ў адпаведнасці з выяўленымі схільнасцямі і здольнасцямі. Пакуль пасада псіхолага-кансультанта існуе мала ў якіх прафцэнтрах. Спадзяёмся, што неўзабаве сітуацыя стане лепшая.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Прапаную перайсці да больш блізкіх нам тэм: псіхолаг у паліклініцы, бальніцы, санаторыі — словам, у сістэме Міністэрства аховы здароўя. Гэта таксама «прафесія будучага», хоць яна цесна звязана і з мінулым. У псіхіятрычных клініках, напрыклад, даўно працуюць такія ціхія і непрыкметныя спецыялісты, як патапсіхолагі (цяпер іх часцей называюць медыцынскімі псіхолагамі). Ён вывучае ўплыў хвароб на псіхіку чалавека, асаблівасці адносін пацыента з яго мікраасяроддзем.

Часта сімптомаў, даступных непасрэднаму назіранню доктара, для пастаноўкі дыягназу не хапае — вось тады даныя эксперыментальна-псіхалагічнага абследавання набываюць асаблівую каштоўнасць.

Сёння ў параўнанні з мінулым дзесяцігоддзем сфера медыцынскага псіхолага вельмі пашырылася. Калі раней ад псіхолага патрабавалася, каб ён, выкарыстоўваючы свае веды пра псічныя працэсы і станы, дапамог доктару паставіць дыягназ і вызначыць стан хворага, дык цяпер ён павінен умець весці так званую карэкцыйную работу, інакш кажучы, дапамагаць хвораму прыстасоўвацца да жыцця, новых умоў.

**В. С. КРУКОВІЧ.** Дапамагаць, скажам, тым, хто перанёс інфаркт, пачаць літаральна новае жыццё, псіхалагічна падрыхтавацца да змены сацыяльнага статуса, пазбавіцца ад страху перад магчымым паўтарэннем прыступу. Псіхолаг, які працуе з дзецьмі з парушанай каардынацыяй рухаў, дапамагае пераадолець страх перад неабходнасцю рухацца, дапамагае адчуць задавальненне ад руху, а пасля і ўпэўненасць у сваіх магчымасцях.

Увогуле, я перакананы, што там, дзе справа датычыць руплівай, «ювелірнай» прафілактычнай ці аднаўленчай работы, псіхолаг з яго гуманістычным падыходам, беражлівым стаўленнем да чалавечае асобы, з індывідуальнымі формамі працы — незаменны.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Аналагічную работу будзе весці псіхолаг у паліклініцы. Бо ён сумесна з доктарам-псіхатэрапеўтам дапамагае чалавеку ў цяжкім крызісным стане зразумець прычыны, якія прыводзяць да крызісу, дапамагае калі не змяніць поўнасцю сістэму мэтаў жыцця дадзенага чалавека, дык, прынамсі, зменшыць супярэчлівасць якіх-небудзь памкненняў. Не сакрэт, што сёння кожны марыць дамагчыся поспеху шмат у чым: на працы, у сям'і, а іншы раз яшчэ і ў сваім захапленні, але ж магчымасці — абмежаваныя.

Не заўсёды ўдаецца выбраць галоўнае, адмовіцца другараднага, паспяваць прыходзіцца цаною перанапружання ўсіх сіл. Дыстрэс — выдатная глеба для неўрозу. Добрая прафілактыка неўратычных захворванняў — не толькі выбар пасільных жыццёвых нагрузак, але і рэгулярная псіхалагічная разгрузка, праводзіць якую мяркуецца ў паліклініках прадпрыемстваў і гарадскіх і раённых аддзяленнях Міністэрства аховы здароўя.

**В. С. КРУКОВІЧ.** Вы, Юрый Віктаравіч, ужо казалі, што пастаянны эмацыянальны дыскамфорт прыводзіць да неўрозу. Але ж другая важная прычына неўрозу — вострая псіхічная траўма: разрыў адносін, страта блізкага чалавека, сваркі, крыўды і многае іншае, што душэўна разладжвае нас. Менавіта з гэтаю мэтаю і створаны «тэлефон даверу», на якім таксама працуюць псіхолагі.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** Але, гэта так, хоць сёння псіхатэрапеўта-псіхолага ля тэлефона многія ўспрымаюць як універсальнага дарадцу. Так адразу ж і пачынаюць: «Што б вы мне парайлі?» Даць параду лёгка, выканаць яе цяжка. Калі мы не даём парад, як кажуць, «у лоб», дык не таму, што выкручваемся або не ведаем рашэння, а таму, што псіхолаг толькі суразмоўца, які прадстаўляе розныя пункты гледжання, ён усё роўна як апанент у спрэчцы, у выніку якой чалавек павінен самастойна знайсці рашэнне.

**В. С. КРУКОВІЧ.** У падобнай сітуацыі знаходзіцца і псіхолаг кансультацыі «Шлюб і сям'я». Да яго, як да апошняй інстанцыі, ідуць людзі са сваімі пытаннямі і бедамі, са сваёй жыццёвай праблемаю, ідуць па выратавальную параду, ускладаючы на псіхолага вялікія спадзяванні. На жаль, пра існаванне такой кансультацыі і наяўнасць у ёй спецыяліста даведваюцца толькі тады, калі ўзаемаадносіны ўжо істотна разбураны, пачуцці страчаны, а жаданне захаваць сям'ю застаецца толькі ў аднаго з сужэнцаў. У такой сітуацыі дапамога псіхолага — у зняцці празмерна напружанага стану чалавека, у сумесным аналізе памылак сужэнцаў, у фармаванні ў чалавека рэальных самацэнак, ацэнак свайго спадарожніка, людзей побач з ім.

Аднак, і гэта прыемна адзначыць, усё часцей пачынаюць звяртацца сужэнцы з невялікім стажам сумеснага жыцця і, самае галоўнае, у абаіх застаецца ўстаноўка на захаванне сям'і. У такой сям'і і муж і жонка ўстрывожаны вялікай колькасцю канфліктаў і невырашальных праблем. Гэта дазваляе ім пры пэўнай затраце намаганняў і дапамозе псіхолага пераадолець крызіс. Невыпадкова кажу пра неабходнасць намаганняў з боку саміх сужэнцаў, бо ў выніку менавіта рэальныя крокі ў змене сваёй пазіцыі і жаданне стварыць «нашае», а не «маё» і вызначаюць поспех.

**Ю. В. ЗДРАЕЎСКІ.** І на заканчэнне хачу вярнуцца да пачатку нашай размовы. Асабліва шмат праблем, у рашэнні якіх мэтазгодны ўдзел псіхолага, моладзі. Маладосць — час выбару і, на жаль... найбольш цяжкіх памылак і расчараванняў. Думаю, даўно наспела неабходнасць стварыць на старонках друку кансультатыўны цэнтр па пытаннях самапазнання і аптымізацыі адносін паміж людзьмі, па пытаннях сям'і і шлюбу, баўлення вольнага часу і выбару прафесіі — ды ці ж мала праблем у маладых людзей!

З'яўленне матэрыялаў у нашай рубрыцы будзе залежаць ад саміх чытачоў. Так што, чакаем лістоў!





# ад перамогі да перамогі

**АХ, ЯК мы любім начальства! Хлебам не кармі, а дай магчымасць засведчыць любоў і асабістую аддана́сць! Дай магчымасць памерці за начальніка, закрыць сабою амбразуру ў імя яго ўзвышэння — жыцця ў звычайнае імгненне не шкада, толькі б славіць у адказ добрую ўсмешку і заслужыць ухвалу кіраўніка!**

**Калі б не было начальства, яго трэба было б выдумаць!**

**Чым бы ў іншым выпадку мы займаліся ў службовы час! Вось як... Так што дзякуй стваральніку за тое, што ён з добрай ласкі прыдумаў Начальства. Для суцяшэння вачэй і душэўнае радасці. Якіх толькі слоў мы ні знаходзім, каб аблашчыць начальнікаў! І «правадыр», і «вялікі стырнавы», і «наш дарагі», і нават «верны ленінец». Гэта калі ўжо больш няма чаго сказаць пра начальніка і застаецца хіба што памахаць хвастом. Але не ўсе гэта заслужылі. За няйменнем хвастоў даводзіцца пісаць оды і мадрыгалы, вывучаць прамовы і пераходзіць на страявы крок каля бюстаў, збудаваных на радзіме герояў-начальнікаў.**

**Не, так любіць начальства, як можам мы, ніхто ў свеце не можа. Ну і што, калі ў старажытнай Эладзе прэжывалі такія асобы, як герой Геракл! Ці нам у грэкаў міфы пазычаць! Мы наштампавалі сваіх тройчы Герояў, а адзін дык нават быў пяць разоў і адышоў у лепшы свет ледзь не стаўшы героем у шосты раз. Вось якія мы шчодрыя на любоў!**

**Дык вось як мы любім начальнікаў!**

**І начальнікі, дзякуй ім, плацяць нам той самай страснай любоўю. Ці падымуць тост за вялікі народ, ці публічна стукнуць сябе ў грудзі, пакляўшыся ў вернасці ідэалам, ці паабяцаюць праз пару тыдняў пабудаваць такое файнае грамадства, дзе ўсё будзе па патрэбах.**

**Але мы таксама хлопцы няпростыя! Мы любім начальства да тае пары, пакуль яно жывое і ездзіць у чорных машынах. А як толькі пракувае адміністратыўная зязюля альбо засумуюць па ўсіх трох каналах тэлевізара сімфанічныя аркестры, мы адразу перастаём любіць мінулае начальства і пачынаем любіць будучае.**

**Не, мы зусім не прасцякі, мы хлопцы хвацкія, нас у шчырай любові не саб'еш.**

**Эх, паглядзелі б тыя, хто ў 1917 годзе здзейсніў для нас вялікую Рэвалюцыю, хто ішоў дзеля нас на катаргу сібірскімі этапамі, і ўбачыў бы нашую безаглядную любоў да начальнікаў! Не адзін бы, напэўна, падумаў: за што змагаліся лепшыя сыны Айчыны, каб адны манекены «бурна і працягла, авацыямі» апладзіравалі іншым марыянеткам!**

**Пра ўсё гэта падумалася, гледзячы на фатаграфію алмаацінскага фотамайстра, зробленую ім з нагоды 60-годдзя ўтварэння Казахскай ССР. Былі вялікія ўрачыстасці.**

**Паглядзіце, як радуюцца лепшыя людзі прызідыума. Гістарычны момант: «выдатны барацьбіт за мір» атрымаў чарговую перамогу. Магчыма, нават сусветна-гістарычную. Леанід Ільіч Брэжнеў забыўся на тасты і злавіў муху. З гэтай надзвычайнай падзеяй першы павіншаваў правадыра верны паплечнік і двойчы Герой Мухамед Дзін Мухамедавіч Кунаеў. Горды Леанід Ільіч, горды прэзідыум. Грыміць гордасцю зала.**

**Ох, і любім мы любіць начальства! Выдатна навучыліся за доўгія гады гэтаму дзіўна тонкаму мастацтву. Вось бы яшчэ навучыцца сябе паважаць. Цаны б нам не было.**

**Павел ЯКУБОВІЧ**

Віктар СУПРУНЧУК

*апавяданне*

# дамоў



— І раз, і два, і раз, і два! Левай, левай!..— пакрыкваў сяржант-недаростак у расхрыстанай на грудзях спяцоўцы. Рота ішла на абед у гарнізонную з брудна-чырвонай цэглы сталоўку. Нікога з калоны Лаўрэн не ведаў, ён служыў не ў гэтай роце, але часць у іх была адна. Яна мела назву будаўнічы батальён.

Рота прайшла міма, нехта свіснуў, рагатнуў, дружна ўдарылі падкаваныя жалезам абцасы аб брук. Няйнакш здагадаліся, што перад імі дзембіль: у руках чамадан, кірзавыя боты блішчаць як хромавыя. Адразу відаць, што выстраіўся дамоў. Крокаў дваццаць адгрукала рота, паядаючы вачыма Лаўрэна, і знікла ў чорнай пройме дзвярэй сталоўкі.

Атрымаўшы дакументы, Лаўрэн хацеў як найхутчэй апынуцца на вакзале, каб болей не бачыць казармы, не чуць яе абрыдлага масціка-ваксавага паху. Тое, што рота павітала яго як афіцэра, штосьці змяніла ў настроі, і ён, павесялелы, памалу ішоў па тэрыторыі часці, азіраўся па баках, напаследак разглядваючы сустрэчных, будынкі медпункта і клуба.

Раптам ён пачуў наперадзе рэзкія гукі трубы і барабана, маршавую музыку. Справа ад дарогі ля салдацкага клуба было ажно чорна ад «Волг». Гэта насцярожыла яго, і ён падумаў, як лацвей абмінуць пляц, на якім зараз нешта адбывалася і дзе сабраліся афіцэры. Але калі Лаўрэн убачыў тое, што было на пляцы, цікавасць узяла верх над асцярогай. Ён прыпыніўся і пачаў назіраць. На пляцы, дзе штораніцы развод, стоўпіліся, менавіта стоўпіліся, а не выстраіліся, сотні з дзве афіцэраў. За паўкіламетра ад іх гарлапаніў-лаяўся высозны, цыбаты чалавек з генеральскімі лампасамі. Ён закрычаў, і Лаўрэн выразна пачуў: «у калону па чатыры ста-на-ві-ся!!!» І ўвесь натоўп тоўстых і худых, высокіх і маленькіх, пажылых і маладых, палкоўнікаў і маёраў — здаецца, афіцэраў ніжэйшых чынам не было відаць,— загрукаў па пляцы. Яны прабеглі гэтыя пяцьсот метраў так хутка, як, мусіць, не бегалі даўно. Імгненна ўтварылі маналітную калону, бяздумную і паслухмяную волі даўгалыгага. А таму зноў нешта не спадабалася, бо да Лаўрэна даляцела фальцэтнае: «Разайдзісь!!!» Падатная камандам машына развалілася, ператварыўшыся ў натоўп разгубленых людзей. Лаўрэн здагадаўся, што афіцэры гарнізона рыхтуюцца да сустрэчы важнага госця. Пра ягоны прыезд апошнія дні толькі і гаворак было ў роце. Лаўрэн, заняты сваімі клопатамі, афармленнем дакументаў на звальненне з арміі, зусім забыў пра гэтую падзею. Дый яму, зрэшты, усё роўна, хто прыязджае.

Зараз канца муштры не было відаць, і Лаўрэн, шчаслівы і вясёлы, што яму не трэба маршыраваць разам з ротай (яны таксама збіраліся сустракаць важнага госця), слухаць мацюкі старшыны, падаўся прэч ад пляца. За КПП ён сцішыў хаду і ўжо зноў паволі пацягнуўся да вакзала. Білет быў у кішэні, а да вечара, калі адыходзіў цягнік на Маскву, яшчэ далёка. Ён углядаўся ў дамы, у сустрэчных людзей, як бы развітваўся з горадам, з якім лёс звязаў яго на два гады. Горад яму спадабаўся, і да яго людзей ён адчуваў павагу і нават удзячнасць, бо ўбачыў шмат чаго, што мог бы ніколі не ўбачыць, калі б не служба тут. Аднак цяпер ён пра гэта не думаў, проста ўсё нібы фатаграфаваў, занатоўваў у памяці.

Мінуўшы раён, які меў назву Канакер, Лаўрэн насцярожыўся: па вуліцах туды-сюды насіліся на матацыклах маліцыянты ў белых шлемах, у белых куртках, у белых штанах. Важна крочылі тройкі ваенных патрулёў. На вуліцы, па якой ішоў Лаўрэн, міліцыянты стаялі, мабыць, праз тры-чатыры крокі. Іх было так многа, што ён разгубіўся, баяўся, каб штосьці не затрымала яго ад'езд. Было адчуванне, што сустракалі не важнага госця, а чакалі нейкага перавароту ці мяцяжу. Ну як паказваюць па тэлевізары аб падзеях у афрыканскіх і лацінаамерыканскіх краінах.

Лаўрэн перайшоў на другую вуліцу, але і там было тое ж: кругом міліцыянты і ваенныя патрулі, якія ўжо двойчы спынялі яго. На шчасце, калі вымаўляў слова «дзембіль», махалі рукой, прапануючы барзджэй выбірацца адсюль.

І на вакзале была адна гамана: што на свята рэспублікі ў горад увечары прыляціць сам таварыш Брэжнеў. Яго партрэты, каляровыя і чорна-белыя, маленькія і вялікія, віселі, здаецца, на сценах усіх будынкаў. Дзядзька, які сядзеў побач з Лаўрэнам, пачаставаў яго кілбасой з памідорамі і, нахіліўшыся да вуха, цішком сказаў, што ўчора ў горадзе быў грандыёзны скандал.

— Вось тут,— ён паказаў пальцам на прывакзальную плошчу, і Лаўрэн убачыў высока ўзнятыя ў неба велічэзныя партрэты Брэжнева і Леніна,— нехта пажартаваў, мо і цяпер шукаюць гэтага жартаўніка.— І амаль уткнуўшыся вусамі Лаўрэну ў вуха, дзядзька апавядаў, што ўначы нейкі смяльчак-адчаюга ўзлез да партрэта Леніна і намаляваў на пінжаку правадыра Зорку Героя. Раніцай людзі ўбачылі, што не толькі Брэжнеў з медалямі, але і ў Леніна ёсць. За дзень увесь мільённы горад пабываў тут.

— А цяпер глядзі! — выцягнуў палец дзядзька, нібы паказваючы фокус, і Лаўрэн нічога не ўбачыў на грудзях ні ў Брэжнева, ні ў Леніна.— Вось так...— засмяяўся дзядзька, схаваў рэшткі свайго абеду ў торбу і праз хвіліну як растаў у вакзальным віры.

Хіліла на сон, і Лаўрэн задрамаў. Уначы ён не спаў. Яму не было як заставацца ў казарме. Адчуваў: калі затрымаецца трошкі, будзе кепска. Хоць, зрэшты, якая там віна, можна сказаць, змусілі яго... Сяржанты Аліеў, Каўбаеў і Мацюрупа падышлі да яго, ведалі, што атрымаў грошы. Канечне, была такая завядзёнка: той, хто ад'язджае, частуе сяржантаў і «дзядоў». Яму нікога не хацелася паіць, але ж падумаў, што служыць ім найменш паўгода, а ён шчаслівы — едзе дамоў. Чаму не падзяліцца хоць трошкі гэтым шчасцем? І Лаўрэн адразу згадзіўся адсвяткаваць свой ад'езд.

Іх рота стаяла ў гарах, за тры кіламетры ад яе ўправа і ўлева былі дзве вялікія вёскі. У адной прадавалі чырвонае віно па рублю за літр, а ў другой — белае. Лаўрэн даў грошай на чырвонае і на белае, а таксама на памідоры і на лаваш. Вырашылі сабрацца ў сталоўцы пасля адбою. Кухар Маныраў пакінуў Лаўрэну ключы ад прадуктовага склада, і на стол узялі мясных кансерваў, цыбулі, хлеба. На кухні з вечара пакінулі бульбы, на гэты раз яна была ператоўчаная з мясам.

Калі Лаўрэн увайшоў у сталоўку, там ужо сядзела чалавек трыццаць. Дзесяцілітровыя тэрмасы з віном стаялі на сталах. У Лаўрэна на душы было трывожна, не верылася, што гэта апошняя ноч у казарме, што, магчыма, ён гэтых хлопцаў не ўбачыць ніколі ў жыцці. Ён пільна агледзеў салдат, што сядзелі разам з ім за развітальным сталом. Насупраць усміхаўся Казбек Назарбекаў з Грознага. Яны не былі сябрамі, аднойчы нават ледзь не пабіліся з-за нейкай дробязі. І гэтая бойка была б не на карысць Лаўрэну, бо за Казбекам яшчэ чалавек трыццаць землякоў, якія ніколі не далі б яго ў крыўду. А ў Лаўрэна толькі два земляві: Васіль Камарэвіч з Лунінца і Казік Капурка з-пад Баранавіч. Сілы няроўныя, і таму, сціснуўшы зубы, давялося знесці абразу. Цяпер Казбек шчыра і амаль па-сяброўску яму ўсміхаецца, будзе піць віно, купленае на ягоныя грошы. Яны забылі ўсё кепскае, што было між імі, сёння свята, якога першым дачакаўся Лаўрэн.

— Салага, давай! — крычыць Юра Антонаў, б'е рукою па стале і на падлогу з грукатам падае жалезная міска. Лаўрэн уздрыгвае, ён крыху асцерагаецца Антонава, ля якога таксама пяць землякоў з Краснаводска. Яны, мусіць, ужо накурыліся анашы, бо ўчора Антонаў атрымаў з дому пасылку. Лаўрэн бачыў, як Антонаў мяшаў табаку з травой, пасля набіваў папяросныя гільзы. Раней у іхняй кампаніі быў Аляксей Мурзаў, таксама з Краснаводска, але яго забралі ў ваенную пракуратуру. Мурзаў цяпер у дысбаце.

— Давай, давай, салага! — рагоча Антонаў, адбівае на гітары акорд сваёй любімай песні, якая вельмі не падабаецца Лаўрэну, але ён слухае і ведае ўжо на памяць: «Двадцатилетних нас под стошестой приказ забрили на-

голо под барабан. Ох, как устали мы, ох, как состарились, нет больше юности в душе моей!..» «Толькі б цяпер не завыў... Крычаць пачне»,— з сумам думае Лаўрэн. А на табурэце ў цэнтры сталоўкі стаіць «салага» адэсіт Кірзуйка Васіль, хлапчыска пад два метры ростам, вечна галодны. Ён адзін можа з'есці бачок грэцкай кашы, бачок салдацкага баршчу на дзесяцёх і вып'е чайнік кампоту. Амаль штовечар Кірзуйка добраахвотна мые разам з нарадам посуд на кухні: гэта дае яму магчымасць сабраць недаедзеныя лусты хлеба. Ён мог бы на снядапак, на абед і на вячэру папрасіць сабе дзве порцыі, але тыя, хто служыць у будаўнічым батальёне, павінны разлічвацца за харч, абмундзіраванне і абутак са свайго заробку. Кірзуйка ўжо больш з'еў, чым зарабіў, і баіцца стаць даўжніком у арміі.

Цяпер ён на табурэце чытае загад міністра абароны аб чарговым звальненні з радоў Узброеных Сіл і скварна глядзіць на стол, ад якога смачна пахне мясам, цыбуляй і хлебам. Кірзуйка радасна дзярэ горла, і ягоны крык перакрывае бяседу, паныла спеў Антонава, які ўжо закурыў сваю папяросу.

На ўваходзе ляпаюць дзверы, і ўсё ўмомант сціхае, затойваецца. Ва ўсіх адна думка: хто? А калі дзяжурны па часці? Першае жаданне ў Лаўрэна — выскачыць у акно. Дзеля таго каб паехаць дахаты, ён здольны і на такое. Змоўк Кірзуйка, саскочыў з табурэткі і, выкарыстаўшы разгубленасць, ухапіў са стала мяса і хлеба. Толькі чуваць, як ён прагна грызе здабытую ежу, ніхто з «дзядоў» яму не перашкаджае. У калідоры ўжо рыпяць нейчыя боты, відаць, новыя. «Рып-скрып, рып-скрып, рып-скрып...» Каб не іранічны позірк Казбека, які здагадваецца аб пачуццях Лаўрэна, ён бы зараз уцёк адсюль. Вунь у кутку адчынена палова акна. Толькі цыгнуць — і ён на дварэ...

Расчыняюцца дзверы, і Лаўрэн нават перастае дыхаць: на парозе намеснік камандзіра роты старшы лейтэнант Анціпаў. Лаўрэн казаў яму пра свой ад'езд і намякаў пра лаваш з памідорамі, але не думаў, што Анціпаў прыйдзе. Прыйшоў. Але ж ён афіцэр... Раптам... Што ў ягонай галаве?.. Ён, здаецца, здзекліва акідвае ўсіх позіркам. Зараз пачуецца: «Устаць! Пастроіцца!» Уключыць усе лямпачкі, дастане з кішэні блакнот. З паўзмроку блішчаць на ім рамяні, новыя боты, казырок фуражкі. Ён вельмі прыгожы, гэты афіцэр, і ўсе салдаты ведаюць, што калі камандзір суседняй роты Сакалоў у камандзіроўцы, Анціпаў у час дзяжурства ўначы заходзіць да яго на кватэру і затрымліваецца там на дзве-тры гадзіны.

— Ну што? — зусім не строга пытаецца старшы лейтэнант.— Дамоў, Лаўрэн?

— Дамоў...— з цяжкасцю вымаўляе ён і чакае, што скажуць далей, але ўсё-ткі супакойваецца, адлягае трывога ад сэрца.

— Што ж ты забыў пра свайго камандзіра? — вытрымаўшы паўзу, пытае Анціпаў. Яму не даюць скончыць фразу: дружнае, хоць і прыглушанае, «ура» ўзрывае напятую цішыню.

Намкамроты ўсаджваецца на пачэснае месца між Лаўрэнам і Казбекам, а насупраць іх — Антонаў, які налівае ў паўлітровы кубак чырвонага віна. Ад Анціпава пахне жаночымі духамі. Няйнакш сусед у камандзіроўцы. Але пытаць пра гэта ўголас нікому не прыходзіць у галаву. Галоўнае, каб старлей быў задаволены. Ён п'е віно і праз колькі хвілін у сталоўцы ўсё па-ранейшаму, кожны нешта гаворыць. Алкаголь бярэ ў сваю абладу ўсіх. Адзін Лаўрэн не п'е. У яго задача — пад раніцу незаўважна выслізнуць з кампаніі і знікнуць з роты.

Да яго лезе, чапляецца Казбек. Ён успомніў пра свайго земляка Аліка Мусарава, які павінен быў звальняцца з арміі разам з Лаўрэнам. Але што зробіш — яго ўжо няма. Лаўрэн слухае Казбека, і слёзы нагортваюцца на вочы. Усё-ткі дзейнічае алкаголь на нервы. Ужо мінула тры месяцы, як забралі Аліка бацькі і пахавалі ў сваёй Чэчні. Разам з Антонавым яны былі на балконе на чацвертым паверсе. Алік тынкаваў сцяну, а Антонаў страхаваў яго. Пакінуў аднаго, кажа, мо на хвіліну, а дошка кульнулася пад нагамі, і Мусараў з чацвёртага паверха ўпаў на каменне... Ён пражыў яшчэ паўгода... «Чаму ён пакінуў Аліка?» — пытае Казбек у Лаўрэна і плача, сціскае кулакі. Малоціць імі па стале, лаецца, крычыць.

— Ты знарок пакінуў Аліка!!! — выгуквае ён і хапае Антонава за плечы, цягне яго на сябе і перакульвае кубкі з віном. Старшы лейтэнант нешта спрабуе камандаваць, але ён на моцным падпітку і яго ніхто ўжо не слухае. Казбек б'е з размаху Антонава ў твар і вылівае яму на галаву кубак віна. У сталоўцы пачынаецца вэрхал, усе крычаць: адны супакойваюць забіякаў, другія падзяляюцца на варожыя лагеры. І толькі Кірзуйка спакойны, у яго свой інтарэс: рукі і рот заняты ежай.

Апошні раз глядзіць на былых аднапалчан Лаўрэн, няма сэнсу развітвацца: усім ужо не да яго. Ён спыняецца ля адчыненага акна і нечакана ўспамінае першы дзень службы, калі іх, страшэнна стомленых за восем дзён дарогі, яшчэ ў цывільнай вопратцы, адразу з цягніка прывялі ў гэтую сталоўку. Яны паабедалі, і добрую гадзіну касаваты падпалкоўнік, як кажуць, на «дэсерт» расказваў пра Малую зямлю і яе агромністую ролю ў Вялікай Айчыннай вайне. Лаўрэн чуў толькі ўступ, а потым, знясілены дарогай, разморыны салдацкай кашай і словамі падпалкоўніка, нібы праваліўся ў бездань, заснуў і ачуўся, калі прамоўца заканчваў сваё выступленне. Спалі амаль усе наваабранцы. Іх пабудзіла каманда: «Устаць! Выходзь строіцца!» Гэты малюнак узнавіўся ў памяці Лаўрэна на нейкую долю хвіліны і знік. Перад вачамі была рэальнасць: вось-вось у сталоўцы пачнецца бойка. І вінаваты за гэта будзе ён. Адно ратуе: тут намкамроты старшы лейтэнант Анціпаў. Можа, хоць ён працверазее і праявіць сваю волю.

Лаўрэн выскачыў праз акно і звычнай дарогай, міма вышкі вартавога, праз дзірку ў плоце, па цясніне, якая ўпрытык да іхняга гарадка, шыбануў да горада. Якраз паспяваў на першы ранішні аўтобус. У часці ён атрымаў дакументы, паглядзеў, як афіцэры рыхтуюцца да сустрэчы Брэжнева. І вось цяпер сядзіць на вакзале. Толькі неспакойна на душы, вельмі неспакойна... Ён думае пра развітальную вячэру. А калі зараз з'явіцца дзяжурны з часці і верне яго, Лаўрэна, у роту?..

На вакзале, як заўсёды, было тлумна. Проста над Лаўрэнам вісеў дынамік, які маўчаў, бы даючы людзям удосталь пагаманіць, падзяліцца з выпадковым суседам па лаўцы нечым сваім, якое часам не выкажаш знаёмаму чалавеку. І неспадзеўкі дынамік захрыпеў, адразу перакрываючы ўсю вакзальную гаману, адкашляўся і гучна заспяваў барытонам: «Малая земля, великая земля... Малая земля, великая земля...» І гэтак хвіліну-другую. Іншых слоў не было чуваць, пэўна, заела магнітафон ці прайгравальнік. Калі людзі спярша пачціва слухалі, дык потым пачалі смяяцца. Нарэшце ў дынаміку шчоўкнула, змоўк барытон і ўсе пачулі лаянку з мацюкамі. Відаць, нейкі начальнік выгаворваў таму, хто адказваў за музыку. Цяпер ужо людзі ледзь не клаліся ад смеху. Здалося, хваля рогату выкацілася на перон і, набыўшы яшчэ большую сілу, панеслася па вуліцы. Не смяяўся толькі Лаўрэн: не мог забыць казарму, вячэру ў сталоўцы...

Але вось тэхніку наладзілі і зноў паляцела з дынаміка: «Малая земля, великая земля...»

— Ачысціць памяшканне, ачысціць памяшканне! — у вакзал увайшлі чалавек з пяць міліцыянтаў у белым і пачалі вытурваць людзей з залы. Навошта гэта яны рабілі, Лаўрэн зразумеў, калі ўбачыў, што сюды нясуць некалькі партрэтаў. Іх, напэўна, збіраліся прымацоўваць да сцяны, а людзі заміналі.

На шчасце, аб'явілі пасадку на маскоўскі цягнік. І Лаўрэн разам з іншымі пасажырамі пабег на платформу. Калі ўвайшоў у вагон, з усіх дынамікаў грымела: «Малая земля, великая земля...»





Фота Генадзя СЛЕСАРЭНКІ

Алег ЛЫСАКОНЬ

буйным планам

# простая складаная гульня

У гэтага інтэрв'ю ёсць свая перадгісторыя. Задумвалася яно быццам змешчаным у часе і ў прасторы. Першая сустрэча і досыць грунтоўная размова адбыліся напярэдадні ад'езду жаночай баскетбольнай каманды краіны на галоўныя гульні чатырохгоддзя — у алімпійскі Сеул.

Выбар асобы гераіні не выклікаў сумненняў. Хто ж не ведае Галіны Савіцкай, нападніцы мінскага «Гарызонту» і нацыянальнай зборнай? Тытулы ў яе гучныя, выклікаюць павагу і лёгкую зайздрасць. Зрэшты, мяркуйце самі.

Яна заслужаны майстар спорту, чэмпіёнка свету, шматразовая чэмпіёнка Еўропы і Сусветных Універсіяд, пераможца турніру «Дружба-84», бронзавы прызёр VIII летняй Спартакіяды народаў СССР. Вось ужо шмат гадоў нязменны капітан жаночай баскетбольнай каманды «Гарызонт», якая чатыры гады запар спыняецца літаральна за паўкроку ад п'едэсталаў гонару саюзнага першынства, займаючы чацвёртыя месцы. Дый у цяперашнім, 56-ым па ліку чэмпіянаце СССР «Гарызонт» сярод фаварытаў.

А як яна гуляе! Без усялякага перабольшвання, 27-гадовая спартсменка — адна з лепшых нападніц не толькі кантынентальнага, але і ўсяго сусветнага жаночага баскетболу. Лепшай кандыдатуры сярод удзельнікаў Алімпіяды па ігравых відах спорту цяжка было прыдумаць. Вось і захацелася ў тыя восеньскія дні высакоснага 1988 года пільна ўглядзецца ў яе рысы, даведацца, чым яна дыхае, пра што марыць. Асоба вялікага спартсмена нярэдка ахутана загадкавым флёрам зусім асаблівага жыцця, не падобнага на нашую шэрую будзённасць.

Тады было вырашана ўстрымацца ад класічнае формулы знаёмства з вядомай баскетбалісткай. Адмовіцца ад спакусы паразважаць з пэўнай замілаванасцю пра яе жыццёвую і спартыўную біяграфію, пра доўгую семнаццацігадовую дарогу ў вялікі спорт, з яго абавязковымі траўмамі, каласальнымі нагрузкамі, пастаяннымі падарожжамі на знясільваючыя зборы і адказныя спаборніцтвы, адарванасцю на многія месяцы ад сям'і. Проста паспрабаваць, як кажуць, з першых рук даведацца, што яна думае пра ўласны лёс, баскетбол.

Паўтару: размова, спадзяюся, прыемная, адбылася на пачатку леташняй восені. І адразу ж дамовіліся зноў сустрэцца пасля заканчэння Алімпійскіх гульняў,

каб інтэрв'ю набыло святочнае адценне і пераможны каларыт. У тым, што савецкая зборная лёгка заваюе залатыя медалі, не сумняваліся, бадай, і самыя адчайныя песімісты.

— Галіна, спартыўны стаж у вас досыць вялікі. Ці не шкадуеце вы з вышыні пражытых гадоў, што знітавалі сваё жыццё з баскетболам? Маглі б выбраць прафесію і больш самавітую, і больш надзейную.

— Я зусім не расчараваная. Пакажыце мне такога чалавека, які быў бы няшчасны, маючы заваяваныя ў барацьбе вышэйшыя тытулы, згадваючы гучныя перамогі на сусветным узроўні.

— Але вы выдатна вучыліся ў школе. Выкладчыкі адзначалі вашы высокія поспехі пераважна ў дакладных дысцыплінах.

— Напэўна, у гэтым «вінаватыя» гены бацькі, які быў капітанам баскетбольнай каманды вышэйшай лігі мінскага РТІ і без асаблівага напружання абараніў кандыдацкую дысертацыю ў галіне фізіка-матэматычных навук. Ну, а мне зрабіць правільны і адзіна дакладны выбар было вельмі нялёгка. Школу ж я скончыла, калі мне было ўсяго толькі пятнаццаць гадкоў. Вельмі цьмяна тады я ўяўляла сабе, кім хачу стаць у дарослым жыцці. Аднак здагадвалася аб адным: спорт, баскетбол — гэта надоўга. Натуральна, пасля нядоўгіх ваганняў апынулася ў інстытуце фізкультуры. Веданне фізіялогіі атлетаў, псіхалогіі, методыкі трэніровак вельмі спатрэбіліся на пляцоўцы.

— А чаму абралі баскетбол? Таксама жалезная воля бацькі, Уладзіміра Крысевіча?

— Бацькоўскага дыктату і блізка не было. Прафесійна аддаючыся баскетболу, мае бацька і маці ў душы заставаліся чыстымі аматарамі. Зрэшты, і час тады быў зусім іншы — крышачку наіўны і зусім не меркантыльны.

У мяне ж усё здарылася даволі нечакана і дзесьці нават банальна. У школу, дзе я вучылася, зазірнула трэнер Марыя Іванаўна Сялюніна і адразу прыкмеціла высокую дзяўчыну. Равеснікі хіхікалі з маіх фізічных даных, і на зло ім я з ганарліва ўзнятай галавою пайшла ў калектыў, дзе ўжо нічым абсалютна не вылучалася. Зрэшты, не: была пяшчотная, ўражлівая і капрызлівая. Так што за вушы ў спорт мяне ніхто не цягнуў. Усё вырашыў яго «вялікасць» выпадак. А можа, гэта быў сам лёс? Хто ведае...

— І што для вас цяпер азначае баскетбол?

— На дадзеным этапе гэта ўсё маё жыццё. Кажу гэта без усялякага какецтва і перабольшвання. Ва ўсіх аспектах — гэта і праца, і гульня, і для душы занятак, і забеспячэнне ў матэрыяльным плане. Нават з мужам я пазнаёмілася менавіта праз баскетбол.

— Галя, вам яшчэ гуляць ды гуляць. Але давайце ўсё ж такі зазірнём у далёкую будучыню. У якой ролі вы сябе ўяўляеце? Мабыць, пойдзеце па трэнерскай сцяжыне?

— Не дай бог! У мяне склалася цвёрдае перакананне, што па натуры я зусім не педагог. З дзецьмі я нават і не спрабавала працаваць. Зрэшты, і займацца гэтым нават баюся. А ўзвальваць на свае плечы каманду майстроў? Ім жа потым самім горш будзе. Мне проста не хопіць ураўнаважанасці і самакантролю. Я буду паводзіць сябе як эмацыянальны, безразважлівы гулец, а не як карэктны і мудры трэнер. Ды я і згадаць не магу баскетбольных жанчын-трэнераў высокага класа. Выключэннем з'яўляецца хіба што Лідзія Аляксееўна, былая настаўніца нашай нацыянальнай зборнай. Яна прывяла каманду да дзвюх алімпійскіх перамог.

Напэўна, у нас у краіне склалася менавіта такая тэндэнцыя. За мяжою сітуацыя трохі іншая. Напрыклад, у зборных ЗША, Бразіліі. Зыходзячы з уласнага вопыту думаю, што пасада галоўнага дамы-трэнера не адпавядае пяшчотнай жаночай натуры. Калі доўга гуляеш, так стамляешся ад спорту, што працягваць займацца ім на іншым, якасна вышэйшым узроўні проста не застаецца ні сіл, ні жадання. Гэта і хранічны мінімум вольнага часу, і неверагодны псіхалагічны прэс. Прычым не для цябе асабіста, а для ўсіх тваіх блізкіх.

— Напэўна, таму на ўсякі выпадак вы і вырашылі атрымаць яшчэ адну вышэйшую адукацыю? У чарговым дыпломе ў графе «прафесія» цікаўныя могуць прачытаць слова «журналістка».

— О, гэтая дзейнасць мне надзвычай падабаецца, хоць я мала ведаю пра яе тонкасці і нюансы. Баскетбол у аглядах спорту ў газетах, на радыё, па тэлебачанні займае зусім не тое месца, якое па праву заслугоўвае. А спартсмены высокага класа, якія валодаюць многімі тытуламі і гучнымі імёнамі, проста абавязаны прапагандаваць гэтую гульню. Хутчэй за ўсё менавіта гэтым я і займаюся.

— Значыцца, не выключана, што калі-небудзь з'явіцца і кніга за вашым подпісам?

— Мемуары? Не, я іх пісаць не збіраюся. А зрэшты... Падазраю, што абавязак усіх вялікіх атлетаў — дапамагчы людзям зазірнуць за кулісы вялікага спорту, даносіць да дзятвы свой вопыт, перажыванні, засцерагаць ад няправільнага кроку. І потым, заўзятарам проста цікава судакрануцца з загадкавай асобаю сучаснага спартсмена. Да яго ж так проста не падыдзеш, па душах не пагаворыш. А тут сама Савіцкая, бац, і напісала пра ўсе свае прыгоды, узаемаадносіны, нават крыўды і несправядлівасці. Вось будзе цікава!

— Нядаўна быў апублікаваны спіс дзесяці лепшых баскетбалістак еўрапейскага кантынента. Там вы знаходзіцеся на ганаровым чацвёртым месцы і значна апярэджваеце дзвюх іншых савецкіх спартсменак. Верагодна, пасля прачытання вы сталі паважаць сябе яшчэ больш?

— Падобны спіс складаецца штогод, але публікуецца з незразумелых прычын не так часта. Я ўжо шмат гадоў знаходжуся ў зборнай і практычна кожны год фігурую ў дзесятцы. Так што для мяне гэта не з'явілася сенсацыяй. Як я стаўлюся да славы? З задавальненнем, як да добра выкананай работы.

— Якое месца ў вашым жыцці займае каманда «Гарызонт»?

— Спорт, баскетбол, «Гарызонт» — для мяне паняцці непадзельныя. У родным клубе я прайшла па ўсіх прыступачках, пачынаючы з дзесяцігадовага ўзросту.

— А з іншых клубаў запрашэнні часам не паступалі?

— Вельмі шмат, асабліва калі мы гулялі ў першай лізе. Запэўнівалі, што менавіта ў камандах экстра-класа будзе імкліва прагрэсіраваць маё майстэрства. Але я была маладая і не ўяўляла, як гэта можна пакінуць родны горад, блізкіх сяброў. Заўважу, што дарослы чалавек глядзіць на падобныя рэчы нашмат больш цвяроза. А потым да нас прыйшлі поспехі і аб пераходах ужо і гаворкі быць не магло. Зрэшты, пачуццём патрыятызму я таксама не абдзеленая.

— Апошнія чатыры гады каманда «Гарызонт» стабільна займае чацвёрты радок у турнірных табліцах. Вам усім не крыўдна, што ў самы апошні момант спыняецеся літаральна за паўкроку ад запаветных медалёў усесаюзнага чэмпіянату?

— Спачатку нават радаваліся, што, апынуўшыся сярод мацнейшых каманд краіны, змаглі адцясніць іх са звыклых месцаў. Ну а цяпер дамінуе пачуццё крыўды. Я спрабавала зразумець, у чым прычына нашых адносных няўдач. Напэўна, уся справа ў вельмі няроўным складзе і кароткай лаўцы запасных. І потым, галоўны цяжар чэмпіянату зазвычай кладзецца на двух, трох асноўных гульцоў. А ў іх да канца складанага сезона жудасная стома — і фізічная, і маральная.

— А не выключаны варыянт, што ў апошні момант дзяўчаты проста забаяліся?

— Вопытным гульцам такое пачуццё не знаёмае. Моладзь, вядома, хвалявалася. Але гэтае дзіўнае пачуццё нараджалася з-за цяжару адказнасці, вялікага жадання нарэшце перамагчы і паказаць сябе ва ўсёй сваёй прыгажосці. А панічнага страху на пляцоўцы я штосьці не заўважала.

— Цікава, як вы ставіцеся да свайго настаўніка Сямёна Львовіча Халіпскага?

— Напэўна, гэтак жа, як да любога чалавека, з якім робіш адну агульную справу на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў. Спачатку была глыбокая павага, затым пачуццё еднасці і суперажывання. Як вы самі разумееце, усякае здаралася. І канфлікты, і шчаслівыя хвіліны, якіх было, вядома, нашмат больш. Карацей, усё як у нармальным творчым спартыўным жыцці.

— Ну, а да галоўнага трэнера зборнай краіны, заслужанага трэнера СССР Леаніда Аляксандравіча Ячмянёва?

— Нешта адназначнае сказаць не магу, бо ў камандзе пад яго кіраўніцтвам знаходжуся ўсяго толькі другі сезон. Чалавек ён нялёгкі, супярэчлівы, і агульную мову мы знаходзім з вялікай цяжкасцю. Я з усяе сілы стараюся падстройвацца пад усе патрабаванні, аднак прадказаць ягоныя думкі і ўчынкі бывае немагчыма. Зрэшты, гэта мая цалкам асабістая, можа, суб'ектыўная думка.

— Галіна, у такім разе ацаніце ўласны характар.

— Таксама не мёд. Але вельмі спартыўны. Я ўвесь час лаўлю сябе на тым, што на любыя словы адказваю дзеяннем, спрабую высветліць усё да канца, уступаю ў дэбаты з нікчэмнай нагоды. Напэўна, гэта моцна нервуе астатніх. Супакойваю сябе тым, што такі раздражняльнік прыносіць пэўную карысць. Будзіць фантазію, запрашае да пошуку. Суцяшаю сябе надзеяй, што ў трэніровачным плане, у выкананні заданняў да мяне прэтэнзій амаль не бывае. А тых, хто абыякава згаджаецца з любымі самымі дзіўнымі патрабаваннямі трэнераў, я таксама разумею.

— У прэсе прамільгнула паведамленне, што ў шэрагу еўрапейскіх баскетбольных клубаў не адмовіліся б убачыць у сваім складзе капітана мінскага «Гарызонту». Наколькі гэтыя чуткі абгрунтаваныя і ці жадае сама Галя Савіцкая пагуляць у замежнай камандзе?

— Вядома, хачу, але толькі пасля таго, як савецкая зборная заваюе залатыя медалі. Давайце паразважаем. У роднай камандзе я відавочна мацнейшы гулец. Лідэр. А там мне давядзецца раз за разам даказваць сваю сілу і магчымасці. Потым, хочацца пагуляць у трохі іншы баскетбол — класам вышэйшы. Нарэшце, убачыць свет. Гэта таксама вельмі важна для любога нармальнага чалавека.

— Напэўна, не на апошнім месцы і меркантыльныя меркаванні?

— Цяжка сказаць... Згадаем сітуацыю, у якую трапіла Ульяна Сямёнава. Не скажаш, што яна засталася такая ўжо задаволеная пасля некалькіх месяцаў, праведзеных у Іспаніі. Для сябе я вырашыла, што ў матэрыяльным плане нічога не страчваю. А наколькі выйграю — гэта пакажа час. Зрэшты, пакуль у гэтым плане, а менавіта — заключэнне кантракту, дата выезду, канкрэтнай каманды і краіны, мне нічога дакладна не вядома.

— А ці не хвалюе вас у гэтай сувязі далейшы лёс «Гарызонту»? Каманда ж страціць ключавога гульца. А паўнацэннай замены яму ў бліжэйшай будучыні няма і нешта не відаць.

— Мне хочацца верыць і спадзявацца, што калектыў без мяне не прападзе. Адзін час у сувязі з нараджэннем сына я таксама пару месяцаў не выступала. «Гарызонт» тады заняў сваё «чацвёртае» месца. І потым, мяне супакойвае такая развага. Калі моладзь, дый не толькі яна, усю чарнавую работу звязвае выключна з дзеяннямі лідэра, самі іншы раз да канца не раскрыюцца, не загуляюць на поўную моц. Чалавек, асоба, гулец выяўляецца пераважна ў экстрэмальных сітуацыях. Перакананая, што нешта падобнае ўрэшце і здарыцца. У «Гарызонце» зазіхацяць новыя, яркія таленты.

— Ці існуюць праблемы ў маладой мамы?

— Я ўжо маці са стажам. Майму сыну хутка будзе ажно тры гады. (Гэта Галіна сказала з гонарам.) Лічу, што ён амаль дарослы і надзвычай самастойны чалавек. Спачатку было цяжкавата, цяпер лягчэй. Улетку па чарзе дапамагаюць ласкавыя, клапатлівыя бабулі. А ў час сезона ходзіць у яслі, неўзабаве пойдзе ў садочак. Як ні дзіўна, пасля доўгае адсутнасці ён мяне пазнае. Напэўна, таму, што бабулі няспынна паказваюць мае фатаграфіі з абавязковым тлумачэннем, што ён бачыць сваю родную маці.

— Задамо ўласна баскетбольнае пытанне. Сярод спецыялістаў ходзяць чуткі, што амерыканкі, вашыя злосніцы на апошнім чэмпіянаце свету і галоўныя канкурэнткі на алімпійскае золата, цяпер прыкметна пабляклі.

— Так, мы чулі, што яны пацярпелі шэраг паражэнняў. Але ж яны проста маглі, не раскрываючы ўсіх «карт», выставіць зусім не мацнейшы склад. Мы іх не бачылі, бо яны адмовіліся выступаць у тых турнірах, у якіх прымала ўдзел савецкая зборная. Ці ж не праўда — факт вельмі красамоўны, але ён не дае падставы для самазаспакаення. Алімпійскі прынцып вядомы: у фінальнай стадыі той, хто прайграе, выбывае з далейшай барацьбы за залатыя медалі. Такая жорсткая формула стымулюе надзвычайна. Таму будзем гуляць. І перамагаць!

...На жаль... Прагнозы, замешаныя нават на самым адчайным аптымізме, у спорце часта не збываюцца. Савецкая баскетбольная зборная і Галя Савіцкая ў тым ліку вярнуліся з Сеула толькі з бронзавымі медалямі, што было расцэнена як буйны правал.

Памятаючы пра дамоўленасць, вырашыў звярнуцца па тлумачэнні непасрэдна да ўдзельніцы такіх драматычных падзей. Галя шмат разоў пераносіла месца і час сустрэчы, а затым заявіла наступнае:

— Пра Алімпійскія гульні нічога гаварыць не буду! Няхай пра гэта разважаюць спецыялісты. Як ідуць справы ў «Гарызонце»? Таксама не хачу шчыраваць. Ну і што, што я капітан? Цяпер я вырашыла так. Я прыйшла на работу, а баскетбол — гэта мая работа,— адыграла належны час, адтрэніравалася і пайшла. Баста, астатняе не мой клопат.

Пасля шоку, выкліканага адказам Галіны Уладзіміраўны, прыйшлося звярнуцца па каментарый непрадказальна рэзкай і невытлумачальнай змены настрою будучага калегі-журналіста да заслужанага трэнера СССР, галоўнага трэнера каманды «Гарызонт» Сямёна Львовіча Халіпскага.

— Хутчэй за ўсё, прычына ў тым, што мы не адпусцілі Галіну гуляць у замежны клуб. Мы былі б і рады пайсці ёй насустрач, але ў камандзе цяпер катастрафічнае становішча. За апошнія некалькі гадоў «Гарызонт» з розных прычын пазбавіўся адразу пяцярых высокакласных баскетбалістак асноўнага складу. Калі нас пакіне яшчэ і Савіцкая, самы вопытны майстар, далейшы лёс калектыву прадказаць вельмі праблематычна. Тады пра медалі і гаворкі быць не можа, дай бог утрымацца ў вышэйшай лізе. Таму, даведаўшыся пра канчатковае рашэнне, наша выхаванка пачала фыркаць. Не выключана, што з-за адчування незаменнасці настаў рэцыдыў вядомай «зорнай» хваробы.

Што ж да баскетбольных спаборніцтваў у рамках Алімпіяды, то ён стаў турнірам нявыкарыстаных магчымасцей. Да галоўнага матча з камандаю ЗША нашы дзяўчаты падышлі разгубленыя, няўпэўненыя ў сваіх сілах, бледнасць залівала твары. Не знайшлося лідэра, асобы, якая павяла б за сабою астатніх. Нібыта заразіўшыся такім настроем, і Савіцкая змянілася на вачах, ператварылася з «зоркі» ў вельмі сярэдняга гульца. Вядома, любая іншая каманда магла б ганарыцца бронзавымі алімпійскімі медалямі. Любая! Але толькі не нашая.

Вось такі нечаканы працяг атрымала самае, здавалася б, звычайнае інтэрв'ю.

**P. S. АД АЎТАРА.** Пакуль гэты матэрыял рыхтаваўся да друку, а здадзены ён быў у партфель рэдакцыі ажно ў студзені, здарылася мноства падзей.

Дэмакратычным галасаваннем змянілі галоўнага трэнера зборнай краіны. Ім стаў заслужаны трэнер СССР Яўген Якаўлевіч Гомельскі, які лічыць Галіну Савіцкую унікальнай з'явай айчыннага баскетбола.

Мінскі «Гарызонт», нарэшце пераадолеўшы пяцігадовую паласу адносных няўдач, узабраўся ўсё ж такі на сярэбраную прыступку п'едэсталу гонару і будзе ў наступным годзе змагацца за еўрапейскі Кубак Ліліян Ранкеці.

З кіраўніцтвам «Гарызонту» ёсць дамоўленасць, што калі Галяй Савіцкай зацікавіцца замежны клуб, яе адпусцяць пагуляць за яго з удзячнасцю. Таму цяпер у камандзе спакой. Галя больш не фыркае.

А мы ўсе разам па-ранейшаму любім наш сімпатычны «Гарызонт».




## БЕЛАРУСКІ РОК

Думаю, што падобную дэфініцыю можна з літаратурнага свету перанесці ў свет рокавы: да беларускага року належаць творы, напісаныя аўтарамі на беларускай мове. А музыка? А музыка, жывапіс, архітэктура патрабуюць іншых доследаў і дэфініцый.

На «Рок-крок 89» у Гродна акрамя «Уліса» прыехала 13 гуртоў.

«Вінцэнт» з Вроцлава прадстаўляў польскую рок-культуру, а «Присутствие» з Ленінграда — рускую. Гэтыя два прафесійныя гурты, што прысутнічалі на фестывалі ў якасці гасцей, досыць выразна акрэслівалі межы, у якіх развіваецца беларускі рок.

Беларуская рок-культура на фестывалі выглядала на добрым узроўні, пра гэта сведчыць і колькасць прызоў: тры з пяці атрымалі беларускія гурты — «Бонда», «Уліс», і «Мясцовы час». А «Рэй» і «Гульня ў дождж», на жаль, выступілі не лепшым чынам. Выступленне «Рэя» сапсаваў гукааператар Жан, а выступленне «Гульні ў дождж» было занадта традыцыйна эстрадным у горшым сэнсе.

Заканчэнне.
Пачатак на стар. 17.

## ВАКЗАЛ

Люблю назіраць за рок-музыкантамі на вакзальным пляцы. Стомленыя, яны развітваюцца, і кожны са сваім інструментам ідзе на свой прыпынак. Бачыш?! Вунь Кірыл панёс у метро чорны футарал з барабанам. Вунь Сяржук засунуў у таксоўку сваю бас-гітару. Вечаслаў зайшоў у тралейбус. Валера і флейтыст Сяржук пайшлі пешкі і схаваліся за рогам. Фелікс скочыў у трамвай, а Андрэй Патрэй забыўся ў вагоне шалік і цяпер пабег назад... Бывай, «Уліс»,— надзея «Рок-кроку 89».

Усё?

Цана 25 кап. «Крыніца» 1989, № 9, 1—44
Індэкс 74824